КУЛЬТУРА ‣ ГРАМАДСТВА ‣ ЭКАНОМІКА ‣
ЛЮДЗІ ‣ ПАДЗЕІ ‣ ФАКТЫ

‣ № 21 (293) ‣ 25 мая ‣ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



УЛАДЗІМІР ЛАБКОВІЧ

Стар. 6

**ЛЮДЗІ НАЙБОЛЬШ ЦЭНЯЦЬ МАРАЛЬНУЮ ПАЗІЦЫЮ І САЛІДАРНАСЦЬ**

Радыё «Свабода» — легендарная радыёстанцыя. Справы выдавецкія і гуманістычныя з дырэктарам Беларускай службы Радыё «Свабода», заснавальнікам «Бібліятэкі Свабоды» Аляксандрам Лукашуком абмяркоўвалі Аляксей Кароль і Вольга Хвоін

Стар. 4–5

**ГУЛЬНІ З ПРАЛЕТАРЫЯТАМ**

Пра тое, нашто Пуціну флірт з рабочымі, журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з расійскім палітолагам Дзмітрыем Касценкам

Стар. 29

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ГЕНЕРАЛ ЯН КАНОПКА**

Нарыс Сяргея Чыгрына

З НАГОДЫ

# «БРАТЭРСКІ» ВІЗІТ

Вольга ХВОІН

**Напрыканцы мая Беларусь з афіцыйным візітам наведае зноўабраны стары кіраўнік Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін. Кіраўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства ўжо заявіў, што гэты візіт ёсць пацвярджаннем значнасці сувязяў дзвюх дзяржаў. Каляпалітычнае кола тым часам пасмейваецца, што Уладзімір Уладзіміравіч едзе наведаць тэрыторыі, якія ўваходзяць у праграму па збору зямель.**




Першы афіцыйны візіт у статусе кіраўніка расійскай дзяржавы Уладзімір Пуцін зробіць у Беларусь 31 мая. «Бясспрэчна, візіт, які мы рыхтуем, з’яўляецца важным з усіх пунктаў гледзішча. Гэта візіт новага прэзідэнта Расійскай Федэрацыі — дзяржавы, з якой у нас каласальныя сувязі, і двухбаковыя, і ў розных інтэграцыйных форумах, — бадзёра заявіў міністр замежных спраў Беларусі Сяргей Мартынаў. — Гэта сігнал, накіраваны на пацвярджэнне значнасці сувязяў дзяржаў гэтага рэгіёну паміж сабой, тых працэсаў, пра якія мы гаворым, і значнасці не толькі ў двухбаковых адносінах Беларусі і Расіі, але і ў значна больш шырокім кантэксце».

«Наш наступны крок — запуск з 2015 года праекта Еўразійскага эканамічнага саюза», — заяўляў Уладзімір Пуцін, выступаючы перад дэпутатамі Дзярждумы са справаздачай за мінулыя чатыры гады. Уласна на прэзідэнцкі тэрмін Пуцін ішоў з некалькімі прыярытэтнымі ідэямі: дэмаграфічная паспяховасць расійскай дзяржавы, яе захаванне, умацаванне і абарона ад знешніх пагроз, новыя працоўныя месцы, пабудова новай эканомікі, умацаванне пазіцый Расіі ў свеце — перш за ўсё праз новую інтэграцыю на еўразійскай прасторы.

Ці радуюцца на Карла Маркса, 38 такой увазе да Беларусі з боку расійскага ўладара? Сумнеўна. Прынамсі так гавораць хіба што толькі пра заклятых сяброў. «Ні ў Расіі, ні ў Пуціна няма рэсурсаў для таго, каб задушыць Беларусь», — заяўляў Аляксандр Лукашэнка 8 мая, адказваючы на пытанні дэпутатаў парламента. Паводле яго слоў, памыляюцца тыя, хто лічыць, што Уладзімір Пуцін пасля абрання на пасаду прэзідэнта РФ «пачне душыць Беларусь».

«Па-першае, для гэтага ў Пуціна няма рэсурсаў; па-другое, гэта сабе на шкоду. І Расія ніколі на гэта не пойдзе», — пераконваў слухачоў Лукашэнка. Ён успомніў пра перыяд, калі Расія ўстанавіла для Беларусі «вельмі высокія кошты» на энерганосьбіты. «Справа не столькі ў АЭП. Расія зразумела, што яшчэ год такой палітыкі ў дачыненні да Беларусі — і Беларусь больш ніколі не будзе на баку Расіі, таму акуратненька адступілі», — патлумачыў сутнасць сяброўства беларускі лідар. І дадаў, што другі раз такой памылкі «Пуцін не паўторыць». Увогуле, Аляксандр Лукашэнка любіць гаварыць пра свае фобіі ў фантазійнай форме і з часціцай «не» — «Плошчы не будзе», «ніхто нас не нахіліць», «зоймем зараз рынкі — асабліва Расіі, перад уступленнем у СГА — ніхто нас адтуль не выжыве» і гэтак далей.

Цікава, што візіту Пуціна ў Беларусь папярэднічаў візіт прэзідэнта Казахстана Нурсултана Назарбаева. І прайшоў ён не пад прыцэламі фота і відэакамер у Мінску, а ў Белавежскай пушчы ў рэзідэнцыі «Віскулі». Відавочна, палітычныя лідары дзвюх краін дамаўляліся аб паразуменні і супрацоўніцтве пад крылом вялікага інтэграцыйнага праекту Расіі. «Мы ў дэкларацыях напісалі, што да 2013 года Расія падыдзе да магчымасці вырашэння пытання аб чыгуначных тарыфах, а да 2015 года завершыць працу па манапалістах: па газаправоднаму, трубаправоднаму транспарту. І мы тады падыдзем да стварэння Еўразійскага эканамічнага саюза», — растлумачыў прэзідэнт Казахстана Назарбаеў. «Разглядаючы вашу краіну ў якасці апорнай пляцоўкі для ўмацавання эканамічнай прысутнасці ў Цэнтральна-Азіяцкім рэгіёне, Беларусь гатова стаць для Казахстана «заходнімі варотамі» на шляху ў Еўропу», — абяцаў персанальныя бонусы Лукашэнка.

«Пуцінская фішкай інтэграцыі застаецца адзіная валюта — расійскі рубель. Сёння няма нейкіх асаблівых прыкмет, каб такую валюту хацелі бачыць у Мінску і Астане. Але і казаць аб нейкай фрондзе Лукашэнка—Назарбаеў намерам Пуціна інтэнсіфікаваць стварэнне Еўразійскай саюза было б несур’ёзна», — гаворыць палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі.

Цікава, што перад візітам Уладзіміра Пуціна з’явілася інфармацыя аб тым, што кіраўніцтва Беларусі не мае намеру прадаваць кантрольны пакет акцый «Беларуськалія», аб пэўным ступары ў перамовах па стварэнні альянсу буйнейшых вытворцаў грузавікоў на постсавецкай прасторы — МАЗа і КамАЗа.

Наўрад ці ў Адміністрацыі Лукашэнкі чакаюць лёгкага этапу ў адносінах з Расіяй. Тым больш, што гаспадар Крамля мае канкрэтны план на бліжэйшыя гады, што зусім не ўпісваецца ў планы Лукашэнкі, для якога захаванне незалежнасці ёсць захаваннем сябе. Разам з тым адным з абавязковых пунктаў самазахавання ёсць падтрыманне ў Беларусі пэўнага ўзроўню жыцця. Так што бліжэйшым часам будзе цікава назіраць, як і пад заклад чаго гэтыя грошы будуць выцягвацца ў Расіі.

Беларускае падарожжа Уладзіміра Пуціна ўжо выклікала рэакцыю ў заходніх палітыкаў — першы афіцыйны візіт у дыктатару вельмі паказальны для рэпутацыі расійскага кіраўніка. Яго апанент, лідар «Аб’яднанага грамадзянскага фронту» Гары Каспараў у сваім артыкуле ў «The Wall Street Journal» напісаў: «Міф аб тым, што Расія і ЗША ўзаемна выгодныя стратэгічна, гадамі насаджаўся амерыканцам. Але падтрымліваць гэтую фантастыку становіцца ўсё цяжэй. Спадар Пуцін раптам адмяніў сваю паездку на саміт G–8 на вышэйшым узроўні ў Кэмп-Дэвідзе. І замест гэтага робіць свой першы замежны візіт у часе новага прэзідэнцкага тэрміну ў нелегітымную дыктатуру Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Можа, Пуціну працягнуць турнэ — наведаць усіх сваіх братоў-дыктатараў?»

КАНФЛІКТ

# ЦНЯНСКІЯ СТРАСЦІ

Марат ГАРАВЫ



**Правы і інтарэсы сотняў людзей былой вёскі Цна перакрэслілі, каб дагадзіць адной сям'і.**

Хаця Цна знаходзіцца ў некалькіх кіламетрах ад Мінска, транспартныя зносіны са сталіцай заўсёды былі праблемай для вяскоўцаў. Таму цнянцы спакон веку хадзілі ў горад па сцежцы, якую самі і пратапталі праз поле і лес. Нават калі ў 2003 годзе Цна ўвайшла ў межы Савецкага раёна Мінска, гэтая сцежка засталася асноўным і самым кароткім пешаходным маршрутам, які звязвае былую вёску са сталіцай.

Трэба мець на ўвазе, што акрамя прадуктовай крамы, у Цне няма ні дзіцячага садку, ні школы, ні бальніцы. Дзеці і студэнты, працоўныя і пенсіянеры ходзяць па гэтай сцежцы ў любы час і пры любым надвор'і. Аўтобусы ў Цну не заходзяць, толькі рухаюцца па Мінскай кальцавой дарозе з інтэрваламі каля дзвюх гадзін.

Сабраўшы амаль сотню подпісаў, у лютым 2005 года былыя вяскоўцы, а зараз ужо сталічныя жыхары, звярнуліся ў Мінскі гарвыканкам і адміністрацыю Савецкага раёна з просьбай пра добраўпарадкаванне сцежкі — гэтай своеасаблівай дарогі жыцця для жыхароў Цны. Адміністрацыя раёна падтрымала ініцыятыву грамадзян, і ўжо на 2006 год сваім рашэннем Мінскі гарвыканкам запланаваў «распрацоўку праектна-каштарыснай дакументацыі на будову пешаходнай сцежкі з яе асвятленнем праз лясны масіў ад былой вёскі Цна да вуліцы Мірашнічэнка да сярэдніх школ №№ 34 і 147».

Але замест гэтага была добраўпарадкавана дарожка для жыхароў элітнага катэджнага пасёлка на беразе Цнянскага вадасховішча. І каб прайсці праз лес па добраўпарадкаванай і асветленай сцежцы, жыхарам былой Цны патрабавалася каля пяці гадоў змагання і больш за 40 лістоў у Адміністрацыю прэзідэнта, Мінгарвыканкам, адміністрацыю Савецкага раёна, ВКУП «Мінскзеленбуд» і органы пракуратуры.

Але на гэтым прыгоды цнянцаў не скончыліся. Трэба было дабівацца ад уладаў добраўпарадкавання той часткі сцежкі, якая ідзе праз поле. На свой чарговы ліст па гэтай праблеме вяскоўцы атрымалі адказ з адміністрацыі Савецкага раёна ад 20 ліпеня 2010 года пра тое, што пытанне добраўпарадкавання гэтай часткі сцежкі будзе разглядацца праектнай арганізацыяй, якая распрацоўвае праектна-каштарысную дакументацыю па аб'екту «Комплексная рэканструкцыя тэрыторыі былой вёскі Цна. Інжынерныя сеткі».

Жыхары былой вёскі паспадзяваліся, што так яно і будзе, і аслабілі сваю ўвагу па гэтаму пытанню. У выніку сцежку днямі наогул перакрылі, бо дзялянку зямлі паміж дамамі, дзе яна праходзіла, аддалі прыватнай асобе пад будаўніцтва катэджа. І зараз сотні жыхароў Цны — ад малалетак да пажылых — вымушаныя хадзіць акружнымі шляхамі па праезнай частцы кальцавой, штодня рызыкуючы трапіць пад колы.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ЧЫГІЛЕЙЧЫКА ВЫРАШЫЛІ НЕ РАБІЦЬ ПАЛІТВЯЗНЕМ?

Тацццяна ШАПУЦЬКА

**Актывіст праваабарончай арганізацыі «Платформа» вызвалены, але застаецца пад пагрозай турмы.**

Судовы вырак па справе валанцёра «Платформы» (арганізацыя абараняе правы зняволеных) Юрыя Чыгілейчыка, абвінавачанага ў абароце наркотыкаў, апынуўся адносна мяккім — тры з паловай гады «хатняй хіміі» (артыкул прадугледжвае пяць гадоў калоніі, пракурор прасіў два гады). «Хатняя хімія» — так празвалі ў народзе абмежаванне волі без накіравання ў спецустанову. На працягу ўсяго тэрміну пакарання, які адлічваецца з моманту пастановы на ўлік, міліцыянты могуць у любы час сутак наведваць мужчыну дома ды на працы. Паводле беларускага Крымінальна-выканаўчага кодэкса, вязень трапляе пад шэраг строгіх абмежаванняў — напрыклад, яму забаронена мяняць месца жыхарства ці выязджаць за межы горада без дазволу крымінальна-выканаўчай інспекцыі, ужываць алкаголь, хадзіць у госці. Таксама мужчына будзе абавязаны штодня знаходзіцца дома ад 19-й гадзіны вечара па 6-ю гадзіну раніцы. Дастаткова ўсяго 4 разы парушыць гэтыя абмежаванні, каб была заведзена новая крымінальная справа — за ўхіленне ад адбыцця пакарання, што можа цягнуць да трох гадоў пазбаўлення волі. Прыклады ёсць: менавіта за гэта цяпер у магілёўскай калоніі сядзіць віцебскі галадоўнік Сяргей Каваленка.

Нягледзячы на строгія ўмовы пакарання, судовы прысуд стаў добрай весткай як для Юрыя Чыгілейчыка, якога выпусцілі з «клеткі» проста ў судовай зале, так і для яго сваякоў і паплечнікаў. Ні асоба Чыгілейчыка, на якім «вісела» непагашаная судзімасць, ні строгасць гэтага крымінальнага артыкула не давалі падставаў спадзявацца на апраўданне ці мяккае пакаранне. Прысутныя на судзе грамадскія актывісты выказалі меркаванне, што «наверсе» было прынята рашэнне не палітызаваць справу Юрыя Чыгілейчыка ды не ўносіць яшчэ адно імя ў беларускі «спіс палітвязняў». Ці выпадкова перад вынясеннем рашэння суд абвясціў перапынак на месяц (!), а праз месяц высветлілася, што справу прадстаўляе новы пракурор?

Нагадаем, актывіст «Платформы» Юры Чыгілейчык быў затрыманы ўвосень 2011 года ды абвінавачаны ў абароце наркатычных рэчываў. Падчас затрымання Чыгілейчыка моцна збілі, з Валадаркі мужчыну вывозілі ў цывільны шпіталь на аперацыю. Незадоўга да арышту праз Чыгілейчыка, які раней сядзеў у турме за махлярства, стала вядома пра катаванні і галадоўкі зэкаў у Івацэвіцкай і Глыбоцкай калоніях. Таксама Юры Чыгілейчык, дзякуючы сваім ранейшым турэмным знаёмствам, дапамагаў вырашаць праблемы палітвязняў Змітра Дашкевіча і Андрэя Саннікава, у дачыненні якіх адміністрацыі калоній учынялі правакацыі. Дарэчы, сваякоў ці прадстаўнікоў Дашкевіча ды Саннікава на судзе не было.

САЛІДАРНАСЦЬ

# НЕ ЗАБЫВАЦЦА ПРА СТАТКЕВІЧА

**Год таму экс-кандыдату ў прэзідэнты Мікалаю Статкевічу быў вынесены прысуд. З нагоды гэтай сумнай гадавіны дачка Мікалая Кацярына і кіраўнік Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі Зігмар Габрыель звярнуліся да нямецкай грамадскасці, каб прыцягнуць увагу да сітуацыі ў Беларусі.**

«Разам з Кацярынай Статкевіч я хачу сёння нагадаць пра лёс палітычных зняволеных, і асабліва пра бацькі Мікалая. Гэтыя ўгодкі нагадваюць нам усім пра тое, што ёсць актывісты і апазіцыйныя палітыкі, прафсаюзныя дзеячы і журналісты, якія знаходзяцца ў турэмным зняволенні з-за сваіх перакананняў і мужнасці. Гэта дата заклікае нас не аслабляць нашы высілкі ў барацьбе за волю і правы чалавека ў Беларусі, — гаворыцца ў звароце. — Мы патрабуем неадкладнага вызвалення і рэабілітацыі ўсіх палітычных зняволеных у Беларусі і падтрымліваем патрабаванні, выказаныя ініцыятывай www.lasst-sie-frei.de. Да таго часу, пакуль невінаватыя людзі знаходзяцца ў турме, Еўрапейскі саюз і Германія будуць падтрымліваць санкцыі і ўзмацняць іх. Мікалай Статкевіч з'яўляецца апошнім кандыдатам у прэзідэнты, які ўсё яшчэ знаходзіцца ў зняволенні. Ён з перакананнія адмаўляецца падпісаць прашэнне пра памілаванне, бо гэтым ён адначасова прызнаў бы сваю віну. Рэжым рэагуе гвалтам і запалохваннем, у зняволенні Статкевіч атрымаў сур'ёзныя траўмы і пераломы костак».

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

### ПІКЕТАВАЦЬ АКАДЭМІЮ НАВУК

Аспірант Інстытута фізіялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Аляксей Паўлоўскі падаў заяўку ў Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт на правядзенне пікета. Праз пікет ён хоча прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы незабяспечання іншагародніх студэнтаў, аспірантаў і маладых навукоўцаў жыллём на перыяд іх адукацыі і працы.

Аляксей кажа, што да такой крайняй меры яго падштурхнула сітуацыя з непрадастаўленнем яму месца ў інтэрнаце, якое гарантаваў Інстытут фізіялогіі пасля яго паступлення ў аспірантуру.

Бацька аспіранта, магілёўскі актывіст Аляксей Паўлоўскі, цалкам падтрымлівае ініцыятыву свайго сына: «Кіраўніцтва Інстытута фізіялогіі не бярэ на сябе абвязкі ў адпаведнасці з дамовай прадаставіць Аляксею месца ў інтэрнаце. Майму сыну нічога не застаецца, як выкарыстоўваць, у адпаведнасці з Канстытуцыяй, пікетаванне для прыцягнення ўвагі да праблемы. Кіраўніцтва Інстытута фізіялогіі лічыць, што дзеянні майго сына з'яўляюцца парушэннем дзелавой этыкі, але што рабіць, калі амаль уся стыпендыя ідзе на аплату жылля? На вучоным савеце ўжо разглядалі яго сітуацыю — нібыта сітуацыя ненармальная, неэтычная, і ён падстаўляе інстытут».

Нагадаем, што аспірант Аляксей Паўлоўскі пасля скаргі ў Адміністрацыю прэзідэнта і Міністэрства адукацыі на непрадастаўленне яму месца ў інтэрнаце быў выключаны з аспірантуры. Праз суд ён здолеў аднавіцца. Выкладчыкі прызналі, што ў яго няма праблем з засваеннем навуковага працэсу, і гадавы курс ён асіліў фактычна за два месяцы. У магістратуры, якую ён скончыў у Магілёве, Аляксей меў сярэдні бал «дзевяць».

### ХАДЖЭННІ ПА СУДАХ

Баранавіцкі прадпрымальнік і грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус 23 мая накіраваў іскавую заяву ў Брэсцкі абласны гаспадарчы суд. Ужо амаль паўгода ён імкнецца аспрэчыць вынікі «выбараў» Рады Цэнтральнага каапринку.

Спачатку заяўнік звяртаўся ў гарадскую і двойчы ў абласную пракуратуру, каб дамагчыся адмены вынікаў «выбараў», якія, на яго думку, былі праведзены з парушэннем дзеючага заканадаўства. Новая Рада кааператыўнага кірмашу была прызначана адміністрацыяй горада і рынка, а не абраная на агульным сходзе прадпрымальнікаў. Не вырашылі гэтую праблему Баранавіцкі гарадскі, а затым і Брэсцкі абласны суды. 14 мая суддзя абласнога суда Таццяна Людвіг адмовілася разглядаць скаргу.

Тым не менш Мікалай Чарнавус не губляе надзеі дамагчыся справядлівасці. Не знайшоўшы адказаў на свае пытанні ў сістэме агульных судоў, прадпрымальнік накіраваў іскавую заяву ў Брэсцкі абласны гаспадарчы суд. Прадпрымальнік просіць адмяніць вынікі выбараў Рады рынку, якія праходзілі 18–20 снежня 2011 года, і спагнаць з адказніка на сваю карысць памер дзяржаўнай пошліны — 500 тысяч рублёў.

### НЯПОМНЯШЧЫХ ЗВЯРНУЎСЯ Ў ААН

Гомельскі дэмакратычны актывіст Уладзімір Няпомняшчых звярнуўся ў Камітэт ААН па правах чалавека з індывідуальнай скаргай.

У мінулым годзе ён быў прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасці ў выглядзе штрафу на суму 350 тысяч рублёў за парушэнне парадку арганізацыі мірнага сходу ў выглядзе вулічнага шэсця. Гомельскі абласны суд не задаволіў скаргу актывіста на рашэнне раённага суда. Пазней скаргі ў парадку нагляду на імя старшыняў Гомельскага абласнога суда і Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь таксама засталіся без задавальнення.

Тым часам Няпомняшчых быў зноў аштрафаваны на 175 тысяч рублёў — за распаўсюд інфармацыі пра маючы адбыцца мірны сход грамадзянаў. Абскарджванні гэтага штрафу таксама выніку не далі. Такім чынам, унутраныя сродкі судовай абароны былі вычарпаныя, а актывіст паранейшаму не згодны з тым, што парушыў закон.

«Пры адсутнасці якога-небудзь абгрунтаванага тлумачэння, што апраўдала б высновы судоў, лічу, што прыцягненне мяне да адміністратыўнай адказнасці за распаўсюд вуснай і друкаванай інфармацыі пра маючыя адбыцца мірныя сходы грамадзянаў не з'яўляецца неабходнай мерай для аховы інтарэсаў нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, маральнасці, здароўя насельніцтва, абароны правоў і свабодаў іншых асобаў. Таму я раблю выснову пра тое, што ў дадзеных канкрэтных выпадках мае правы, прадугледжаныя артыкулам 19 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, былі парушаныя», — піша Няпомняшчых у звароце.

### «ПРОСТА ВІНАВАТЫ — І ЎСЁ ТУТ»

Жыхару Гродна Руслану Пяцько прыйшла чарговая судовая адмова. Гэтым разам — з Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь, дзе Руслан абскарджваў рашэнні судоў ніжэйшых інстанцый, якія прызналі яго вінаватым нібыта ў адмове праходзіць дактыласкапічную рэгістрацыю.

Вярхоўны суд прыняў рашэнне не на карысць Руслана, амаль прадубляваўшы ранейшыя рашэнні па гэтай справе.

«І ў гэтых паперах ні слова не гаворыцца па сутнасці маёй скаргі, — абураецца гродзенец. — Нават не разглядаюцца мае аргументы. Па сутнасці, амаль даслоўна паўтараецца тое, што было сказана першым судом. Навошта тады пакідаць чалавеку надзею, што ў вышэйшых інстанцыях хаця б разгледзяць яго аргументы? А так усе судовыя адказы можна абагульніць у адно слова — вінаваты. Проста вінаваты — і ўсё тут».

**Падрыхтавана паводле сайта spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# УГНЯВІЛІ «НАРОДНЫЯ МАСЫ»

Генадзь КЕСНЕР




**«Дзіўныя рэчы робяцца ў горадзе», як спявала калісьці рок-князёўна Беларусі Кася Камоцкая. З аднаго боку, растуць адпускныя цэны на хлеб, малочныя прадукты (на 10%), на мяса (35%), чакаецца павелічэнне аплаты камунальных паслуг, а электарат гэтага ўпарта не заўважае. І ніякім чынам не рэагуе. Затое пэўныя асобы з касты гэтага самага электарату яшчэ як рэагуюць на тое, што кажа той ці іншы апазіцыянер. А разам з электаратам рэагуюць і суды.**

Гісторыя, якая адбылася днямі з апазіцыйным палітыкам Віктарам Івашкевічам, змушае ўзгадаць падзеі страшэнных сталінскіх часоў, калі «па патрабаванні працоўных» НКУС знішчаў сотні тысяч і нават мільёны людзей, якія мелі няшчасце хоць якімсьці чынам трапіць у кагорту нелаяльных да кіруючага рэжыму. Марына Цыбліенка — працаўніца з Мазырскага нафтаперапрацоўчага заводу — атаясамліваецца з тымі самымі «працоўнымі масамі», якія патрабавалі «вынішчаць на корані» «ворагаў народа». Дзякуй Богу, сёння ў Беларусі не расстрэльваюць палітычных апанентаў, але ж судовы каток праходзіцца па іх «па поўнай праграме».

Не ведаю, з чыёй падачы (мо, насамрэч, тое было ўласная ініцыятыва, хоць гэта вельмі сумнеўна), але таварыш Цыбліенка вельмі ўразілася нейкімі заклікамі Віктара Івашкевіча да Захаду ігнараваць прадукцыю тутэйшых НПЗ да вызвалення палітзняволеных. «Я ўжо не ўпэўненая ў заўтрашнім дні, а раптам у выніку санкцыяў я страчу працу? У мяне ўзняўся ціск, пачаліся неўрозы», — заявіла ў судзе над Івашкевічам сучасная «стаханаўка». У палітыка-апазіцыянера ўзніклі лагічныя пытанні ў адказ: а чаму ж яе не абурылі леташнія дэвальвацыі, калі абсалютная большасць людзей страціла свае грашовыя назапашванні, ці падавала яна іск аб кампенсацыі да былога старшыні Нацбанку Пятра Пракаповіча, які літаральна бажыўся, што ніякай дэвальвацыі беларускага рубля не будзе, і заклікаў грамадзян захоўваць грошы на дэпазітах? Нічога ўцямнага «патрыётка» адказаць не змагла.

Якія ўсё ж ранімыя некаторыя прадстаўнікі нашага электарату! Але толькі ў тых выпадках, калі нешта тычыцца непасрэдна іх саміх, няхай і ўскосна. Вось, не падскочыў ціск у таварыша Цыбліенкі пасля таго, як 19 снежня 2010 года ў Мінску былі збітыя і арыштаваныя сотні людзей, не здарыўся з ёй неўроз ад таго, што віцяблянін Сяргей Каваленка можа памерці ад галадоўкі, змагаючыся супраць прыцягнення яго да крымінальнай адказнасці фактычна за вывешванне гістарычнага бел-чырвона-белага сцягу. А вось санкцыі, якіх няма і якія ніякім бокам не закранулі роднае прадпрыемства, у гэтай «змагаркі» выклікалі ледзь не «карачун»! І такіх «змагароў і змагарак» у нас, відаць, багата, бо наперадзе яшчэ суд з той жа самай нагоды над былым палітвязнем і экс-кандыдатам у прэзідэнты Беларусі Дзмітрыем Вусам.

Тым часам улады працягваюць дэманстраваць сваё неабыякавае стаўленне да незалежных журналістаў. Не паспелі сціхнуць жарсці перад нядаўнім з'ездам Беларускай асацыяцыі журналістаў, калі па электроннай пошце многія сябры БАЖ атрымалі рассылкі з брудам на адрас кіраўнікоў арганізацыі (дарэчы, аўтары гэтых пасквіляў не змаглі дасягнуць пастаўленай мэты і ўчыніць раздрай у шэрагах асацыяцыі), як нашы калегі зноў апынуліся ў кіпцюрах праваахоўных органаў. Раніцай у сераду, 23 мая, у цэнтры Мінска былі схоплены журналісты незалежнага тэлеканалу «Белсат» Любоў Лебедзева і Алесь Любянчук. Здымачная брыгада мелася ўзяць інтэрв'ю ў кіраўніка Інфармацыйна-асветніцкай установы «Платформа» Андрэя Бандарэнкі. Толькі і ўсяго. Але пільныя міліцыянты, якіх было, па словах журналістаў, ажно шэсць чалавек, не далі гэтага зрабіць і адвезлі іх у Кастрычніцкі РУУС сталіцы. Праз пэўны час абодвух адпусцілі, але паабяцалі «працяг». Што гэта можа быць за «працяг», застаецца толькі здагадвацца.

**Чыноўнікі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі не выключаюць, што да канца бягучага года «жыроўкі» могуць стаць даражэйшымі ажно ў два разы**

А вось дзяржаўныя СМІ пачынаюць працэс узбуйнення. Міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі паведаміў, што Мінінфарм рыхтуе маштабную рэформу сістэмы рэспубліканскага друку. Па словах чыноўніка, у краіне будуць створаныя два выдавецкія дамы — адзін (грамадска-палітычны) на базе органа адміністрацыі прэзідэнта «СБ. Беларусь сегодня («Советская Белоруссия»)», другі (культурніцкі) — на базе холдынгу «Літаратура і мастацтва» і газеты «Звязда». Як падкрэсліў Праляскоўскі, тэматыка матэрыялаў і форма іх падачы ў розных дзяржаўных выданнях мала чым адрозніваецца. У той жа час чыноўнікі загадалі не чапаць рэгіянальную прэсу, маўляў, яна бліжэй да людзей.

Вось толькі застаецца пытанне: а чаго, уласна, дабіваюцца «дзяржаўныя мужы», тасуючы афіцыйную прэсу? Пра яе якасць і попыт у чытача сведчаць і незалежныя рэйтынгі, і адставанне інтэрнэт-варыянтаў дзяржаўных СМІ ад незалежных па колькасці наведвальнікаў. І не ратуюць тут нават аграмадныя грашовыя сумы, якія дзяржава выдаткоўвае на падтрымку сваіх СМІ: толькі ў 2012 годзе на гэтыя мэты запланавана выдаць 53 мільярды беларускіх рублёў. Незалежным СМІ такія сродкі нават не мрояцца.

А простым грамадзянам, за чые сродкі існуюць афіцыйныя СМІ, верагодна, давядзецца яшчэ больш зацягнуць паясы. Чыноўнікі не выключаюць, што да канца бягучага года «жыроўкі» могуць стаць даражэйшымі ажно ў два разы. Як сцвярджае Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, зараз жыхары Беларусі аплачваюць толькі 16,6% ад кошту камунальных паслугаў. Урад жа, па словах міністра ЖКГ Андрэя Шораца, ставіць за мэту давесці гэты паказчык да 35%. Да таго ж паступова даражэе і ўсё астатняе. Так, некаторыя сталічныя маршруткі, якія яшчэ дзень-два таму каштавалі 5 тысяч рублёў за праезд, накінулі яшчэ тысячу.

Ці вось яшчэ прыклад. Падабаюцца мне шакаладныя батончыкі гомельскай фабрыкі «Спартак». Два дні таму набываў іх па 3750 рублёў. А вось зараз у той жа краме з'явіўся на іх новы цэннік — 4800. Таксама падаражалі на дзясяткі працэнтаў і тэлефонныя размовы з Расіяй і Украінай, дзе ў беларусаў многа сваякоў і сяброў — зноў удар па кішэні. Вось толькі як усё гэта адаб'ецца на планах вышэйшага чыноўніцтва ўтрымаць да канца года інфляцыю ў памеры 19–22%, пра што было заяўлена на самым высокім узроўні? Рост коштаў на мяса і камуналку, на іншыя тавары ўжо выбівае паказчыкі з гэтых прагнозаў, але ж год не дасягнуў яшчэ і свайго экватару. А наперадзе яшчэ абяцаныя павышэнні коштаў на паліва, на праезд у грамадскім транспарце і гэтак далей. Ці тое яшчэ будзе!

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## СЯРГЕЙ МАРТЫНАЎ

Беларус Сяргей Мартынаў выйграў этап Кубка свету па кулявой стральбе з малакалібернай вінтоўкі са становішча лежачы з дыстанцыі 50 метраў. На спаборніцтвах, якія прайшлі 20 мая ў італьянскім Мілане, беларус паказаў вынік 701,1 бала. Другое месца ў француза Сайрыля Графі — 700,9 бала, у бронзавага прызёра італьянца Марка Дэ Нікола — 699,8. Гэта другая перамога Мартынава, які ўзначальвае сусветны рэйтынг у гэтай дысцыпліне, на этапах Кубка свету ў бягучым сезоне. У красавіку ён быў самым трапным на спаборніцтвах у Лондане.

Бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў 2000 і 2004 гадоў Сяргей Мартынаў, якому 18 мая споўнілася 44 гады, не ведае паразаў з мінулага сезону. Лідар сусветнага рэйтынгу ў 2011 годзе выйграў этапы Кубка свету ў Германіі і Кітаі. А затым стаў лепшым у фінале Кубка свету ў польскім Вроцлаве. Новы алімпійскі сезон беларус адкрыў у канцы красавіка перамогай на этапе Кубка свету ў Лондане.

На этапе ў Мілане яшчэ двое беларусаў узышлі на п'едэстал. Віталь Бубновіч стаў срэбным прызёрам у стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі з дыстанцыі 10 метраў, а Ілля Чаргейка заваяваў бронзу ў стральбе з малакалібернай вінтоўкі з дыстанцыі 50 метраў з трох становішчаў.

## LITESOUND



У гэтым годзе Беларусь на «Еўрабачанні» прадстаўляе гурт «Litesound». Песенны конкурс Еўропы праходзіць у Баку. 15 і 18 мая ў беларускіх выканаўцаў прайшлі індывідуальныя рэпетыцыі, а 24 мая адбудзецца другі паўфінал конкурсу, у якім гурт «Litesound» з кампазіцыяй «We are the Heroes» выступіць пад пятым нумарам. Калі выканаўцы пройдуць у фінал, то застануцца ў Азербайджане да фіналу 26 мая.

У СМІ ўжо з'явілася інфармацыя, што браты Дзмітрый і Валодзя Каракіны, моцна выпіўшы, пачалі аб нечым люта спрачацца на вечарыне ў расійскіх удзельнікаў «Еўрабачання–2012» — калектыву «Буранаўскія бабулі». Быццам бы маці (па сумяшчальніцтве адміністратар) заўважыла агрэсіўныя паводзіны сыноў і кінулася іх разнімаць. Не разлічыўшы сіл, браты штурхнулі жанчыну і пралілі на яе віно. Мама зорак не вытрымала і расплакалася. Відавочцы інцыдэнту сцвярджаюць, што беларусы прынеслі прабачэнні за тое, што здарылася, арганізатарам расійскай вечарынкі, а арганізатарам «Еўрабачання» паабяцалі, што надалей такога не паўторыцца.

Дырэктар гурта «Litesound» абвяргае інфармацыю аб бойцы Дзмітрыя і Уладзіміра Каракіных. Дырэктар гурта «Litesound» і бацька выканаўцаў Юры Каракін сцвярджае, што ніякай бойкі на вечарыне не было. «Валодзя нешта паказваў у сваім тэлефоне, а Дзіма хацеў узяць тэлефон і выпусціў яго. Валодзя пачаў на яго крычаць, на гэтым усё і скончылася», — растлумачыў Каракін БелаПАН.

«Нам асабліва прыемна, што вельмі вялікая колькасць прыхільнікаў конкурсу, журналістаў называюць нашу песню лепшай. Прычым некаторыя нават лепшай за апошнія гады «Еўрабачання»! — пішуць у анлайн-дзённіку на сайце Naviny.by музыкі. — А што тычыцца негатыўных водгукаў... Я сёння размаўляў са спявачкай Джоан з Нідэрландаў, і яна мне на гэта сказала: «Я ўжо нічога не чытаю ні пра «Еўрабачанне», ні пра сябе». Таму што гэта бескарысна, таму што нават калі ўсё добра, знойдуцца людзі, якія скажуць, што дрэнна. Так што і нам нецікава капацца ў гэтым».



## ЛІНАС ЛІНКЯВІЧУС

Экс-міністр абароны, былы амбасадар Літвы ў NATO Лінас Лінкявічус у бліжэйшы час можа ўзначаліць дыпламатычную місію Літвы ў Беларусі. Камітэт па замежных справах сейма Літвы ўхваліў кандыдатуру Лінкявічуса на пасаду амбасадара ў Беларусі, паведамляюць беларускія СМІ са спасылкай на літоўскія крыніцы. Кандыдатуру Лінкявічуса таксама павінна ўхваліць прэзідэнт краіны Даля Грыбаўскайтэ. Цяпер Лінкявічус з'яўляецца паслом па асобых даручэннях прэм'ер-міністра Літоўскай Рэспублікі. Пачынаў сваю кар'еру Лінкявічус у 1990 годзе як карэспандэнт газеты «Tiesa» і кансультант парламенцкай фракцыі Літоўскай дэмакратычнай партыі працы.

Мяркуецца, што новы пасол Літвы ў Мінску прыступіць да выканання сваіх абавязкаў 24 ліпеня. Лінас Лінкявічус зменіць на гэтай пасадзе Эдмінаса Багдонаса, які працаваў у Беларусі ад 2007 года.

▸ **БІБЛІЯТЭКА СВАБОДЫ**

# Аляксандр Лукашук: ЛЮДЗІ НАЙБОЛЬШ ЦЭНЯЦЬ МАРАЛЬНУЮ ПАЗІЦЫЮ І САЛІДАРНАСЦЬ

**Радыё «Свабода» — легендарная радыёстанцыя. Пра яе Васіль Быкаў гаварыў: «Надвячоркам кожнага дня я ўключаю прымач і шукаю «Свабоду». Тое сталася звычкаю і патрэбаю душы». Да эфірнай славы Беларуская рэдакцыя Радыё «Свабоды» ад пачатку новага тысячагоддзя надбудоўвае славу выдавецкую. Менавіта Беларуская служба заснавала серыю «Бібліятэка Свабоды», у якой можна знайсці творы, што распавядаюць пра багацце і самавітасць беларускай нацыі, пра складаны шлях Беларусі да незалежнасці. Справы выдавецкія і гуманістычныя з дырэктарам Беларускай службы Радыё «Свабода», заснавальнікам «Бібліятэкі Свабоды» Аляксандрам Лукашуком абмяркоўвалі Аляксей Кароль і Вольга Хвоін.**



Аляксандр Лукашук

***Аляксей Кароль: Выданне кніг — не тыповая справа для радыё. Гэта, каб працягнуць у часе тое, што жыве на радыё імгненне? Як увогуле з'явілася ідэя выдавецкай дзейнасці на Радыё «Свабода»?***

**Аляксандр Лукашук**: Я б адказаў проста — нельга быць беларусам, жыць у Празе і не выдаваць кнігі, бо адсюль пачынаў сваю дзейнасць Скарына. У сярэдзіне 1950-х гадоў Радыё «Свабода» выдала першую кнігу, прысвечаную пачатку вяшчання. То быў збор першых перадач. На пачатку XXI стагоддзя Беларуская служба Радыё «Свабода» распачала выдавецкую справу. Беларусь была адзінай краінай у Еўропе, дзе Радыё «Свабода» ніколі не мела ўнутранай рэтрансляцыі на FM. Кароткія ж хвалі — не лепшы спосаб дастаўкі інфармацыі да слухача, і таму кнігавыдавецтва для нас ёсць яшчэ адной медыяплатформай, на якой можна даставіць да нашай аўдыторыі інфармацыйны прадукт. У 2001 годзе былі прэзідэнцкія выбары, і мы звярнуліся да слухачоў з прапановай дасылаць нам свае вершы на тэму свабоды. Усяго атрымалі больш за тысячу вершаў. Потым з дапамогай ПЭН-цэнтру да гэтага праекту далучыліся аўтары больш чым трыццаці краін. Сярод іх былі і паэты ў выгнанні, і нобелеўскія лаўрэаты, і пачаткоўцы. Самаму маладому аўтару было дзесяць гадоў, а найстарэйшаму — дзевяноста два. І стала зразумела — гэта такое багацце, што нельга яго не выдаць кнігай.

Калі мы выдалі першую кнігу і напісалі на ёй «Бібліятэка Свабоды», гэта значыла, што мы ўзялі на сябе абавязак выдаваць кнігі. Але якая будзе наступная, я ніколі не ведаю. Тэмы вырастаюць з радыёперадач. Пасля кнігі «Верш на Свабоду» была «Дарога праз Курапаты» — гісторыя абароны ад зруйнавання месца масавых пахаванняў расстраляных ахвяраў камунізму падчас будаўніцтва мінскай кальцавой дарогі. На мой погляд, гэта ўнікальны ў гісторыі беларускай журналістыкі дакумент штодзённага рэпартажу з аднаго месца на працягу васьмі месяцаў. Наша журналістка Ганна Соўсь, напрыклад, выйшла ў эфір з лагеру абаронцаў больш за дзвесце разоў. Калі мы склалі ўсе матэрыялы разам, то пабачылі, што атрымалася кніга аднаго рэпартажу.

Трэцяя кніга была ўжо відавочная. У 2003 годзе мы развіталіся з Васілём Быкавым. Ён быў вялікім сябрам «Свабоды», шмат разоў удзельнічаў у круглых сталах, з ім былі гутаркі. Ён начытаў для нас сваю кнігу ўспамінаў «Доўгая дарога дадому» — каля сарака гадзінаў запісу. Кніга «Быкаў на Свабодзе» стала класікай.

***А. К.: «Бібліятэка Свабоды» — гэта своеасаблівы летапіс сучаснай гісторыі з экскурсамі ў мінулае. Фактычна, усе выданні аб'яднаныя адной тэмай — гісторыя Беларусі на пакручастым шляху да свабоды. Разам з тым ёсць момант мазаічнасці. Гэта нармальна, ці будзеце імкнуцца да тэматычнай цэласнасці?***

**А. Л.:** Наша бібліятэка — жывы арганізм, які развіваецца. Галоўная яго рыса — творы, якія звязаныя з эфірам Радыё «Свабода» і працай нашых журналістаў. Магчыма, самая вядомая наша кніга рэпартажу «Плошча» пра падзеі 2006 года. Гэта чатыры дні 24-гадзінных рэпартажаў, здымкаў, званкоў слухачоў у часе намётавага лагеру на плошчы Каліноўскага. Такім чынам паўстала нацыянальная акустыка гэтай падзеі. Кнігу мы надрукавалі невялікім накладам у тысячу асобнікаў. А матэрыялы кнігі з сайту Радыё «Свабода» былі спампаваныя больш за пяцьдзесят тысяч разоў. Для любой палітычнай кнігі ў Беларусі наклад у 50 тысяч проста нерэальны. У Гомелі быў выпадак, калі людзі загрузілі тэксты з сайту, раздрукавалі і пераплялі іх — самвыдат у эпоху інтэрнэту.

***А. К.: Хто ваша аўдыторыя, ці маглі б вы ацаніць ролю і ўплыў гэтых выданняў на грамадства?***

**А. Л.:** У «Бібліятэцы Свабоды» можна выдзеліць некалькі сэнсавых накірункаў. Пра рэпартажны мы ўжо гаварылі. Другі кірунак — літаратурны. Напрыклад, Вінцэсь Мудроў напісаў смешную кнігу «Альбом сямейны», у якім згадаў розныя словы эпохі савецкага часу: міні-спадніца, палітбюро, ад палёту Гагарына да выбуху ў Чарнобылі. І да кожнага слова была міні-навэла. Гэтая перадача была вельмі папулярная. Рыгор Барадулін цэлае лета распавядаў розныя показкі пра людзей, з якімі некалі сустракаўся, пісаў эсэ, эпіграмы, і ў выніку выйшла кніга «Дуліна ад Барадуліна». У ёй ёсць і легендарнае эсэ «Як беларусы сэксам займаюцца». Ёсць кнігі, звязаныя з успамінамі. Некалькі гадоў у нас была перадача мемуараў — больш за дваццаць чалавек напісалі свае ўспаміны пра яшчэ нядаўняе мінулае. Некаторыя потым выдалі свае кнігі. У гэтай серыі ў нас выйшла кніга першага амбасадара Беларусі ў Германіі, дэпутата Вярхоўнага Савета 12-га склікання Пятра Садоўскага «Мой шыбалет». Напісалі свае кнігі «Дарога» старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, супрацоўніца першай рэдакцыі Радыё «Свабода» Галіна Руднік. Галіна Руднік — з Бабруйску, перажыла ў Мінску вайну, потым выехала ў Германію.

Калі глядзіш на жыццё гэтых людзей, то папросту дзіву даешся, якія фантастычныя, проста міфічныя бываюць выпадкі. Напрыклад, бацька Галіны Руднік быў расстраляны ў 1937 годзе, маці прайшла праз ГУЛАГ. Калі дачка Сталіна ўцякла на Захад і напісала свае ўспаміны, перадала іх у Нью-Ёркскую рэдакцыю для начытання, то спачатку твор начытала дачка Шаляпіна, але яе нізкі голас не спадабаўся дачцэ Сталіна. Потым начытала Галіна Руднік, і дачка Сталіна сказала, што акурат такі голас і патрэбны. Так успаміны дачкі найвялікшага тырана XX стагоддзя вярнуліся праз голас члена сям'і, якая пацярпела ў тых рэпрэсіях.

Мы самі здзіўляемся кожнай кнізе, якая выходзіць. Усе гэтыя кнігі знаходзяцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, некаторых бібліятэках краіны, у бібліятэцы Кангрэса ЗША, у бібліятэках іншых краінаў. Нашы слухачы дасылаюць нам лісты-заяўкі, і мы перадаём ім кнігі, пакуль яны ёсць. Я вам прачытаю ліст ад нашага слухача з вёскі ў Гродзенскай вобласці: «Паважаная «Свабода»! Жадаю атрымаць кнігу Сяргея Дубаўца «Як», каб з яе дапамогай выхоўваць сваіх бацькоў і дзядоў. Яе тэксты з маіх вуснаў яны ўжо будуць слухаць напэўна».

Усе кнігі выдавалі накладам ад адной да дзвюх тысяч, усе яны разляцеліся за месяц-два пасля выдання. Але жыццё кніг працягваецца, бо нашы слухачы спампоўваюць кнігі з сайту і маюць іх на сваіх электронных носьбітах. Як сведчыць сусветная культура, любая кніга можа мець незвычайны і цікавы ўплыў і на чалавека, і на хаду падзеяў.

На гэты момант мы рыхтуем 35-ю кнігу. Гэта «Слоўнік Свабоды». Кніга, як ні дзіўна, магла быць самай першай у нашай перадачы. Яна пабудаваная на перадачы, што выходзіла ў 1999 годзе. Мы звярнуліся да розных людзей з просьбай напісаць эсэ пра словы і паняцці мінулага стагоддзя. Матэрыялы гэтай перадачы выдаў часопіс «ARCHE». Гэта быў вельмі паспяховы выпуск часопіса, яго выкарыстоўвалі падчас выкладання ва ўніверсітэтах, у дысертацыях. І вось гэтым «Слоўнікам свабоды» мы хочам адзначыць дзесяцігоддзе «Бібліятэкі Свабоды».



***А. К.: У газеце «Новы час» ёсць рубрыка «Валадары думак». Каго б з герояў і аўтараў «Бібліятэкі Свабоды» вы б аднеслі да гэтай кагорты?***

А. Л.: Думаю, з тых, каго з намі няма, гэта Васіль Быкаў. З тых, хто ёсць, — Рыгор Барадулін. Вельмі важную кнігу напісаў Уладзімір Арлоў. Ён выбраў тры з нечым сотні імёнаў людзей, якія нешта зрабілі для свабоды, дэмакратыі ў Беларусі. Ён меў толькі тры хвіліны часу эфіру на кожную асобу. І гэтае патрабаванне мы пакінулі для кнігі. Кніга «Імёны Свабоды» мела фенаменальны поспех. Камерцыйныя выдаўцы яе некалькі разоў перавыдавалі, і яна проста разляцелася па чытачах. Гістарычная літаратура ўвогуле запатрабаваная ў Беларусі, яна вельмі добра ўспрымаецца.

***А.К.: А радыёстанцыя «Свабода» як творчы калектыў, на ваш погляд, валадар думак?***

**А.Л.:** Мы жывём у час, калі няма манаполіі на аўтарытэт, на інфармацыю, свабоду выказвання. Мы жывём у час інтэрнэту. І нельга цяпер заявіць, што мы ці нехта яшчэ валадар думак. Але эмацыйная, інфармацыйная афарбоўка рашэнняў, якія прымаюць людзі, ёсць з аглядкай на нас. Калі меркаваць па лістах да нас, людзі найбольш цэняць ясную маральную пазіцыю, пазіцыю салідарнасці, што можна пачуць на нашых хвалях. У «Бібліятэцы Свабоды» ёсць выданне, якое стаіць крыху асабняком — гэта перадача «Галасы салідарнасці». Яна выходзіла ў эфір пасля разгону маніфестацыі ў снежні 2010 года ў дзень прэзідэнцкіх выбараў, калі семсот чалавек знаходзіліся за кратамі. Мы звярнуліся да знакамітых людзей з просьбай прачытаць па дзесяць імёнаў людзей, якія сустракаюць Новы год у турмах. Адкрываў чытанні прэзідэнт ЗША Джордж Буш, а закрываў Вацлаў Гавел. Гэта быў выпадак, калі я вучыў прэзідэнта ЗША беларускаму вымаўленню. Я казаў яму па тэлефоне: «Кандыдаты ў прэзідэнты Беларусі». І Буш паўтараў: «Кан-ды-да-ты ў прэ-зі-дэн-ты Бе-ла-ру-сі». Некаторыя імёны мы паўтаралі двойчы. Праз год акцыя паўтарылася. Буш і Гавел напісалі калядныя віншаванні беларускім палітвязням. Дарэчы,

гэтае віншаванне было апошнім лістом Вацлава Гавела: у пятніцу ён напісаў ліст, а ў нядзелю яго не стала. Ведаю, што многія слухачы, сем'і палітвязняў высока ацанілі гэты ўчынак вядомых людзей свету.

***А. К.: Памятаю, як больш за дваццаць гадоў таму пачыналася ваша творчасць, доступ да закрытых архіваў Інстытута гісторыі партыі. Я назіраю гэтыя гады фармаванне некалькіх асобаў у адным Аляксандры Лукашуку: арганізатар-менеджар розных спраў, журналіст, вядучы «Белсата» і пісьменнік. Як ужываюцца ў адной асобе гэтыя іпастасі?***

**А. Л.:** Ой, з цяжкасцю! Бадай што працей за ўсё яны ўжываліся ў часы, калі я быў кіраўніком радыё «Свабодны Афганістан». Праца было адно, астатняе — іншым. Але насамрэч гэтыя розныя заняткі дапаўняюць адно аднаго. Канешне, мне хацелася б пісаць больш. Некалі вы, Аляксей Сцяпанавіч, дапамаглі апублікаваць адну з самых важных працаў, што я рабіў, — даследаванне жыцця і смерці расстралянага ў 1937 годзе сакратара ЦК КПБ(б) Шаранговіча. Менавіта ваша станоўчая рэцэнзія дазволіла пасля некалькіх месяцаў боўтання гэтага тэксту ў розных аддзелах ЦК надрукаваць яго на старонках газеты. Пасля выйшла кніга, прадмову да якой напісаў Васіль Быкаў. Але колькі ўсяго недаследаванага ёсць у беларускіх архівах! Калі я прыязджаю ў Мінск, заўжды стараюся сустракацца з рознымі даследчыкамі, кансультавацца з імі. Шмат зроблена, але застаецца яшчэ больш! Мая апошняя кніга «След матылька. Освальд у Менску» пра жыццё Лі Харві Освальда ў Мінску. Гэта самая даследаваная справа забойства — больш за чатыры мільёны аркушаў дакументаў апублікавана. Але нават у такой справе можна напісаць цэлую кнігу пра невядомыя акалічнасці! Новы накірунак нон-фікшн дакументальнай літаратуры надзвычай важны.

***Вольга Хвоін: Большасць кніг з серыі «Бібліятэка Свабоды» так ці інакш адсылаюць да гісторыі. Нават падзеі 1990-х гадоў для маладых беларусаў — гэта ўжо гісторыя. Ці не плануеце вы крыху асучасніць гэтую серыю?***

**А. Л.:** Мы сапраўды гэта робім. Альгерд Бахарэвіч — малады бліскучы пісьменнік, які цяпер жыве ў Гамбургу. Летась мы выдалі яго кнігу «Малая медычная энцыклапедыя Бахарэвіча» — антынавуковае выданне для дактароў-самавукаў, як вызначыў тэму сваіх эсэ пра свабоду і цела аўтар. Кніга выйшла ў фінал прэміі імя Ежы Гедройца. Другі наш аўтар — Лявон Вольскі. У нас ён робіць сатырычны музычны дуэт «Саўка ды Грышка», мы ўжо выдалі адзін дыск. Цяпер Лявон працягвае свой праект, і напрыканцы года мы, відаць, выпусцім другі дыск. Мы запрашаем творчую моладзь браць удзел у нашых праграмах, праектах.

Два гады ў нас была перадача «Начная чытанка» — усяго каля ста чалавек прачыталі свае творы, і мы выпусцілі дыск з іх галасамі. Аналагічная праграма была з беларускімі бардамі. І мультымедыйны DVD-дыск «Сто бардаў Свабоды» проста разлятаецца. Моладзь для нас сапраўды вельмі важная.

***В. Х.: Вам не падаецца, што агульная энергетыка гэтых твораў — гэта энергетыка каланізаванай нацыі, і нават калі і ёсць смех, то ён скрозь слёзы. Беларушчыне наканавана быць сумнай, дэпрэсіўнай?***

**А. Л.:** Праблема правільная, але знак наш іншы. Мы, наадварот, даводзім, што наша гісторыя моцная, самадастатковая, пазітыўная. Узяць бы кнігі Вячаслава Ракіцкага «Беларуская Атлантыда», ці Міхася Скоблы «Вольная студыя» — яны фантастычныя па сваёй стваральнай энергетыцы! Неўзабаве выйдзе кніга «Майстроўня» пра беларускую ініцыятыву, што як цуд паўстала ў 1980-я гады і заклала парасткі нашай незалежнасці. Мне здаецца, што пазітыўныя і важныя кнігі — нават такія, як «Адзін дзень палітвязня». Бываюць бы сумныя кнігі — людзі сядзяць у турмах, але гэта кнігі пра іх сем'і. Людзі старэйшага пакалення памятаюць, як у 1990-х гадах з'явіліся першыя праблемы з рэжымам, з яго стаўленнем да незалежнасці, беларускай культуры. Адзін з аргументаў у якасці тлумачэння быў такі: у Беларусі за савецкім часам не было нацыянальнага супраціву, не было сваіх дысідэнтаў, якія б заплацілі за незалежнасць сваёй барацьбой, пакутамі. Беларускія палітвязні, асобы, якія апошнія 16 гадоў ахвяруюць сваім здароўем, працай, вучобай, калі паглядзець на ўсё гэта з гістарычнага погляду, то мы знаходзімся ў цэнтры моцнага, аптымістычнага руху, што будзе відавочным крыху пазней! Мы яго адлюстроўваем, і, можа, не ўсё прыгожа выглядае, але ў гістарычнай перспектыве ўсё надзвычай пазітыўна!

***В. Х.: У нашых умовах стаць беларусам — гэта праца. І да вас пытанне як да менеджара, выдаўца: што можна зрабіць, каб кожны малады беларус зразумеў, якая багатая наша гісторыя, колькі ў нас выбітных людзей?***

**А. Л.:** Гэтую задачу немагчыма вырашыць толькі кнігамі. Найперш, гэта ў кампетэнцыі адукацыі, дзяржпалітыкі, падтрымкі нацыянальнай культуры. Я згадваю кнігу Уладзіміра Арлова — як важна знайсці сучасную мову, што будзе зразумелая для пакалення facebook і ВКонтакте, што прыцягвае да праблемы ці тэмы. Трэба рабіць сваю працу самай высокай якасці і на сусветных узроўнях. Наша праца мусіць быць канкурэнтаздольнай па-за межамі Беларусі. Не толькі народ мусіць цягнуцца да творцы, але і творца для народа.

***В. Х.: Цяпер многія гавораць, што змяніць сітуацыю ў Беларусі можна толькі ў выпадку, калі будзе зменена ментальнасць, светаўспрыманне людзей тут. Атрымліваецца, што вы, як і іншыя творцы, не можаце гэтага зрабіць. Такое пад сілу толькі дзяржаўнай сістэме?***

**А. Л.:** На мой погляд, асноўная роля належыць сістэме адукацыі. Я б сюды дадаў яшчэ Царкву і Касцёл — гэта істотныя нацыятворчыя моманты. Кнігі пісаліся ва ўсе часы, але вялікі пласт гуманістычнай літаратуры ў Нямеччыне і ў Расіі не змаглі спыніць з'яўленне Гітлера і Сталіна. Я ўсё ж думаю, што адна культура не можа вырашыць гэтую праблему. Роля незалежнай дэмакратычнай дзяржавы тут незаменная.

Тым, хто пытаецца, навошта Радыё «Свабода» займаецца выдавецкай справай, я адкажу словамі Францыска Скарыны, якімі ён амаль пяцьсот гадоў таму адкрываў у Празе свой першадрук: «Бібліятэка свабоды» выкладзеная беларускай службай са слаўнага месца ў Празе Богу на славу і людзям паспалітым для добрага навучання. Бо лепш і не скажаш!

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# БАЛЬ ПРАВІЦЬ СІЛА





Андрэй Моўчан — да і пасля збіцця

Вольга ХВОІН

**Цягам тыдня было зафіксавана некалькі выпадкаў нахабнага парушэння закону супрацоўнікамі міліцыі ў часе затрымання актывістаў апазіцыі. Маладыя людзі пасля гэтых кантактаў з міліцыяй патрапілі ў шпіталі.**

Быў жорстка збіты АМАПам маладафронтавец Раман Пратасевіч, які вывесіў у цэнтры Мінска бел-чырвона-белы сцяг у падтрымку віцебскага актывіста КХП-БНФ Сяргея Каваленкі. «Мяне адвялі кудысьці за вугал, каб не відаць было. Трымалі двое, заламаўшы рукі. Яшчэ адзін стаяў, біў мяне па галаве і нагах, і яшчэ двое стаялі ззаду, каб нічога не было бачна», — распавёў непаўнагадовы актывіст «Маладога фронту» тэлеканалу «Белсат».

Раман Пратасевіч вывесіў бел-чырвона-белы сцяг непадалёку ад будынка Адміністрацыі Лукашэнкі. Унізе пад пажарнай лесвіцай яго ўжо чакалі міліцыянты ў цывільным і спецназаўскі мікрааўтобус. Пасля збіцця Пратасевіча завезлі ў пастарунак, дзе пратрымалі больш за 4,5 гадзіны.

Актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Андрэй Моўчан таксама вырашыў правесці акцыю салідарнасці з Каваленкам. Пасля акцыі яго знайшлі ў аддзяленні траўматалогіі бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі. Чэрапна-мазгавая траўма, перелом сківіцы, траўмы хрыбетніка — вось вынік сустрэчы з міліцыяй.

«Я выйшаў з бел-чырвона-белым сцягам у падтрымку Сяргея Каваленкі. Але далёка не прайшоў. Пад'ехалі супрацоўнікі міліцыі. Яны пачалі мяне забіраць, выхопліваць з рук сцяг. На пытанне, чаму вы мяне чапаеце, яны нічога не адказвалі. Потым мяне са сцягам павалакі да машыны. Там на мяне нацягнулі кайданкі. І пагрузілі ў іншую машыну. У той машыне мяне і пачалі збіваць. Некалькі разоў я адключаўся. Не памятаю, як мяне везлі. Ачуняў толькі ў аддзяленні міліцыі на нейкай лаве. Адтуль «Хуткая дапамога» павезла ў шпіталь», — так скончылася акцыя салідарнасці для Андрэя.

У мінскі шпіталь з ізалятара на Акрэсціна быў пераведзены і намеснік старшыні «Маладога фронту» Мікалай Дземідзенка. Прычына — пагаршэнне стану здароўя. 15 мая Міколу Дземідзенку суд Цэнтральнага раёна даў 10 сутак адміністрацыйнага арышту нібыта за «дробнае хуліганства». За дзень да гэтага міліцыянты ўварваліся ў кватэру да актывістаў «Маладога фронту», збілі, а потым даставілі маладых людзей у аддзяленне ўнутраных спраў Фрунзенскага раёна. Разам з Мікалаем былі затрыманыя актывісты Зміцер Крамянецкі і Раман Васільеў.

Маладафронтаўцы збіраюцца звяртацца ў міжнародныя арганізацыі з мэтай прызнання адміністратыўна арыштаваных актывістаў руху вязнямі сумлення. Гэта звязана з тым, што традыцыйна актывістаў судзяць за «хуліганку», а «палітычных» артыкулаў у Крымінальным кодэксе быццам бы і няма, таму іх нельга прызнаць палітвязнямі.

КАЛОНКА ЮРЫСТА

# ІЛЬГОТЫ, СПАДЧЫНА, ПАГРОЗЫ



**Мы працягваем публікаваць адказы на пытанні грамадзян, якія звярнуліся па дапамогу да вядомага праваабаронца, кіраўніка грамадскай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» Алега Волчака.**

- *Ці ёсць ільготная пенсія для педагогаў?*

Паводле закона «Аб пенсійным забеспячэнні», можна выйсці на пенсію ва ўзросце 50 гадоў пры наяўнасці 20 гадоў педагагічнага стажу і 25 гадоў агульнага стажу. Аднак пры цяперашнім заканадаўстве, якое дзейнічае з 2009 года, гэтага права пазбавіліся 2/3 педагогаў.

- *Як улічваецца частка кватэры, якая выкупленая за мае прыватызацыйныя чэкі «Жыллё», пры яе падзеле як спадчыннай маёмасці?*

Частка, прыватызаваная за чэкі «Жыллё», пры падзеле спадчыннай маёмасці не ўлічваецца і пад падзел не падпадае. Гэта ваша недзялімая ўласнасць.

- *Я атрымала ў спадчыну дом. У тэрмін, які адводзіцца законам, яго аформіць не паспела. Натарыус адмаўляецца выдаць пасведчанне пра наследаванне па закону. Што рабіць?*

Вам варта звярнуцца ў суд з іскам пра прызнанне спадчыны. Трэба напісаць іскавую заяву, дзе пазначыць, што пры адкрыцці спадчыны вы ўступілі ва ўласнасць маёмасцю, г. зн. домам. Бралі і карыстаецеся рэчамі, якія знаходзяцца ў доме, плацілі падаткі на зямлю. Суд прызнае гэта вашай маёмасцю, і натарыус выдасць вам адпаведныя дакументы.

- *Я жыву ў Рэспубліцы Беларусь, майго мужа асудзілі паводле арт. 264 ч. 3 Крымінальнага кодэкса Расійскай Федэрацыі. Прысуд — паўтара гады вольнага пасялення ў Расіі, аднак муж — грамадзянін Беларусі. Ці можна яго перавесці адбываць пакаранне з Расіі ў Беларусь? Калі можна, дык якія дакументы для гэтага патрэбныя, куды звяртацца, з чаго пачаць?*

У Расійскай Федэрацыі ёсць дакумент — Загад Міністэрства юстыцыі РФ ад 01.12.2005 №235 (рэд. ад 03.02.2011) «Об утверждении Инструкции о порядке направления осужденных к лишению свободы для отбывания наказания, их перевода из одного исправительного учреждения в другое, а также направления осужденных на лечение и обследование в лечебно-профилактические и лечебные исправительные учреждения» (зарэгістравана ў Мінюсце РФ 09.12.2005 № 7249).

- *Скажыце, ці ёсць якая-небудзь магчымасць абараніцца? Сітуацыя такая: былы сужыцель пагражае дзяўчыне самазабойствам, калі яны расстануцца. Пры гэтым неаднаразова здзяйсняў спробы самазабойства. Папросту прыходзіць пад дзверы і здзекуецца. Міліцыя рэгіструе гэта як хуліганства, на ўлік да псіхіятра не ставіць — кажуць, сацыяльнай небяспекі не ўяўляе.*

Не зусім зразумела, ад чаго трэба абараніцца, бо адказнасць за дзеянні гэтага чалавека дзяўчына несці не будзе.

Калі ён у чарговы раз здзейсніць падобную спробу, дык пры апытанні супрацоўнікамі міліцыі можна зрабіць у пратаколе пазнаку пра неабходнасць паставіць у вядомасць установу аховы здароўя пра спробу «суіцыдальных паводзінаў», што прадугледжана Загадам Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь ад 9 ліпеня 2007 г. №575 «Аб прафілактыцы суіцыдаў і аказанні дапамогі асобам, якія здзейснілі спробы суіцыдаў».

ТРЭЦІ СЕКТАР

# УЛАДЗІМІР ЛАБКОВІЧ



Аляксандр ТАМКОВІЧ

**У Раду (незарэгістраванага) праваабарончага цэнтра «Вясна» ўваходзяць пяць чалавек. Чацвёра з іх — героі гэтых нарысаў. Уладзімір Лабковіч — самы малады. Спадзяюся, адзін з адказаў на пытанне, чаму менавіта яму ў «Вясне» аддаюць перавагу, і будзе ў тэксце.**

## Першы пратэст

Уладзімір Лабковіч нарадзіўся 22 кастрычніка 1978 года ў сям'і інтэлігенцыі (інжынераў), якую ў савецкія часы лічылі праслойкай паміж працоўным класам і сялянствам.

Бацька, Мікалай Міхайлавіч, родам са Случчыны, маці, Людміла Васільеўна, нарадзілася ў Краснадарскім краі. У беларускую сталіцу яна прыехала вучыцца.

Першым шляхам Уладзіміра Лабковіча стала дарога ў дзіцячы садок, а потым у «крутую» чацвёртую школу, бо жыў ён тады непадалёк ад яе. Дарэчы, там вучылася шмат герояў нарысаў пра трэці сектар. І некаторыя вядомыя палітыкі. Напрыклад, Вінцук Вячорка.

Як вядома, побач з ёй месціцца будынак ЦК КПБ. Школа засталася па гэты дзень, а замест камуністаў у знакамітым будынку сталі працаваць другія людзі... Што амаль не паўплывала на ідэалагічную сутнасць.

Правучыўся ён там нядоўга — чатыры гады. Бацькі атрымалі кватэру ў новым мікраёне. Цяпер пра сталічную вуліцу Маякоўскага такога не скажаш. Сёння гэта амаль цэнтр горада, і толькі старажылы памятаюць, што калісьці гэта была акраіна. Зразумела, што і школа стала цалкам звычайнай — СШ №55.

Менавіта там і пачалася яго, можна так сказаць, грамадска-палітычная дзейнасць. Напрыканцы 1980-х гадоў з'явіліся першыя пікеты БНФ. На іх раздаваліся надрукаваныя паўпадпольна газеты, з крытычным артыкулам Ельцына. Такая альтэрнатыва моцна ўразіла, і Уладзімір Лабковіч вырашыў: «Калі падрасту, абавязкова ўступлю ў Беларускі народны фронт».

Яго першы самастойны палітычны дэбют адбыўся ў жніўні 1991 года — падчас сумна вядомага путчу. 12-гадовы хлопчык убачыў у ім пагрозу не толькі лёсу краіны, але і асабістай будучыні. Разам з сябрам, яны запісалі перадачу Радыё «Свабода», дзе гаварылася пра маскоўскія пратэсты і заклікі да непадпарадкавання. Выклалі яе на паперу, зрабілі штук 30 улётак і ўвечары расклеілі па слупах.

Можна толькі ўявіць, чым бы ўсё гэта магло скончыцца, калі б путчысты перамаглі...

## Шлях да іншадумства

Падчас прэзідэнцкіх выбараў 1994 года Уладзімір Лабковіч па ўзросце яшчэ галасаваць не мог, а яго бацькі аддалі свае галасы не за дзеючага кіраўніка дзяржавы. Не маглі па-іншаму, таму што ў іх сям'і заўсёды не прымалі нейкіх папулісцкіх лозунгаў.

Памятаю (напярэдадні і пасля тых выбараў), я размаўляў з Вячаславам Кебічам. Калі адбылася перамога апанентаў, ён спытаў: «Ну і што вы цяпер будзіце рабіць?» Я адказаў: «Зноў будзем у апазіцыі». На жаль, не памыліўся.

Нягледзячы на тое, што на першай «прэс-канферэнцыі», калі было агучана «мадэрнізаванае» пытанне Вячаслава Францавіча, з вуснаў новага кіраўніка краіны прагучала: «Ад гэтага часу прэса будзе вольнай!», рэальнасць аказалася дыяметральна супрацьлеглай.

Нас вельмі хутка падзялілі на «чэсных» і «нячэсных». І не толькі журналістаў. Сёння ўся краіна падзелена на «сваіх» і «чужых», «патрыётаў» і «пятую калону», «опаў» і застабілаў». Для тых, хто не ведае, патлумачу: «опамі» называюць усіх, хто не спявае дыфірамбаў уладзе, а «застабіламі» — прыхільнікаў стабільнасці.

Як і трэба было чакаць, «гарачая вясна» 1996 года не была для Уладзіміра Лабковіча чымсьці нечаканым. І гэта цалкам лагічна, бо на той момант іншадумства ўжо стала дамінуючай рысай яго характару. Адзінае, што тады не мог уявіць юнак, тое, што сам некалі будзе працаваць у «Вясне». У праваабарончым цэнтры, які нарадзіўся на хвалі менавіта тых падзей.

Спачатку Уладзіміру Лабковічу крыху шанцавала. Вясновыя «хапуны» міналі. Дэбют адбыўся за тыдзень да рэферэндуму — 16 лістапада 1996 года.

Нагадаю, што на Плошчы Незалежнасці, то бок перад беларускім парламентам, у той час амаль штодзённа праходзілі мітынгі. У адным з іх і вырашыў прыняць удзел Уладзімір. Усё, як кажуць, прайшло без эксцэсаў. Лабковіч уже выходзіў з плошчы, калі да яго падышоў нейкі мужчына і спытаў пра час. Пакуль Уладзімір выцягваў з кішэні гадзіннік, на яго напалі невядомыя і запіхнулі ў «Жыгулі» без нумарных знакаў.

Прывезлі ў Маскоўскі РУУС, дзе адзін з міліцыянтаў сказаў «прамым тэкстам»: «Скажаш, што за ўдзел у мітынгу атрымаў ад Баршчэўскага (адзін з тагачасных лідараў БНФ — заўвага аўтара) дзесяць долараў, адразу адпусцім. Лабковіч адмовіўся і трапіў у прыёмнік-размеркавальнік на вуліцы імя лётчыка Барыса Акрэсціна.

Наступнай раніцай незалежны беларускі суд пакараў яго штрафам.

## Шлях у палітыку

У БНФ ён уступіў яшчэ 19 кастрычніка 1996 года. На мітынгу, які праходзіў ля Опернага тэатру, заўважыў шыльду наконт запісу. Запісаўся, але далей за гэта нічога не пайшло. Напэўна, раённая арганізацыя працавала не вельмі добра, і пра Уладзіміра Лабковіча банальна забыліся.

Пазней ён прыйдзе ў штабкватэру БНФ сам і будзе з аднадумцамі ствараць яго маладзевае крыло — «Малады фронт». Акрамя гэтага ўзначаліць адну з раённых суполак. А ў 1999 годзе стане сябрам сойму Беларускага народнага фронту.

Як вядома, у гэтым жа годзе Віктар Ганчар праводзіў так званыя альтэрнатыўныя прэзідэнцкія выбары. Уладзімір Лабковіч быў у складзе яго выбарчай камісіі, але як самага маладога сябра яго там шкадавалі і не «свяцілі». У многіх юрыстаў тая выбарчая кампанія выклікае, мякка кажучы, шмат пытанняў, таму пакінем яе за дужкамі гэтага нарысу.

Што ж датычыцца выбараў афіцыйных, якія адбыліся ў 2001 годзе, то тут Уладзімір Лабковіч прынцыпова падзяляў пазіцыю Партыі БНФ, якая падтрымала Сямёна Домаша, і актыўна дапамагаў у яго выбарчым штабе юрыдычнай службе. Можна толькі ўявіць, якія пачуцці апанавалі яго аднадумцаў, калі «адзіным» зрабілі іншага чалавека.

Не будзем зараз аналізаваць усе нюансы таго выбару. Адзначым толькі, што тады Уладзімір Лабковіч (як і многія іншыя), адышоў у бок. Разам з Валянцінам Стэфановічам, якога ведаў з 1997 года, ён пачаў займацца навучаннем назіральнікаў за тымі выбарамі.

Каб закончыць з палітыкай, дададзім, што на справаздачна-выбарчым сходзе БНФ (2009 год) ён актыўна падтрымаў абранне новага кіраўніцтва партыі і да жніўня мінулага года быў адказным сакратаром Управы. З пераездам партыйных органаў на новае месца, каб гэта не замінала аб'ектыўнай грамадзянскай працы, адмовіўся ад усіх партыйных функцыяў.

І яшчэ. У 1997 годзе, разам з паплечнікамі з раённай суполкі, Уладзімір Лабковіч з крухмалу варыў клей, а па начах клеіў у сваім раёне і Серабранцы ўлёткі. Упэўнены, што менавіта гэтага сёння нашай апазіцыі і не хапае — працаздольнасці за ідэю і самаахвярнасці.

## Шлях у «Вясну»

У 2000 годзе Уладзімір Лабковіч працаўладкаваўся ў адну з юрыдычных фірмаў, а праз паўгода стаў юрыстам БНФ. З гэтай пасады восенню 2001 года ён і перайшоў у «Вясну», дзе працуе ўжо амаль 12 гадоў.

Тут атрымаў шыкоўную юрыдычную практыку. Тут знайшоў і сваю будучую жонку Ніну.

Справа ў тым, што ў 2004 годзе (для праваабаронцаў звычайная практыка) ён быў назіральнікам на майданавых украінскіх выбарах. У такім жа статусе ў Харкаўскай вобласці працавала і Ніна Дзярабіна з Казахстану. Каб праца была больш эфектыўнай, усіх назіральнікаў аб'ядналі ў змешаныя групы. Урэшце нарадзіліся не толькі палітычны дуэт, але і сімпатыі, якія прывялі да сапраўднага кахання.

Спачатку было актыўнае ліставанне, год сумеснага жыцця, а 11 сакавіка 2006 года яны пабраліся шлюбам афіцыйна. Дарэчы, Уладзімір Лабковіч у 2005 годзе быў дэпартаваны з Казахстану, дзе тады праходзілі прэзідэнцкія выбары. Уезд у гэтую краіну яму забаронены, так што пакуль пабываць на радзіме жонкі (Караганда) магчымасцей не было.

4 жніўня 2011 года сябра Рады праваабарончага цэнтру «Вясна» Уладзімір Лабковіч, як кажуць, застаўся на гаспадарцы, бо два другія кіраўнікі (Алесь Бяляцкі і Валянцін Стэфановіч) пайшлі ў адпачынак. Яшчэ у абед ён заўважыў, што вакол іх офіса гуртуюцца людзі ў цывільным, а каля пяці гадзін вечара даведаўся пра арышт Алеся Бяляцкага. Тая кароткая тэлефонная размова пакуль стала апошняй...

Яшчэ раз падрабязна спыняцца на тым, што было далей, ніякага сэнсу няма, адзначу толькі, што, калі я не памыляюся, Алесь Бяляцкі стаў ПЕРШЫМ беларусам, які вылучаны на атрыманне Нобелеўскай прэміі міру ажно тры разы.

Зразумела, мае да гэтага непасрэднае дачыненне і герой майго нарысу. Больш за тое, менавіта Уладзімір Лабковіч ініцыятываў збор сродкаў, якія патрабавала ад Бяляцкага беларуская Феміда. Неабходныя сродкі (усім мірам) у неабходныя тэрміны сабралі, але, на жаль, гэта не мела патрэбнага эфекту.

І ўвогуле, тое, што адбываецца апошнія восем месяцаў у праваабарончым цэнтры «Вясна», выглядае вельмі прыгожа. Такога шчырага і настойлівага змагання за свайго кіраўніка асабіста я не ведаю. За выключэннем, можа, толькі Уладзіміра Някляева.

Чаму? Адказаць на гэта пытанне можна словамі Уладзіміра Лабковіча: «Бяляцкі для нас — не проста кіраўнік. Гэта настаўнік. Шмат у чым сябра. Нам яго моцна не хапае. Усе жывем спадзяваннем на яго як мага найхутчэйшае вызваленне».

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 30 МАЯ, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Ваенная выведка. Заходні фронт» (Расія). Закл. серыя.
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.35** Скрынка перадач.
**11.05** Камедыйны серыял «Сваты-3».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Серыял «Абдуры мяне» (ЗША).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.30** «Адкрыццё Грузіі».
**16.00** Медычныя таямніцы.
**16.25** Камедыя «Прыгажунчык» (Расія). 3-я серыя.
**17.20** Меладраматычны серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.15** Зямельнае пытанне.
**18.45, 23.55** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-3».
**21.00** Панарама.
**21.45** Адмысловы рэпартаж АТН.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Ваенная выведка. Заходні фронт» (Расія). Закл. серыя.
**23.05** Серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Дэтэктыўная камедыя «Крама «Імперыя» (ЗША).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.10** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.10** Шматсер. фільм «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Уцёкі». Новы сезон.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**23.15** Асароддзе пасялення.
**00.15** «Вячэрні Ургант».
**00.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Верхаводы. Быць разам». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.40** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**15.30** «Забойная сіла 2». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Верхаводы. Быць разам». Серыял.
**21.25** «Забойная сіла 2». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Мінск і мінчане».
**23.35** «Дабро пажаліцца».
**00.00** «Меч». Серыял.
**00.50** «Дзіўная справа».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Цела чалавека.
**09.35** Наперад у мінулае.
**10.10** Драматычны серыял « Вар'яты» (ЗША). Заключная серыя.
**11.15** Канцэртная праграма (Расія).
**12.55** Бухта капітанаў.
**13.30** Фантастычная камедыя «Таўстун Альберт» (ЗША).
**15.15** Ясі і худзей.
**15.45** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.45** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Гандбол. Адборачны матч чэмпіянату Еўропы-2012. Жанчыны. Беларусь - Германія. Прамая трансляцыя.
**20.30** «Мядзведзь» (СССР).
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Беларуская часіна.
**22.50** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**23.50** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05, 09.05, 20.45** «Кыргызстан у асобах».
**05.20** «На шашлыкі».
**06.05** М/с «Гадкае качаня».
**06.40** «Цік-так».
**07.05, 08.05, 02.40** Т/с «Ваўчыца».
**09.25** «Даведнік».
**10.05, 11.05** М/ф «Соль зямлі».
**12.20, 22.05** Д/ф.
**13.30** М/с «Крыштальная маска».
**13.55** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Дзядуля маёй мары».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.05** «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40** Т/с «Справа гонару».
**21.25, 04.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**00.05, 01.05** Т/с «Нашы суседзі».
**02.00** «Сардэчна запрашаем».

### Discovery Channel

**05.00** Пятая перадача. Серыя 6.
**05.25** Вугаль. Серыя 7.
**06.20** Як гэта ўладкавана?
**06.50** Як гэта зроблена?
**07.15** Сапраўдныя аферысты. Вялікія стаўкі. Серыя 9–10.
**08.10** Разбуральнікі легенд.
**09.05** Вугаль. Серыя 8.
**10.00** Выжыць любым коштам.
**10.55** Спецпрызн «Цяжкія машыны». Серыя 7.
**11.50** Спартовыя арэны Эўра-2012. Серыя 1.
**12.45** Top Gear. Серыя 4.
**13.40** Круты цюнінг.
**14.35** Пятая перадача. Серыя 7.
**15.05** Выжыць любым коштам.
**16.00** Разбуральнікі легенд.
**17.00** Як гэта ўладкавана?
**17.30** Як гэта зроблена?
**18.00** Сапраўдныя аферысты.
**19.00** Discovery выратаваў мне жыццё.
**20.00** Буянства тарнада.
**21.00** Лесапавал на балотах. Серыя 9.
**22.00** Экстрэмальная рыбалка. Серыя 6.
**23.00** Сапраўдныя аферысты.
**00.00** Top Gear. Серыя 4.
**00.55** Вугаль. Серыя 8.
**01.50** Разбуральнікі легенд.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы. Серыя 15.
**03.10** Як гэта ўладкавана?
**03.40** Як гэта зроблена?
**04.05** Круты цюнінг.

### Eurosport

**00.15** Аўта і Матаспорт.
**00.30** Аўтагонкі: Суперкубак Паршэ. Манака.
**01.00** Аўта і Матаспорт: Матаспартыўны часопіс.
**01.15** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Таварыскі матч.
**01.45, 10.15** Тэніс.
**02.30, 11.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**09.30** Фітнэс.
**09.45** Аўта і Матаспорт.
**10.00** Футбол: Эўра - 2012. «Зваротны адлік».
**12.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты чэмпіянат Францыі - Дзень 4.
**21.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**22.05** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**22.10** Конны спорт: Рым.
**23.10** Конны спорт: Навіны коннага спорту.
**23.15** Гольф: Тур PGA.

### Белсат tv Belsat

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 20 серыя.
**08.25** Два на два (тэледыскусія).
**08.50** На колах.
**09.20** Рэпартэр.
**09.45** Асабісты капітал.
**10.00** Эксперт.
**10.35** «Алесь Лось», рэпартаж.
**10.50** Беларусы ў Польшчы.
**11.05** Euromaxx.
**11.30** «Катка», дак. фільм, 2010 г., Чэхія.
**13.05** Асабісты капітал.
**13.20** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 20 серыя.
**14.15** «Рэнэ», дак. фільм, 2009 г., Чэхія.
**15.10** Два на два (тэледыскусія).
**15.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**16.05** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**16.30** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**17.00** «100 хвілін вакацыяў», тэлесерыял: 4 серыя.
**17.25** Невядомая Беларусь: «Дзень «Ч». Версія», дак. фільм, 2009 г., Беларусь: ч. 1.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Дзеці-тулягі», дак. фільм, 2011 г., Польшча: ч. 1.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Асабісты капітал.
**19.40** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня».
**20.35** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**20.40** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.45** «Дэкалог, восем», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**22.45** Два на два (тэледыскусія).
**23.10** Аб'ектыў.
**23.35** Гарачы каментар.

## 31 МАЯ, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Прыгодніцкі серыял «Рабінзон» (Расія). 1-я серыя.
**10.05** Зямельнае пытанне.
**10.35** Да цешчы на бліны.
**11.05** Камедыйны серыял «Сваты-3».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Мультфільм «Маша і Мядзведзь».
**15.35** Здароўе.
**16.20** Камедыя «Прыгажунчык» (Расія). 4-я серыя , заключная.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 23.50** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-3».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Прыгодніцкі серыял «Рабінзон» (Расія). 1-я серыя.
**23.00** Драматычны серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Трылер «Крумкач» (ЗША).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.10** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.10** Шматсер. фільм «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Уцёкі». Новы сезон.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** Фільм «Вока божае».1-я серыя.
**00.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Верхаводы. Быць разам». Серыял.
**09.30** «Дабро пажаліцца».
**09.55** «Прыгоды дылетанта».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.40** «Меч». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла 2». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Верхаводы. Быць разам». Серыял.
**21.25** «Забойная сіла 2». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Праўда».
**23.40** «Аўтапанарама».
**00.00** «Меч». Серыял.
**00.50** «Яшчэ не вечар».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вышэй за дах.
**09.40** Ясі і худзей.
**10.10** Драматычны серыял « Вар'яты-2» (ЗША). 1-я серыя.
**11.10** Страсці па культуры.
**11.55** Жансавет.
**12.30** Вышэйшая мера.
**13.15** Музычная камедыя «Волга-Волга» (СССР).
**15.10** Ясі і худзей.
**15.45** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.45** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Біяграфічная драма «Гісторыя Антуана Фішэра» (ЗША).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.40** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**23.35** Час футболу.
**00.20** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05, 09.05, 20.45** «Простая мова».
**05.20** «Вялікі рэпартаж».
**06.05** М/с «Гадкае качаня».
**06.40** «Цік-так».
**07.05, 08.05, 02.40** Т/с «Ваўчыца».
**09.25** Праграма «Сардэчна запрашаем.
**10.05, 11.05** М/ф «Соль зямлі».
**12.20, 22.05** Д/ф.
**13.30** М/с «Крыштальная маска».
**13.55** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Дзядуля маёй мары».
**15.25** Т/с «Чужыя таямніцы».
**17.05, 23.05** «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40** Т/с «Справа гонару».
**21.25, 04.25** «Злачынства і пакаранне».
**00.05, 01.05** Т/с «Нашы суседзі».
**02.00** «Беларусь сёння».

### Discovery Channel

**05.00** Пятая перадача. Серыя 7.
**05.25** Вугаль. Серыя 8.
**06.20** Як гэта ўладкавана?
**06.50** Як гэта зроблена?
**07.15** Сапраўдныя аферысты.
**08.10** Разбуральнікі легенд.
**09.05** Вугаль. Серыя 9.
**10.00** Выжыць любым коштам.
**10.55** Акулы. Механізм нападу.
**11.50** Буянства тарнада.
**12.45** Top Gear. Серыя 5.
**13.40** Круты цюнінг.
**14.35** Пятая перадача. Серыя 8.
**15.05** Выжыць любым коштам.
**16.00** Разбуральнікі легенд.
**17.00** Як гэта ўладкавана?
**17.30** Як гэта зроблена?
**18.00** Сапраўдныя аферысты. Серыя 1–2.
**19.00** Зброя па-амерыканску. Серыя 6.
**20.00** ВМФ ЗША.
**21.00** Споведзь чальца хеўры. Серыя 3–4.
**22.00** Экстрэмальная рыбалка. Серыя 7.
**23.00** Сапраўдныя аферысты. Серыя 1–2.
**00.00** Top Gear. Серыя 5.
**00.55** Вугаль. Серыя 9.
**01.50** Разбуральнікі легенд.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы. Серыя 16.
**03.10** Як гэта ўладкавана?
**03.40** Як гэта зроблена?
**04.05** Круты цюнінг.

### Eurosport

**00.15** Гольф: Еўрапейскі тур. Гольф The BMW Championship.
**00.45** Гольф: Еўрапейскі тур. Жанчыны.
**00.55** Гольф: Гольф Клуб.
**01.00** Ветразевы спорт: Яхт клуб.
**01.05** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**01.15** Футбол: Моладзевы фэст да 21. Тулон.
**02.30** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Таварыскі матч.
**09.30** Аўтагонкі: Сусветная серыя Рэно Манака - Агляд.
**10.00** Тэніс.
**11.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты чэмпіянат Францыі - Дзень 4.
**11.30, 21.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**12.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты чэмпіянат Францыі - Дзень 5.
**22.00** Баявыя мастацтвы.: Байцоўскі клуб.

### Белсат tv Belsat

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Дэкалог, восем», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**08.30** «Бландзінка», серыял: 9 серыя.
**09.15** Праект «Будучыня».
**09.40** «Згубленыя вакацыі», дак. фільм, 2006 г., Чэхія.
**11.05** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**11.15** «Рэнэ», дак. фільм, 2009 г., Чэхія.
**12.15** «Дэкалог, восем», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**13.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**13.30** Праект «Будучыня».
**14.00** «Восем жыццяў «Жука» KFZ-1348», дак. фільм, 2008 г., Бразілія.
**15.20** Навігатар.
**15.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.00** «Праблема з камарамі ды іншыя гісторыі», дак. фільм, 2007 г., Балгарыя.
**17.00** «100 хвілін вакацыяў», тэлесерыял.
**17.25** Вагон.
**17.30** Басанож па свеце.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Дзеці-тулягі», дак. фільм, 2011 г., Польшча: ч. 2.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Эксперт.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэпартэр.
**21.50** Форум (ток-шоў).
**22.40** «Д'ябалавы хітрыкі», серыял, 2009 г., Чэхія 2 серыя.
**23.40** Аб'ектыў.
**00.05** Гарачы каментар.

ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №5 (69) (травень)

www.lit-bel.org www. novychas. org

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»

Анонс



ПАМЯЦЬ

# ПЕРАМОГА. ЯНЫ НАПЕРАДЗЕ ІДУЦЬ

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

**9 Мая я звычайна віншаваў бацьку і ягоных франтавых сяброў. Яны збіраліся пасля ўрачыстага афіцыёзу дзе-небудзь на беразе рэчкі ці ў ляску, выпівалі па сто франтавых за тых, хто да гэтага дня не дажыў, курылі і маўчалі. А калі ўспаміналі пра вайну, дык іх успаміны мала нагадвалі тыя карціны пераможных баталій і пампезнага гераізму, якія маляваліся савецкай прапагандай. Можна сказаць, ніяк не нагадвалі...**



Мой бацька, які прайшоў вайну ад пачатку да канца, распавёў аднойчы, як патрапіў у штрафроту. Паслалі яго ў тыл па снарады. Пагрузілі яны з сябруком тыя снарады ў палутарку, а сябрук кажа: «Я ведаю, дзе тут піва можна папіць. Заўтра наступленне, давай вып'ем перад смерцю».

На перадавой — смерць, а ў тыле, хоць і вайна, — жыццё. Пры штабе — піўная. Зайшлі яны, а ў піўной налівае піва бацькаў зямляк. Бацька кажа: «Каму немцаў забіваць — каму піваналіваць». Зямляк у адказ: «А вы, хлопцы, прывядзіце мне сюды пару немцаў, я іх тут заб'ю».

Бацька яму ў лоб куфлем, піва не дапіўшы, і сябрук бацькаў таксама не стрываў...

З тым паехалі. Назаўтра бой, сябрук бацькаў загінуў. А бацьку асабіст паклікаў. Буфетчык нажаліўся, а буфетчык — фігура. Асабліва для асабістаў, якія разам са штабнымі на вайне піва й пілі. Асабіст кажа: «Я пакуль да цябе па-свойску. Твой зямляк умову паставіў: ты перад ім за сябе і за сябрука свайго прабачаешся — і ён не піша рапарт. Калі не прабачаешся, дык штрафрота. Ты ў лоб даў старэйшаму па званні».

Бацька адказаў, што не ведае, ці згадзіўся б прасіць прабачэння ягоны загінулы сябрук. І пайшоў у штрафроту, дзе прабыў усяго тры дні: на чацвёрты яго паранілі.

Хтосьці сказаў бацьку, што закон: «У штрафроце (як і ў штрафбаце) не да смерці (як у немцаў), а да першай крыві ці ўзнагароды» — адстаяў перад генералісімусам Сталіным маршал Жукаў. І маршал стаў для бацькі кумірам. Мемуары Жукава ў апошнія гады жыцця былі настольнай бацькавай кнігай.

Бацька не ведаў, што ягоны брат загінуў пад Берлінам 16 красавіка 1945 года толькі таму, што Жукаў, атрымаўшы на гэта згоду Сталіна, аддаў загад штурмаваць Зеелаўскія вышыні. Штурмаваць без ваеннай патрэбы: і лёс Берліна, і вынік вайны былі ўжо вырашаныя. Штурмаваць адной пяхотай — без танкаў і самалётаў. І за два дні штурму паклалася на тых вышынях столькі салдат, колькі сёння засталося ў Беларусі ўсіх жывых ветэранаў.

Пра гэта не сказана ў мемуарах Жукава, якія канчаюцца якраз успамінамі пра штурм Берліна. Няма ў іх нічога і пра тое, як пасля вайны генералісімус з маршалам дзялілі салдацкую перамогу.

> Яфрэйтар Пракоп Някляеў, які паміж прыніжэннем і штрафротай выбраў штрафроту, гэты ліст любімага маршала не прачытаў

22 сакавіка 1946 года Жукаў быў прызначаны намеснікам міністра абароны, а ўжо 1 чэрвеня таго ж года з гэтай пасады звольнены. У загадзе аб звальненні міністр абароны Сталін напісаў: «Маршал Жуков, утеряв всякую скромность, и будучи увлечен чувством личной амбиции, считал, что его заслуги недостаточно оценены, приписывая при этом себе, в разговорах с подчиненными, разработку и проведение всех основных операций Великой Отечественной войны, включая и те операции, к которым он не имел никакого отношения».

21 лютага 1947 года Жукаў быў выведзены са складу ЦК. 27 лютага ён напісаў ліст Сталіну:

«Товарищ Сталин, я еще раз со всей чистосердечностью докладываю Вам о своих ошибках.

1. Во-первых, моя вина прежде всего заключается в том, что я во время войны переоценивал свою роль в операциях и потерял чувство большевистской скромности. Во-вторых, моя вина заключается в том, что при докладах Вам и Ставке Верховного Главнокомандования своих соображений, я иногда проявлял нетактичность и в грубой форме отстаивал свое мнение. В-третьих, я виноват в том, что в разговорах с Василевским, Новиковым и Вороновым делился с ними о том, какие мне делались замечания Вами по моим докладам. Все эти разговоры никогда не носили характера обид, точно так же, как я, высказывались Василевский, Новиков и Воронов. Я сейчас со всей ответственностью понял, что такая обывательская болтовня безусловно является грубой ошибкой и ее я больше не допущу. В-четвертых, я виноват в том, что проявлял мягкотелость и докладывал Вам просьбы о командирах, которые несли заслуженное наказание. Я ошибочно считал, что во время войны для пользы дела лучше их быстрее простить и восстановить в прежних правах. Я сейчас осознал, что мое мнение было ошибочным.

2. Одновременно, товарищ Сталин, я чистосердечно заверяю Вас в том, что заявление Новикова о моем враждебном настроении к правительству является клеветой. Вы, товарищ Сталин, знаете, что я, не щадя своей жизни, без колебаний лез в самую опасную обстановку и всегда старался как можно лучше выполнить Ваше указание.

3. Все допущенные ошибки я глубоко осознал, товарищ Сталин, и даю Вам твердое слово большевика, что ошибки у меня больше не повторятся. На заседании Высшего военного совета я дал Вам слово в кратчайший срок устранить допущенные мною ошибки, и я свое слово выполняю. Работаю в округе много и с большим желанием. Прошу Вас, товарищ Сталин, оказать мне полное доверие, я Ваше доверие оправдаю. Г. ЖУКОВ».

Добра, што ў кнізе мемуараў Жукава пра дзяльбу салдацкай перамогі ні слова, і яфрэйтар Пракоп Някляеў, які паміж прыніжэннем і штрафротай выбраў штрафроту, гэты ліст любімага маршала не прачытаў.

Як не прачыталі яго і бацькавы сябры, якія паміж сабой нічога не дзялілі, апроч франтавых ста грамаў ды пачака махоркі. Вось яны сядзяць на пагорку, выпіваюць, дымяць, і з кожным днём Перамогі іх усё меней, меней, меней, галасы іх цішэй, цішэй, цішэй — вось ужо амаль і спусцеў пагорак...

Але не спусцеюць ніколі сэрцы людзей, у якіх жыве і будзе жыць удзячнасць тым, хто, нягледзячы на калектывізацыю і Гулаг, калгасы і лесапавалы, штрафроты, штрафбаты і заградатрады, неймавернымі высілкамі і небывалай крывёй выстаяў і перамог!..

*Спытае нехта: як жывеш?*
*І ты ў адказ кіўнеш: нічога...*
*Пасля спытай сябе самога:*
*Як ты жывеш? Ці так жывеш?*

*Прыйдзі да Вечнага агню*
*І моўчкі, стаўшы на калені,*
*Правер агнём сваё сумленне*
*На праўду і на чысціню.*

*Калі ўстанеш прысягнуць*
*Усім, хто не вярнуўся з бою, –*
*Ты не шукай іх за спіною.*
*Яны наперадзе ідуць.*

http://naviny.by

САЮЗ

# АДНОЎЛЕНА АДДЗЯЛЕННЕ СБП

**Адбылося паседжанне Магілёўскага аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**

У парадку дня былі два пытанні: 1. Аб аднаўленні дзейнасці Магілёўскага аддзялення СБП; 2. Выбары старшыні аддзялення. Праца паседжання пачалася з уручэння пісьменніцкіх пасведчанняў нядаўна прынятым у шэрагі СБП Тамары Аўсяннікавай, Міхасю Булавацкаму і Сяргею Украінку.

У абмеркаванні першага пытання ўзялі ўдзел Яраслаў Клімуць, Фелікс Шкірманкоў, Мікола Яцкоў, Міхась Булавацкі.

Аднагалосна было пацверджана рашэнне аб аднаўленні дзейнасці Магілёўскага аддзялення СБП. На пасаду старшыні Магілёўскага аддзялення абраны пісьменнік Мікола Яцкоў.

Кіраўніцтва ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» на паседжанні прадстаўляў намеснік старшыні Эдуард Акулін.



РЭГІЁНЫ

# СУМАВАЦЬ? НЯМА ЧАСУ!

**Чалавек не заўсёды можа абраць сабе месца для жыхарства — даводзіцца ж лічыцца з жыццёвымі рэаліямі… І ўсё ж пытанне, дзе лепей жывецца-існуецца творчай асобе, прынамсі — літаратару, не мае, мне здаецца, адназначнага адказа.**

Колькі мы ведаем прыкладаў, калі пісьменнікі, што жылі «ў правінцыі», адначасова былі ўладарамі думак сталічнай чытацкай аўдыторыі. Але гаворка трохі пра іншае: ці пачуваюць сябе «ізаляванымі» сучасныя беларускія літаратары, у прыватнасці — сябры нашага пісьменніцкага саюза, якія жывуць далёка ад буйных гарадоў? Канешне, ёсць тэлефоны, ліставанне, Інтэрнэт, магчымасць атрымліваць па пошце літаратурныя выданні… Але што рабіць, калі цягне і да «жывых», непасрэдных кантактаў?

Можна, вядома, час ад часу наведваць сталіцу або абласны горад, сустракацца з сябрамі-калегамі. Ёсць, аднак, і іншы цікавы шлях, які ўжо не адзін год практыкуюць літаратары Лунінеччыны: запрашаць да сябе ў госці, ладзіць вечарыны ды іншыя імпрэзы з удзелам «суседзяў». І не толькі суседзяў геаграфічных, бо не аднойчы наведвалі Лунінецкі раён пісьменнікі з Мінска, іншых рэгіёнаў Беларусі. Што да берасцейцаў (а Лунінеччына належыць да Брэсцкай вобласці), то тут за апошнія гады пабывала ўжо большасць сябраў абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Прыклады? Сёлета трэці год запар лунінецкія сябры СБП і Беларускай асацыяцыі журналістаў зладзілі ў сваім горадзе тэматычны круглы стол (і адначасова творчую вечарыну) літаратараў і журналістаў.

У часе імпрэзаў абмяркоўваліся, напрыклад, аспекты ўзаемадачыненняў журналістыкі і літаратуры, праблемы (не)залежнасці творчай асобы ад жыццёвых абставінаў і інш. Апрача мясцовых творцаў, удзел у мерапрыемстве бралі ў 2010 годзе Іван Лагвіновіч, Аляксей Белы і Алесь Корнеў з Баранавіч, Аляксей Філатаў з Берасця, у 2011-м — берасцейцы Мікалай Аляксандраў, Алесь Паплаўскі, Уладзімір Глазаў, а сёлета — Лявон Валасюк і Мікола Сянкевіч з Брэста, Аляксей Галаскок з Ганцавіч, Ірына Ляшкевіч са столінскай вёскі Мачуль, старэйшы журналіст і публіцыст Міхаіл Нардштэйн — ажно з Германіі… А былі ж за мінулыя гады і іншыя творчыя сустрэчы, у тым ліку з Паўлам Ляхновічам і Аленай Ігнацюк (Пінск), Валянцінай Осіпавай (Бяроза), Міколам Пракаповічам (Брэст) ды іншымі.

Выбіраюцца і самі лунінчане з выступамі ў іншыя рэгіёны, прэзентуючы сваю творчую суполку. Выступалі ў розны час у Мінску, Пінску, Іванаве, Брэсце, Ганцавічах, Бярозе, Белаазёрску… Не так даўно зноў наведалі Ганцавічы, бралі ўдзел у вечарыне Алеся Каско, прэзентацыі ягонай кнігі «Нічога больш», якую зладзілі былому земляку мясцовыя культработнікі (паказальна, што і тамтэйшая вертыкаль на чале са старшынёй райвыканкама наведала паэтычнае свята).

Выснова са сказанага простая: сумаваць не варта, нават жывучы ў «глыбінцы». Наладзіць творчыя кантакты не так і складана, была б ахвота. Так што — запрашаем да сустрэчы!

**Вадзім Жылко**

# ЭКСЛІБРЫС

**Закончыўся прыём заявак на конкурс Саюза беларускіх пісьменнікаў «Экслібрыс» для маладых літаратараў.**

2012 год выдаўся багатым на юбілеі класікаў беларускай літаратуры: 200 гадоў з дня нараджэння Паўлюка Багрыма, 130 — Якуба Коласа і Янкі Купалы, 125 — Алеся Гаруна і Цішкі Гартнага, 100 — Максіма Танка, 95 — Янкі Брыля, 75 — Міхася Стральцова... Славутым юбілярам і прысвячаецца конкурс.

Да ўдзелу прымаліся празаічныя творы, паэзія, драматургія, літаратурная крытыка, пераклады мастацкіх тэкстаў на беларускую мову і пераклады твораў беларускіх пісьменнікаў на расійскую мову. Узяць удзел у конкурсе маглі пісьменнікі, літаратурныя крытыкі і перакладчыкі, не старэйшыя за 35 гадоў.

Лепшых аўтараў назаве журы конкурса, у якое ўвайшлі: Эдуард Акулін, Ірына Багдановіч, Аксана Данільчык, Віктар Жыбуль, Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч, Людміла Рублеўская, Міхась Скобла і Андрэй Хадановіч.

Па выніках літаратурнага конкурса «Экслібрыс» будзе праведзена вечарына ўзнагароджвання пераможцаў. Творы фіналістаў будуць надрукаваныя ў часопісе «Дзеяслоў» і «Літаратурнай Беларусі», іх аўтары атрымаюць магчымасць наведаць літаратурныя майстар-класы, якія правядуць вядомыя беларускія пісьменнікі. Па заканчэнні конкурса пры СБП пачне працаваць Школа маладых літаратараў.

**Прэсавая служба СБП**

## ЧЭРВЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы чакаюць сваіх юбілееў сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

05.06.1942 – Вячаслаў Пятровіч Рагойша
13.06.1957 – Ігар Васільевіч Жук
26.06.1932 – Давід Рыгоравіч Сімановіч



Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

ВЫДАННІ

# «ПАСЛЯЖЫЦЦЁ» ВАСІЛЯ БЫКАВА

**У электронным выдавецтве «Пяршак» часопіса 34mag.net выйшаў зборнік Васіля Быкава «Пасляжыццё». Дапамаглі з выданнем кнігі ўдава аўтара Ірына Міхайлаўна Быкава, Саюз беларускіх пісьменнікаў, часопіс «Дзеяслоў» і новачасаўская «Літаратурная Беларусь», якім 34mag выказаў падзяку.**

У кнігу ўвайшлі аповесці і апавяданні, якія ніколі не друкаваліся пры жыцці аўтара. «Пад адной вокладкай» сабраны пяць твораў, напісаныя ў розныя часы. Аповесць «Атака» і апавяданне «Жалезны камандзір» не так даўно былі знойдзеныя ў гарадзенскім архіве аўтара Сяргеем Шапранам з дапамогай сыноў пісьменніка і адносяцца да 1960-х гадоў (у папяровай версіі выйшлі сёлета ў серыі «Гарадзенская бібліятэка»). Аповесць «Афганец» і апавяданне «Бутэльчына» створаны ўжо ў незалежнай Беларусі, гаворка ў іх таксама ідзе пра сучаснасць. Акрамя таго, у электронны зборнік увайшла незавершаная аповесць «Бліндаж», распачатая ў 1987 годзе. Усе тэксты апублікаваныя ў аўтарскай рэдакцыі.

«Аказалася, што дзевяць гадоў, якія прайшлі са смерці Васіля Быкава, — недастатковы час для таго, каб асэнсаваць ролю пісьменніка ў гісторыі краіны і яе літпрацэсе ў прыватнасці. Гэтай кніжкай мы хочам падкрэсліць, што лічым Быкава аўтарам, чытанне якога жыццёва неабходнае для разумення простых чалавечых каштоўнасцяў», — выказаліся прадстаўнікі мультылэйбла «Пяршак».




У афармленні кнігі «Пасляжыццё» выкарыстаная коміксавая стылістыка. Па словах стваральніцкай лэйбла, гэта зроблена, каб падкрэсліць сучаснасць і актуальнасць прозы Васіля Быкава. Выдаўцы тлумачаць, што дызайн выдання — гэта іх рэфлексія на тэкст. «Кожная ілюстрацыя — своеасаблівы ключ да таго ці іншага твора і зборніка ў цэлым». Аўтар ілюстрацый — маладая мастачка Ганна Крук. Канцэптуальным насычэннем праекта займаўся Danila Berencef.

Спампаваць зборнік у Сеціве можна бясплатна.

**Ул. інф.**

ВЫДАННІ

# «КАСТРЫЧНІЦКАЯ ПЛОШЧА»




**43-гадовы нямецкі пісьменнік Марцін фон Арндт напісаў раман «Кастрычніцкая плошча» (2012). Дзеянне ў рамане, дзе скрыжаваліся дэтэктыўная, любоўная і палітычная сюжэтныя лініі, разгортваецца ў Беларусі.**

У цэнтры кнігі — беларуска-вугорская сям'я з досыць разгалінаваным генеалагічным дрэвам і неўпарадкаванымі сэксуальнымі сувязямі. Беларусь вачыма галоўнага героя Васіля — гэта: глухая правінцыя з мужчынамі-алкаголікамі і жанчынамі, якія любяць гуляць у карты; вывучэнне роднай мовы як замежнай; кпіны з прэзідэнта, які «па волі Ўсявышняга ўзяў усё кепскае з сацыялізму і капіталізму, старанна змяшаў і назваў гэта Беларуссю»; безвыніковыя спрэчкі «тутэйшых» з сябрамі-апазіцыянерамі; адсутнасць планаў і перспектывы.

Як даводзіць сам аўтар, жыццёвая пазіцыя Васіля, ягоныя стома і расчараванне ўласцівыя многім маладым мужчынам з розных краінаў Усходняй Еўропы. Сам аўтар нарадзіўся ў Вугоршчыне, а ў Беларусі быў двойчы. Напачатку 90-х краіна ўразіла Марціна фон Арндта атмасферай эйфарыі — ён разам са сваім музычным гуртом наведаў Беларусь, якая толькі што атрымала незалежнасць. Другім разам літаратар завітаў да нас у 2008 годзе, і ізноў быў шакаваны — на гэты раз тым, што не пазнаў краіну. Тады Марцін меў стасункі не толькі з беларускімі апазіцыянерамі, але і са спецслужбамі, якія звярнуліся да яго наўпрост на роднай мове, без ціску, паведаміўшы, што ведаюць, хто ён і адкуль.

Штуршком да напісання кнігі стала фраза, пачутая ад беларуса. Малады апазіцыянер, які знаёміў Марціна з Мінскам, прамовіў мімаходзь: «А вось гэта — месца, дзе нас перыядычна збіваюць пасля выбараў». Марцін на ўсё жыццё запомніў словы свайго беларускага сябра і інтанацыю, з якой яны былі прамоўлены.

Нямецкія крытыкі станоўча адгукнуліся на раман «Кастрычніцкая плошча»: яны палічылі ўдалым спалучэнне камічнага і трагічнага, а таксама адзначылі выдатны палітычны складнік і трывалы дэтэктыўны сюжэт кнігі.

Тое, што для замежнікаў ёсць цікавая сучасная літаратура, для беларусаў — штодзённая гаркавая рэчаіснасць…

**paval-abramovi4.livejournal.com**
**паводле Deutsche Welle**

ЗГАДКІ

# «ЖУРАЎЛІ ЖУРЛІВЫЯ МАЕ…»

## ДА 75-ГОДДЗЯ МІКОЛЫ КУПРЭЕВА

Алесь КАСКО

**Дзіўлюся дзядам, якім за восемдзесят, былым партызанам: яны ў сваіх мемуарах нават колькасць трафейных патронаў злічваюць не круглымі лічбамі. А мы з ім (нарадзіўся 25 траўня 1937-га) пры другой сустрэчы, ужо ў дарослым маім жыцці, і году яго прыезду ў нашу Чудзінскую дзесяцігодку ніяк не маглі ўзгадаць…**

Напрыканцы 1970-х, працуючы настаўнікам на Камянеччыне, Мікола (мы ўжо былі на «ты») калінікалі прыязджаў да мяне ў Жабінку. Таго разу амаль заначавалі на беразе Мухаўца каля цяпельца. Нагаманіліся пра ўсё, але час ад часу запыняліся на ягонай аповесці, рукапіс якое ён прывёз і чытаў у мяне дома. Аповесць захапіла, для мяне тады было адкрыццём, што гэтак проста і шчыра можна пісаць пра патаемнае, інтымнае, так паэтычна — пра звычайны сялянскі побыт, што можна і цяпер на Палессі напаткаць… Аляксандра Купрына і нават выпіць з ім. Праўда, не з усім я пагаджаўся: тут занадта сентыментальна, там занадта натуралістычна… Раніцою пасля гарбаты Мікола паехаў аўтобусам, а праз дні тры паведаў, што рукапіс згубіў па дарозе. Памаўчаў у тэлефонную трубку і рагатнуў: «Кепска напісаў, таму і згубіў». Я пачуваўся вінаватым, аднак з цягам часу пераканаўся: чужой «камеры захоўвання» вандроўнік Мікола Купрэеў не давяраўся, хіба што выпадкам; згубу ды іншыя нелады з сабою раствараў у душы, хаваў пад самаіроніяй.

Не любіў між тым «шпілек», што падкідвалі яму. Адказваў на іх дасціпна, адпаведна. Памятаю, у рэдакцыю Міколы Пракаповіча, дзе бавілі час мы з вандроўнікам, адчыніў дзверы галоўны рэдактар аблтэлестудыі, сакратар партарганізацыі, аднакашнік: «Здароў, Купрэеў, як жывеш?» — «Добра, Толя. Жыву, як бачыш». — «Бачу, ажно чырвоны ўвесь!» — «Не з таго расчырванеўся, як ты думаеш. Учора я ў кампартыю ўступіў». Ды часта зброя самааховы хібіла, калі крыўда апякала да самага дна і яе немагчыма было схаваць або парываваць. «Шкада, што дзяржаўную прэмію амаль «выпісалі», ды не далі, я хоць расчоску купіў бы», — з натужнай усмешкай прамовіў і правёў далонню па рэштках валасоў. Перажываў, гэта было відавочна. Не кожны ж, хто ведаў пра казус, здагадваўся, што справа не ў недаацэнцы таленту аўтара «правінцыйных фантазій». Сам ён сфакусіраваў прычыну на радках пра Зіну Зёлкіну, што «паляцела з Лукашэнкам у Маскву» (верш «Сустрэча з К.Крапівой у 1993 годзе»).

Літаратурная прэмія імя А.Куляшова, прысуджаная яму Саюзам беларускіх пісьменнікаў, з'явілася пэўнай маральнай кампенсацыяй, дый факт вылучэння на прэмію дзяржаўную меў станоўчы рэзананс — падштурхнуў улады загадзя памяняць ягоны пакой у двухпавярховай будыніне (з вонкавай стромай лесвіцай для хворага на ногі паэта!) у пушчанскай вёсцы Папялёва на кватэру ў Пружанах (на першым паверсе, між іншым).

Што да згубленых рукапісаў, дык далёка не ўсё паэту і празаіку ўдавалася ўзнавіць. З узноўленага — тая аповесць, што ён зачытваў мне ў Жабінцы. Яе раздзелы лёгка пазнаю ў «Імгненні светлым», творы, напісаным літаральна за месяц у Вярховіцкай, на Камянеччыне, бальніцы для сухотнікаў. Несумненна, сам працэс напісання быў светлым імгненнем для яго: цэлы месяц згадак пра маладосць і каханне, увасклашэння сваёй і купрынскай Алесяў, увасаблення сябе ў любімым пісьменніку і яго ў сабе, балазе прозвішчы сугучныя!.. Дарэчы, вы заўважылі? Усе пяць аповесцей, якія склалі зборнік «Палеская элегія» (2007) М.Купрэеў стварыў на працягу 1994–1999 гадоў у Вярховічах, дзе меў і ўтульнасць, і душэўны спакой, і ўвагу да сябе, а да белых палатаў і халатаў яму было не прывыкаць. Зусім няпраўда, што самотнікам можна жыць пастаянна. Нават воўк з аднайменнага купрэеўскага верша цягнецца да людскога жытла.

Аднак жа я «забег» у пазнейшыя часы. Карціць вярнуцца да вытоку нашага знаёмства, а пасля і сяброўства, у той «недакладны» год, у сонечны школьны верасень 1964-га (дата, зафіксаваная Ганцавіцкім райаддзелам адукацыі). Свята было надзвычайнае: настаўнічаць у Чудзін прыехала шэсцьсем інтэлігентаў і інтэлігентак, маладых, прыгожых, бадзёрых. Крыху старэйшы — завуч Мікалай Сямёнавіч Купрэеў, годны паставаю, позіркам, з бялявымі кудзеркамі на скронях. Рыхтык знакаміты рускі класік. Неўзабаве ў Пушкіна яго і «перахрысцілі», балазе выкладаў ён тады рускую літаратуру. Мусіць, я спрычыніўся да гэтага, трохі з захапленем, трохі з крыўдаю (з «крыўдазахапленнем» напісаў бы ўкраінец Васыль Стус). Пачаўся ўрок з пушкінскага «В Сибирь». Яшчэ не знаёмы для нас тэкст настаўнік даў чытаць аднаму, другому, пасля першай страфы пасадзіў і мяне, забраў з рук хрэстаматыю і прачытаў сам. Гэта было не чытанне, а пражыванне верша, нібы чытальнік ёсць і аўтар яго. З таго ўрока Купрэеў стаў для нас «Пушкіным»…

Пра паэтычнае вучнёўства пытанне далікатнае. У вядомых дыялогах Міколы Купрэева і Леаніда Галубовіча мой школьны настаўнік абмовіўся: Каско і Шушко сталі паэтамі ад зайздрасці да яго. Сказаў, няйнакш, з іроніяй. Пушкін Пушкіным, а што ён паэт насамрэч, я тады толькі здагадваўся.

У студэнцтве сустрэў яго спачатку «завочна». У кабінеце беларускай літаратуры Брэсцкага педінстытута з ініцыятывы У.Калесніка вывесілі стэнд з гонарам за паэтаў-выпускнікоў: «Яны надрукаваліся». Сярод іншых — Мікола Купрэеў. Партрэт задуменнага інтэлігента ў шырокім капелюшы і старонкі з «Маладосці», дзе вершы майго настаўніка. Адклаўся ў памяці, не, у душы, адзін — «Жураўлі не пралятаюць міма». Во калі я светла пазайздросціў і доўга хадзіў акрылены: «О, каб сэрца ў мяне было жураўлінае ці, як у тых жураўлёў, чалавечае сэрца было!». Менавіта — «чалавечае», а не «чалавечнае», як потым было папраўлена (хутчэй за ўсё — выдавецтвам, а не рэдактарам на грамадскіх пачатках А.Вярцінскім) у першым зборніку. Вобраз жураўля — скразны ў М.Купрэева, ён увасабленне ягонай любові, нязменна шчымлівай і балючай, да людзей з іх няведаннем, што часам творыць, да жыцця, якое плыве і плыве жураўліным клінам у небасхіл, да радзімы і вялізнага свету, дзе творца з ранімай душой бывае аднолькава самотным. У аповесці «Палеская элегія» адзінокія ўсе: і непрыкаяны галоўны герой-студэнт, і яго каханая, у каго «апальны» бацька, і грэшны перад аднавяскоўцамі вартаўнік Янко, і журавель, асуджаны памерці...

Як настаўнік даведаўся, што былы ягоны вучань паступіў у педінстытут, застаецца для мяне загадкаю: праз свайго сябра Міхася Рудкоўскага ці з публікацый у абласной «Зари»?.. Ён знайшоў мяне сам, у студэнцкім інтэрнаце. Пачытаў мае вершапрактыкаванні, памяркоўна сказаў: пішы, маўляў, але не старайся быць зарана мудрым. На летніх вакацыях прыехаў у Чудзін, парыбалілі са мною на Лані, падпісаў сваю «Непазбежнасць» з зычэннем, каб кожны мой верш быў не горшы ад таго ладнага шчупачка, якога злавілі на вуду. Мала, дык яшчэ падабраў вершы і супрамавадзіў іх у «Чырвоную змену» Міколу Федзюковічу. Так я ў 1970 годзе дэбютаваў у рэспубліканскім друку, між іншым, з яшчэ адным ягоным вучнем, Анатолем Шушко.

Здаецца, Мікола Купрэеў ніколі не даваў аднназначных ацэнак ні чужым, ні тым болей сваім вершам, прынамсі, не выказваў іх наўпрост, як і стаўлення да крытычных артыкулаў і рэцэнзій. Што пра самога Купрэева пісала крытыка раней, мне не падабалася. Чаго варты загаловак — «Сваё праз чужое»! З кім толькі не параўноўвалі Купрэева. Скажам, з У.Уітменам. Узоры сусветнай лірыкі, у якой заўзяты кніжнік быў добра абазнаны, дапамагалі сцвердзіцца на ўласным адметным шляху. Ён ад самага пачатку імкнуўся да свабоднага — не ў тэрміналагічным значэнні, а ў сэнсе разняволенасці — верша.

1960-я гады наогул характэрныя абнаўленнем нацыянальнай паэзіі. Змагаўся за беларускі верлібр Максім Танк, разбураў аднастайную рытміку і рыфміку Анатоль Вярцінскі, ён жа падтрымаў паэта-наватара Міколу Купрэева, падрыхтаваў да друку яго першую кніжку. Зрэшты, «Непазбежнасць» крытыкавалі не за «вольнасці» ў формабудове верша, не за празмерную элегічнасць ці занадта смелую метафару, але перш за ўсё за «безыдэйнасць» і «абстрактны гуманізм», які знайшлі і ў шэдэўры «Замест лекцыі пра жыццё»:

*Паліла сонца — дажджу*
*хацелася,*
*дажджы навалiліся —*
*сонца хацелася,*
*быў хлапчуком —*
*пасталець хацелася,*
*выйшаў за трыццаць —*
*юнацтва схацелася.*
*Стаў паміраць — жыць*
*захацелася*
*ў сонцы,*
*у ліўнях,*
*у юнацтве,*
*у сталасці*
*і — таму што жыў,*
*жыў на зямлі! —*
*плакаў прад сконам ад гора*
*і радасці.*

Новую кніжку М. Купрэева чытачы, сябры-паэты, а таксама крытыкі, тыя, хто аценіў самабытную яго творчасць, чакалі з нецярплівасцю. Чакаць давялося ажно дваццаць восем гадоў. Выхаду ў 1995-м «Правінцыйных фантазій» ускосна паспрыялі незалежнасць і дэмакратызацыя краіны, аднак рэальна не абышлося без высілкаў захопленага талентам Купрэева не менш адметнага паэта Леаніда Галубовіча. Ён, па сутнасці, на дзясятак апошніх гадоў стаў рэдактарам і апекуном яго, падахвоціў на стварэнне яшчэ і кнігі прозы ды вёў перамовы з выдаўцамі пра яе выпуск (на жаль, кніга пабачыла свет толькі праз тры гады пасля смерці аўтара).

У выдатных паэтаў, асабліва калі яны дэбютуюць у не зусім маладым узросце, як Мікола Купрэеў, розніца ў мастацкіх вартасцях зборнікаў звычайна невялікая. Ды яны і не дапускаюць, каб наступны быў горшы за папярэдні. Лепей зробяць паўзу, доўгі ці кароткі час не станучь друкавацца, а то і пісаць. Гэта таксама адна з прычын вялікай часавай разбежкі паміж «Непазбежнасцю» і «Правінцыйнымі фантазіямі» — поруч з жыццёвай неўладкаванасцю, хранічнай нястачай душэўнай раўнавагі, узаемнай непрывязнасцю ў стасунках з праваднікамі ідэі «светлай будучыні» і «правільнай» маралі. Пастаянны чытач М. Купрэева добра ведае, як ён ставіўся да кожнай сваёй публікацыі ў перыёдыцы: што ні падборка, дык тэма для размовы пра невычэрпныя магчымасці паэтычнага слова. Паэт, хоць і «марудна, з працягламі і прыкрымі перапынкамі», набліжаўся да новай кніжкі, і калі нарэшце яна выйшла, пісьменнікі не раздумвалі доўга, каго на гэты раз вылучыць на самую высокую тады (і збанкручаную цяпер) прэмію. Памяталі пры гэтым і раней напісанае ім.

Яны перада мною на стале, два купрэеўскія зборнікі (першы — у ксеракопіі). З захапленнем і смуткам перачытваю вершы то з аднаго, то з другога. Смутку ў другім пабольшала, у ім няма і намёку на рамантыку, іронія і самаіронія саступілі роспачы і сарказму:

*За гарою пытае крывіцкая Друць:*
*«А хто там ідзе?». Адказаў іудзей:*
*«Беларусы».*

Затое ў ім багата горкай праўды пра жыццё і праўды мастацтва, красы. У такім спалучэнні і самы элегічны, самы трывожны верш пакідае светлы след у душы, як яго пакідаюць увосень «журавы журлівыя», што адлятаюць. Існае мастацтва ачышчае і ўзвышае праз роздум чалавека над сабою, лёсамі блізкіх людзей, радзімы, і, можа, чым больш журбы-горычы ў ягоным роздуме, тым дабрэйшым, лепшым ён робіцца або хоча стаць у гэты момант…

«Правінцыйныя фантазіі» — або «Непазбежнасць»? Сабе такога пытання не задаю. Яны ўзаемапранікальныя, блізкія, многія творы першага зборніка вельмі ўдала дапоўнілі б і ўзмацнілі другі. Нездарма я ўгаворваў Міколу спалучыць два зборнікі ў адной кніжцы, тым болей, што першы зрабіўся надзвычайнай рэдкасцю. Хіба што цяпер, дзякуючы памнажальнай тэхніцы ды рупнасці яе ўладальнікаў, скажам, М.Папекі, ён распаўсюджваецца. А раней выпрошваўся, а то і цішком забіраўся аўтарам з шафаў сяброў (менавіта гэтак я страціў падпісаны мне асобнік). Дарагі ён быў яму як дзяцішча, як памяць пра маладосць. І меў у дадатак не абы-якую побытавую вартасць.

«Непазбежнасць» з фотапартрэтам доўгі час служыла для аўтара адзіным пасведчаннем асобы. Гэтую кніжыцу ён заўсёды насіў з сабою, яна ратавала яго ад міліцыі і выпадковых застольнікаў-задзіраў. Яшчэ насіў у торбе шмат газет, часопісных выразак, нятоўстых кніжак, якія пакаваў разам з хлебам ды салам. Рукапісы, завершаныя або ў накідах, былі тут жа. Губляў, узнаўляў, зноў губляў… Нямала купрэеўскіх неапублікаваных вершаў і экспромтаў у памяці сяброў, у рэдакцыйных архівах, з якіх пакрысе іх дастае Ціхан Чарнякевіч. З верша, прачытанага паэтам у разгар меліярацыі, памятаю ўсяго два радкі ды назву «Маналог чорных буслоў»:

*Не баяліся ваўка мы шэрага –*
*баімся мы Пятра Машэрава…*

Прыплюшчу вочы — і зноў перада мною Чудзін, сонечны верасень, Мікола Купрэеў. І далёкая тады, а цяпер вельмі блізкая і вечная паэзія ягоная з журавамі, няхай сабе журлівымі…

ДЫСКУРС

# ХАЦЕЎ НАМ СКАЗАЦЬ
## (МІКОЛА КУПРЭЕЎ-ШАСЦІДЗЯСЯТНІК)

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

**«Пісьменнік — гэта стыль». Выказванне не старэе. «Стыль» — гучыць шляхетна, санорна. Як «сталь», толькі мякчэй, больш працяжна, з паніжэннем голаса. Іншая рэч: «пісьменнік — гэта тэкст». Брыдка нават слухаць такое. Рэжа вуха. «Не-не, гэта абсалютна розныя рэчы».**



Мікола Купрэеў (у другім радзе трэці справа) з калегамі




Калі паспрабаваць сказаць пра Міколу Купрэева ў двух словах, то ў галаву прыходзіць адно: «дысметрычны верш». Тэрмін даволі пэўны, які крытыкамі часта размазваецца ў дзесяціпятнаццаці метафарах: «перарывістае дыханне», «расцятасць светапогляду», «збой рытму» і г. д. Насамрэч, калі казаць пра паэтыку беларускіх шасцідзясятнікаў, то паняцце дысметрычнага верша трэба згадваць абавязкова, бо менавіта яны зрабілі шмат для таго, каб гэты «памер» у нашым пісьменстве ўсталяваўся. Мікола Купрэеў, нягледзячы на сваю выключную маргінальнасць, быў адным з самых актыўных прапагандыстаў: яго зборнік «Непазбежнасць» (адрэдагаваны яшчэ адным «дысметрычнікам» Анатолем Вярцінскім) можа быць названы ўзорным у гэтым плане.

Пераход да дысметрычнага верша з'яўляўся амаль незаўважным зломам ва ўсёй паэтыцы беларускай лірыкі. Адыход ад «кананічнага гладкапісу», якім быў літаральна завалены ўвесь літаратурны друк 1950-х гадоў, стаў вехай на шляху да якаснага абнаўлення паэзіі наагул. Праўда, справа абнаўлення зазвычай выклікае пярэчанні, і нездарма многія з тых, хто прыйшоў з новым, апынуліся ў хуткім часе маргіналамі сярод дзясяткаў літаратараў афіцыйнага СП. Акрамя Купрэева, тут, бясспрэчна, можна назваць Алеся Наўроцкага. Абодва яны былі выштурхнутыя з тагачаснай пісьменніцкай штодзённасці (прыкладна на такім жа маргінэсе літаратурнага жыцця знаходзіўся і паэт Міхась Рудкоўскі).

Зборнік Алеся Наўроцкага «Неба ўсміхаецца маланкаю» значна больш цэльны, вядома, чым купрэеўская «Непазбежнасць». У Алеся Наўроцкага выверааны вектар — савецкі міжваенны мадэрн. Дысметрычны фразавік Міколы Купрэева хутчэй карэлюе з фальклорам, чым з лірыкай мадэрністаў (савецкіх і не толькі). Але нават і гэтае, спадчынна-фальклорнае, як піша А. Квяткоўскі ў «Паэтычным слоўніку», «паўзнае чляненне фразы паводле прыкметаў інтанацыйнай выразнасці» ўспрымалася крытыкай з насцярогай. Бо так пісаць было «не прынята». Гэта выклікала «пытанні».

Цікавай бачыцца сама літаратурная сітуацыя, калі «новая» форма ўваходзіць у супрацьстаянне з нормай. Дысметрычны «разлом» у лірыцы быў неабходны, бо гэта адкрывала магчымасці для праяўлення эмацыянальнага. Той жа канфлікт быў і ў французскіх імпрэсіяністаў з акадэмічным жывапісам. Абнаўленне мастацкай мовы прыводзіла да індывідуалізацыі. У выпадку з пасляваеннай паэзіяй у ролі «акадэмістаў» выступалі сацрэалісты, якія і ваявалі супраць абнаўлення мовы, бо гэта непазбежна выклікала распад «адзінага непадзельнага» метада. З гэтага пункту погляду, насцярога была цалкам апраўданай.

Бясспрэчна, што час першых пасляваенных дзесяцігоддзяў у нацыянальнай літаратуры з'яўляецца пераходным, але многія змены праводзіліся ў жыццё знарок павольна і неахвотна. Англійскі даследчык Арнольд Макмілін наогул сцвярджае, што «ў краіне, відавочна, амаль зусім не ўзнікалі ідэі рэфармавання. У Беларусі не было «адлігі» як такой, і, вядома, не было такой хуткай рэакцыі на смерць Сталіна, як у Расіі. Не было і значных літаратурных твораў ліберальнага накірунку, якія б сімвалізавалі ці ўвасаблялі новы настрой у краіне». Але больш слушнай падаецца думка Уладзіміра Глыбіннага: «Пасляспалінскі перыяд у беларускай савецкай культуры набывае ўсё больш складаны характар з прычыны змагання ў ёй супярэчлівых тэндэнцыяў. Некаторыя палёгкі ў ідэалагічнай галіне даюць магчымасць ажыўлення тэндэнцыяў да беларускага нацыянальнага зместу. Разам з тым на перашкодзе стаіць ранейшы партыйны канфармізм, які вымагае безумоўнага падпарадкавання ўсёй культуры мэтам партыйнае палітыкі. Прынцып партыйнасці, праўда, пачаў разумецца не гэтак вузка, як гэта было ў часы сталінскага культу асобы». Сапраўды, менавіта «падпарадкаванасць культуры» доўгія гады яшчэ вызначала асноўныя рысы яе твару. Праз гэтую ж падпарадкаванасць тыя творцы, якія дазвалялі сабе не зважаць на норму і правіла, прымушаны былі цярпець папрокі цэнзараў, непрыемнасці ў выдавецтвах альбо мастацкіх саветах. Свабоднае мастацтва пакрысе рабілася непублічным, сыходзіла ва «ўнутраную эміграцыю», што паспрыяла яго дыстыляцыі і падрыхтавала новы разлом другой паловы 1980-х гадоў, калі відавочным стала несупадзенне двух полюсаў.

Першая кніга Міколы Купрэева складалася з трох частак (без загалоўкаў у раздзелах). Умоўна назавем іх «Я» (экзістэнцыйная, скажам так, лірыка — эстэтычная праграма маладога паэта, а таксама вершы-ўспаміны), «Беларусь» (грамадзянская, патрыятычная лірыка), «Яна» (інтымная лірыка). Ва ўмоўны раздзел «Беларусь» уключана адзіная ў зборніку паэма — «Арыніна студня». Сама ідэя кампазіцыйнасці кнігі была сярод шасцідзясятнікаў даволі папулярнай. Відавочна, крыху зніжаная, тут праяўляліся традыцыі сімвалістаў.

Зразумела, што ў «Непазбежнасці» не было такіх словаў, як «савецкі», «Ленін», «камсамолец», «камуніст», «партыя», «дружба народаў» і г.д. Пішу «зразумела», але па тым часе — вялікая дзёрзкасць для маладога паэта. Нават гранды змушаны былі пісаць «паравозы», каб тыя выцягнулі на варштат рукапіс кнігі.

Але каб такі верш з'явіўся, адразу б запахла фальшам.



Апошні зямны прыстанак

Верш «Непазбежнасці» сапраўды па-за тым выверaным, дыялектычна-матэрыялістычным светам. Ён увесь у свеце духоўным (душэўным?). Рэчаіснасць для паэта — загадкавая, таямнічая, яе можна толькі адчуць, але не вызначыць тэрмінам. Вечны «адрыў літаратуры ад жыцця», вечныя пакуты ад несупадзення ўласнага ідэальнага свету са светам рэальным, але, нягледзячы на гэта, празарэнне і ў рэальным свеце водбліскаў нерэальнага.

Ранняя паэзія міколы Купрэева — радасная, узнёслая, рамантычная. Як асаблівы каларыт яго лірыкі таго часу Уладзімір Калеснік вызначыў «спантаннасць выяўлення абвостраных пачуццяў чалавека, які чамусьці перанатужыў сваю эмацыянальнасць, і яна ўжо не вяртаецца да колішніх нармальных дыяпазонаў». Трэба адзначыць, што эстэтыка і паэтыка «Непазбежнасці» пэўным чынам нагадвае эстэтыку і паэтыку «маладнякоўцаў» і «ўзвышэнцаў». Як і ў іх, эмацыянальнасць Міколы Купрэева часцяком засноўваецца на публіцыстычным пафасе.

Заўважаюцца ў зборніку і пэўныя праявы максімалізму, павучальнасці. Галіна Каржанеўская так пісала пра Міколу Купрэева: «Ён цалкам адкрыты для людзей і трошкі мараліст (што не дзіўна для настаўніка па прафесіі). Адсюль і дзеясловы загаднага ладу: «будзьце прамымі», «любіце» і г.д.». Падобная дэкларатыўнасць была выключна характэрная для шасцідзясятнікаў наагул. І не толькі ў творчасці. Апошнюю яшчэ можна абвінаваціць у следаванні за ідэалагічнымі ўстаноўкамі. Аднак «стратэгія паводзін» шасцідзясятніка таксама грунтавалася на дэкларатыўным непрыняцці зла. Вельмі добра гэтая палкая вера ў чалавека паказаная ў ранняй расійскамоўнай аповесці Міколы Купрэева «Бродят на рассвете юные». Скажу пра яе колькі словаў, бо твор гэты не аб'яўляўся ў друку, а сам аўтар у размове з Леанідам Галубовічам нават завяраў, што адзін з прыяцеляў паліў рукапісам аповесці печ.

«Бродят на рассвете юные» — першы буйны празаічны твор Міколы Купрэева. Спачатку ім быў напісаны шэраг апавяданняў (два-тры былі апублікаваны ў альманаху «Советская Отчизна» — папярэдніку часопіса «Нёман»). Аповесць была адрэдагавана Янкам Брылём і адпраўлена аўтару на дапрацоўку. У часе купрэеўскіх вандраванняў яна згубілася. Аднак захаваўся, відаць, першы, няпоўны варыянт яе (у рукапісе не хапае заключэння). Цяпер рукапіс захоўваецца ў Ганцавіцкім краязнаўчым музеі.

Можна назваць гэтую аповесць першай у цыкле аўтабіяграфічных аповесцяў Міколы Купрэева ці нават прапушчаным звяном у гэтым цыкле. Паміж аповесцямі «Дзіцячыя гульні пасля вайны» (дзяцінства) і «Імгненне светлае» (бадзянне пасля выгнання з універсітэта) якраз маецца прагал, які і запаўняе «Бродят на рассвете юные». Гэта твор пра студэнцтва Купрэева (ён, як вядома, штудыяваў філалогію ў Берасцейскім педагагічным інстытуце). Некаторыя з сітуацый аповесці наўпрост адсылаюць да мадэлі паводзін шасцідзясятніка. Скажам, насельнікі інтэрната змаўляюцца не зачыняць дзверы ў свой пакой, бо прыйшоў час, калі ніхто нічога красці не будзе. Пра гэтую змову ведае ледзь не ўвесь універсітэт, і да пары да часу нічога кепскага сапраўды не адбываецца. Па начах вядуцца гарачыя спрэчкі на маральна-філасофскую тэматыку. Аднак «у адзін цудоўны дзень» з пакоя знікае дарагая рэч — фотаапарат. Праз што духоўнае адзінства і сяброўства студэнтаў распадаецца.

Усё гэта нагадвае стужкі Марлена Хуцiева: Мікола Купрэеў апісвае свой час досыць дакладна.

Акрамя заглыбленасці ў этычную праблематыку, тут добра паказаная імпульсіўнасць героя. Гэтак жа, як і персанаж фільма «Застава Ильича» спыняе аўтобус і кідаецца за ўбачанай незнаёмкай праз увесь горад, герой аповесці Міколы Купрэева едзе ў мястэчка, дзе жыве дзяўчына, якая здавала разам з ім уступныя экзамены, але ў студэнты не патрапіла. Лірычны герой праходзіць нямала складаных сітуацый, каб дазнацца адрас незнаёмкі, убачыць яе і… прамаўчаць аб сваіх пачуццях.

Вось гэтая пагоня за незнаёмым яшчэ пачуццём, «за вобразам, які толькі варухнуўся» (Т. Ружэвіч), бадай, вытлумачвае і падыход Міколы Купрэева да літаратуры. Яна для яго, як для прававернага шасцідзясятніка, была толькі спосабам расказаць пра жыццё — таемнае, няўлоўнае, магчымае.

Жыццё як тэкст. Тэкст як жыццё.

ВЕРШЫ

# ПУНКЦІРЫ НЯБЁСНЫХ СЦЯЖЫН

Ірына БАГДАНОВІЧ



Фота Радыё «Свабода»

## Голас

*Пачуць Голас…*
*Голас, які кліча…*
*Кліча цябе і знікае,*
*не ўлоўлены ў сеціва*
*твайго чування…*

*Зноў паўтараецца рэхам,*
*бо кліча цябе ў маўчанні,*
*у сцішанні зорак,*
*ва ўтаймаванасці ветру…*

*Голас, які кліча цябе*
*з далёкіх стагоддзяў*
*і з блізкага сёння…*
*Голас Любові…*
*Пачуць...*

## У суботні дзень

**_Паводле аповеду айца Пятра_**

*Даждж*ы*лася*
*цэлы тыдзень…*
*А ў суботу*
*з-за хмары вынайшлася сонца!*

*Як быццам жвавы*
*жэўжык-анёльчык*
*вырашыў пабавіцца*
*з бліскучаю цацкай*

*і выкаціў сонца*
*проста на нябёснае поле,*
*нібы гарэзлівы мячык…*

*Але мокрыя белыя хмаркі*
*ніяк не хацелі знікаць,*

*і людзі на зямлі казалі:*
*гэта Божая Маці*
*развесіла прасушыць*
*пялюшкі маленькага Езуса…*

## Адказ

*Быць адказам, адказам на Голас,*
*пачуты з глыбіні прасторы і часу…*
*Той, хто кліча, выбраў цябе*
*са свайго анёльскага далявіду.*

*Паклікаў цябе невымоўна,*
*каб ты пачуў і адгукнуўся…*

*Нячуйная бездань між намі.*
*Але нашы маўклівыя галасы:*
*кліканне і адказ —*
*як пункціры нябёсных сцяжын…*

## Чаша

*Я не ёсць цела,*
*а той, хто клапоціцца пра цела,*
*той, хто існуе ў чашы,*
*але не сама чаша,*
*той, каго можна выплеснуць*
*і будзе жыць,*
*але чаша не будзе.*

## Дарунак

*Пярсцёнак з ракаўкай дзівосна*
*пакручастай*
*Уздзела на руку і цешуся з яго:*
*Дарунка нечаканага твайго,*
*Пяшчотаю саграэтага нячастай.*

*У ракавінцы той, загадкава блішчастай,*
*Пясчынак прыбяржных пераліў*
*Памножыўся на хваль марскіх прыліў*
*І стаў тады апраткаю прыўкраснай.*

*Ён кліча да натхнення думкі, сэрца,*
*Зліліся каб з пярлінак таямніцай*
*І здолелі радкамі адрадзіцца*
*Ці гукамі задумлівага скерца.*

*Так пыл штодзённы, мітусня і марнасць,*
*Нібы малюскі, росцяць цудаў дарнасць…*
*Зіхціць на пальчыку самотна і ласкава*
*Дарунак майго пана Станіслава.*

**27. 02.2008**

## Літоўскі парасон

**Праўдзівае здарэнне паводле візіту ў амбасаду**

**_Эгле Норвайшэне_**

*Візіт мой важны*
*і, бясспрэчна, міжнародны,*
*А тут пачаўся дождж,*
*і не лагодны!*
*Ну як жа будзе зараз vip-персона*
*У гэткі дождж ісці без парасона?*
*Народ літоўскі, братні,*
*у асобе Эгле,*
*Не даў прамокнуць*
*нашае нягегле.*
*Знайшоўся парасон у амбасадзе*
*З драўлянай ручкаю*
*і спіцамі ў абкладзе*
*Такіх маленькіх запінак драўляных,*
*А верх — сінюткім дахам раскрыляны.*
*Ну проста неба пад нябёсамі, няйначай!*
*Так вырашыўся візіцёркі лёс бядачы.*
*Іду, а дождж вакол мяне сцякае,*
*Аднак мяне ні кропляй не чапае.*
*На парасоне ж надпіс, як на доме:*
*Letuvos Ambasados!*
*І, пардон, мне*
*Ішлося ўсмак,*
*хоць дождж ліў не на жарты,*
*Пад купалам такой паважнай варты!*

**17.06.2009**

## Касцёл святога Барталамея ў Вільні

**_Славаміру_**

*Восень. Вільня. Кастрычнік. Гарадзь*
*Кармазынам і дрэвы і сцежкі…*
*Развітаюся з ім, як сястра,*
*Выпраўляючы к ф'ёрдам нарвежскім.*
*Спадарожныя хмаркі плывуць,*
*Як вандроўцы з айчыны ў айчыну…*
*Хай анёлы яго сцерагуць,*
*Дзе ні ўзлёту няма, ні спачыну.*
*Золь краіны, дзе думка і верш*
*У абдымках вятроў і марозу…*
*Вершнік вернецца ў Вільню найперш*
*Лабірынтам загадкавым лёсу.*
*Дык згадайма на жорсткай раллі,*
*Кожны крочачы ўласным напрамкам,*
*Залацістую стужку Вяллі*
*І касцёл невялічкі за брамкай.*

**Вільня. 13.10.2008**

## Сармацкі бурштын

*Бурштын пад нагамі, бурштын у нябёсах —*
*Кастрычнік у Вільні бурштынава-ўзнёслы.*
*Ўся вуліца зззяе, мяняе адценні:*
*Зялёны, каньячны, як мёд, летуценны.*
*Бурштын каралеўскі, драбнюткі, вялізны,*
*Як самая сутнасць, як вочы айчызны,*
*Як водар сукцінісу хмельны, ўсясільны,*
*Што сцішана стоены ў келіху Вільні.*
*Я ж, даўніх сарматаў нягеглы патомак,*
*Сабе выбіраю па густу пярсцёнак —*
*Някідкі, мядова настоены, стыльны,*
*Як крышачку восені, крышачку Вільні,*
*Як дар дарагі, што ад мора, ад мары,*
*Ад пырскаў кахання Зыгмунда й Барбары.*

**Вільня. 15.10.2008**

## Васпан

**_(Урок беларускай мовы)_**

*згубілася шляхетнае слова*
*ззімела ў вятрах пралетарскіх*
*на раздарожжах падзей*
*і перайначванняў ладу*
*выкінулі яго*
*як з'едзены моллю кунтуш*
*як іржою пабітую шаблю*
*на сметнік разам з «панамі»*
*ды іх гербамі*
*пераможанае*
*«таварышам»*
*а потым «мужчынам» і «жэншчынай»*
*яно сумуе там*
*дзе годнасць і самавітасць*
*аддзеленыя ад лёсу народа*
*перасохлай пустыняй*
*цяперашняга нямоў'я*
*гукаю ў паветра ВАСПА-А-Н…*
*рэха прыносіць ВАСПА-А-НІ…*

## Спатканне з Максімам

*Максім мяне кліча,*
*ну як я магу не пайсці*
*на тое спатканне,*
*у «хатцы», на вулцы Талстога?!*
*Нязнаную частку сябе*
*там раптоўна знайсці,*
*і чуцца, як дома,*
*і ў небе высокім з парога.*

*Гнятуць абавязкі,*
*дакучна прыземлены быт,*
*палон мітусні*
*і жаданне кудысьці імкнуцца...*
*Мой дзіўны занятак —*
*любіць правякоў каларыт*
*і зрокам, і сэрцам, і словам*
*да іх дакрануцца.*

*Цяперашні час, хоць складаны,*
*ўсё ж моцна спрасціў*
*наш дух і ў душы*
*ідэалаў высокіх апратку…*
*Максім мяне кліча,*
*ну як я магу не пайсці*
*туды, дзе любоў і цяпло, —*
*ў «Беларускую Хатку»?!*

* * *

*Сам ідзеш і сам сыходзіш,*
*Хоць людзей і не бракуе,*
*І сяброў сабе знаходзіш,*
*І каханне зачаруе.*

*Сам сабе здаешся значным,*
*Дасягаеш спраў вяршыняў,*
*Пачастункаў прагнеш смачных,*
*А не хлебных акрашыняў.*

*Але час на гэту марнасць*
*Пакладзе сваю пячатку,*
*Лёс як служба, як ахвярнасць*
*Запануе ў дзён парадку.*

*Крыж цяжкі прыціснe плечы,*
*Але ж ён і твой ратунак:*
*Ён ад велічнасці лечыць,*
*Ад цяжкіх збаўляе думак…*

*Праз пакуты, праз цярпенні*
*Дух мой скруху пераможа.*
*Дай мне быць гарчычным зернем*
*На Тваёй далоні, Божа!*

## Ружанец Магдалены Радзівіл

**_«Яна любіла падарожнічаць і чытаць, але найлепш ёй падабалася вязанне каронак, у чым выказвала нямала мастацкага таленту»._**

**_Г. Піхура_**

*Яснавяльможная Пані,*
*Шчырым паклонам вітаем!*
*Вы адраджэнскія ранні*
*Годна ўзвысілі над Краем.*

*Дыхаў тут сівер сурова,*
*Плакалі ўзвышшы і долы,*
*Вы ж з беларускаю мовай*
*Школы злучалі й касцёлы.*

*Лебедзь быў знакам на кнігах —*
*Вашым для іх блаславеннем,*
*І ў маразах, і ў адлігах*
*Ён для нашчадкаў — натхненнем.*

*Цуд ружанцовых малітваў*
*За Беларусь Вы сплялі,*
*Цішачы горыч па бітвах,*
*Яснавяльможная Пані!...*

## Чужая дудка

*Мы пасланыя ў свет для Красы і Любові*
*Праз цярпенні нядолі й пакут.*
*Нашанівілі Боскую праўду — у Слове,*
*Адзяржавілі родны свой кут.*

*Толькі шлюбам яшчэ не пабраліся з мовай —*
*Ад Скарыны святой і жывой,*
*Не зважаючы ў чыннасці дзён паспяховай,*
*Што ў палоне апраткі чужой.*

*Багушэвіч нас клікаў з нябыту, няслаўя,*
*Каб «ня ўмёрлі», жывымі былі!*
*Дый «дзвюхмоўе», як джала,*
*як сімвал бясслаўя,*
*Зноў пануе на нашай зямлі.*

*Сніў Купала прарока народную долю*
*І ад Слова выводзіў яе —*
*Бо ніколі пад дудку чужую, ніколі*
*Беларус не пазнае сябе!*

▸ ПАМЯЦЬ

# КНІГА — ПОМНІК ПАЭТУ

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

**15 траўня 100 гадоў таму нарадзіўся паэт Анатоль Іверс. Руплівасцю слонімскага краязнаўцы Сяргея Чыгрына напярэдадні гэтай даты былі падрыхтаваны дзве кнігі: «Аўсяныя росы» (вершы, артыкулы) і «Жыццё і творчасць Анатоля Іверса». Рыхтуецца да выдання кніга эпісталярыю. Такім чынам, ствараецца трылогія, у якой яскрава і даволі шырока паўстане постаць паэта-патрыёта.**







Кнігу «Жыццё і творчасць Анатоля Іверса» адкрывае аўтабіяграфія «Мой жыццяпіс», якая захоўвалася ў архіве Сяргея Чыгрына. Паэтавы ўспаміны і сапраўды, як тое адзначыла паэтка Данута Бічэль, — «узор ашчаднасці працы літаратара, каб не забіваць галаву чытача лішнімі словамі, дробнымі неістотнымі фактамі».

У жыццёвым шляху Анатоля Іверса адбіўся лёс многіх айчынных творцаў, шчырых патрыётаў гэтай зямлі, якія за любоў да беларушчыны трывалі ад усіх нялюдскіх рэжымаў, што панавалі ў нашым Краі. У 30-ыя гады — здзекі ў засценках польскай дэфензівы: «У турме сядзець не прыйшлося, хоць паліцыя амаль перад кожным рэвалюцыйным святам арыштоўвала. Катавалі на пастарунку і ў дэфензіве. Нават тройчы судзілі то за «чынны опур владзы», то за «нелегальную дэманстрацыю». Асабліва даймаліператрусы, якія наносілі немалую шкоду зусім не заможнай гаспадарцы бацькоў. Тады яны называліся «рэвізіямі»: «А «рэвізіі» — гэта раскручванне сувояў даматканага палатна, у гумне — скідванне на ток у адну кучу снапоў жыта, аўса, ячменю і г.д.».

Адукацыю атрымаць так і не ўдалося: з трох гімназіяў выключалі за ўдзел у супраціве.

У такім кантэксце ўспрыняцце маладым змагаром падзеяў 1939 года цалкам лагічнае: «Усёй душой верыў у самую найвышэйшую справядлівасць і непаграшымасць Савецкай улады». Але доўга чакаць не давялося, каб зразумець сутнасць «вызваліцеляў»: пачаліся арышты, патрабаванні выкрываць «ворагаў», рабіць ілжывыя даносы. Паказальная згадка пра выклік у НКУС: «Пайшоў я з гэтага будынка як пабіты і апляваны: не ўкладвалася ў галаве, як ён мог патрабаваць фальшывых паказанняў?».

А далей былі «страшныя блытаныя сцяжыны падполля і партызанкі» (Данута Бічэль), балючыя страты: каханай жонкі, бацькі, брата. Толькі шчаслівы выпадак ратаваў яго ад смерці. Але ж то была вайна. З ненавісным ворагам. Крыўднае і горкае напаткала пасля вайны, бо ад быццам бы «сваёй» улады: несправядлівыя абвінавачванні, звальненні з працы, выключэнне з Саюза пісьменнікаў. Паэт зразумеў, што «чалавек з'яўляецца бяспраўным і патрэбным толькі пры вострай неабходнасці для апарата».

Усё гэта не спрыяла паэтычнай творчасці, тым болей выданню кніг. Вельмі доўгім быў шлях ад першага заходнебеларускага зборніка «Песні на загонах» (1939 г.) да наступнага: «З пройдзеных дарог» (1970 г.).

Больш адкрытым, «жывым» Анатоль Іверс паўстае ў гутарцы «І радасць, і боль ад сустрэч» з Уладзімірам Калеснікам, якому быў удзячны за мудрае слова пра сваю паэзію, з якім быў асабліва блізкім: абодва партызаны. І часы ўжо былі не тыя, пачатак 90-ых. Таму і паўстаюць тут вельмі светлыя ўспаміны пра Наталлю Арсенневу, якая ў часе сустрэчы ў Слоніме ў 1943 годзе не пабаялася раскрыць перад ім самае набалелае: «Ненавіджу акупантаў, а прыходзіцца і жыць там, і гаварыць, і сустракацца… І засталася ў памяці шчырая размова. На беларускай мове, так хораша. І мацярынская яе бяда па сыну. І пра Бацькаўшчыну гаварыла, што ўся ў крыві. І што з гэтага будзе — яшчэ невядома, але пакідаць Беларусь не хочацца»…

Большасць матэрыялаў друкуюцца ўпершыню, многія падрыхтаваныя спецыяльна для гэтага выдання. Іншыя ўзяты з кніг, перыёдыкаў. На некаторых, напісаных раней, відавочная пазнака часу. А самыя цікавыя, паэтычныя, успаміны належаць Дануце Бічэль.

**Здзіўляе незвычайна смелы ўчынак Анатоля Іверса: даў маладому пісьменніку, якога сустрэў упершыню, кнігу Наталлі Арсенневай «Пад сінім небам». Ішоў 1973 год...**

Аляксей Пяткевіч у артыкуле «Стойкасць паэтычнай натуры» даследуе, адкуль вытокі чалавечай і мастакоўскай мужнасці гэтага чалавека, дзе ён браў сілы, каб пры кожным антыбеларускім рэжыме заставацца беларусам: «Анатоль Іверс цвёрда стаяў нагамі на сваёй зямлі. Так, напэўна, як і тутэйшы селянін, які араў поле». Літаратуразнаўца падкрэслівае ўдзячнае стаўленне паэта да сваіх рэцэнзентаў, што бывае далёка не заўсёды. Паэт, які столькі гадоў прабыў у немаце, які вярнуўся ў літаратуру, чакаў водгуку на свае кнігі. І цяпер, праз столькі гадоў, хвалюе мяне ягонае прызнанне: «Вашы прыхільныя словы да мяне і пахвальныя да вершаў выклікалі на вачах слёзы. Вядома, гэта слабасць. Аднак у час катавання ў дэфензіве паны не выціснулі і малой слязіны». Але гэта не азначае, што Анатоль Іверс успрымаў як належнае кожную пахвалу, якую лічыў незаслужанай. Калі на ягоным юбілеі Данута Бічэль прачытала прыгожы верш-прысвячэнне, у якім назвала яго класікам: «Песняй усім нам загойвае боль, — // Класік жывы і Паэт Анатоль», то Анатоль Іверс у сваім вершы-адказе міла, з гумарам, але даволі цвёрда запратэставаў:

*Вось залічыла Данута мяне*
*Ў класікі, — гэта залішне.*
*Змусіла ў старасці пачырванець, —*
*Я ж не рабіна, не вішня.*

Урывак з выступлення Аляксея Карпюка на з'ездзе Саюза пісьменнікаў у 1966 годзе — смелае слова. Гэты пісьменнік не баяўся гаварыць праўду ва ўсе часы. Ён быў перакананы, што несправядлівасць мусіць быць пакаранай: «Хоць бы папрасіў у яго хто прабачэння з тых людзей, якія яго тапталі. Дык не, яны робяць выгляд, што нічога не здарылася…». А вось у артыкуле Аляксея Ненадаўца багата «правільных», ідэалагічна-выверaных штампаў-характарыстык падзей нашай гісторыі: «Прыйдзе новае жыццё, якое прынясе вызваленне ад панскага прыгнёту людзям працы», «Прыйшла фашысцкая навала і чорнай пагaнню рассыпалася па мілых абшарах»...

Даследчыкаў заўсёды цікавіла паходжанне псеўданіма паэта. У кнізе — некалькі версій. Звычайна сам Іван Дарафеевіч адказваў стандартна: «Не хацеў прыцягваць такія назвы, як Васілёк, Чабор <…>, якія для паліцыі былі «тутэйшымі», і ёй лягчэй было шукаць аўтараў вершаў»... Самае ж цікавае і дакладнае вытлумачэнне загадкі псеўданіму дае Данута Бічэль. Менавіта ёй паэт раскрыў сваю таямніцу. Псеўданім прыдумала будучая жонка. У эсэ гэта намалявана так: яны позна развіталіся пасля спектаклю суботняй ноччу, а спаткаліся нядзельнай ранічкай на лясной сцяжыне:

— Іверс!

— А як гэта ты абзываешся? — засмяяўся…

— Хіба я абзываюся? Іверс — Іван і Вера…

— А чаму на канцы сыкае?

— А гэта — наш сакрэт… Такі кароткі верш…

— Не сакрэт, — зразумеў Іверс, — гэта сям'я…

Каханне, сям'я пачаліся ў паэта з верша. Таксама з верша, ужо ў іншым часе, як хораша ўявіла тое гарадзенская паэтка, пачнецца новая сям'я Івана Дарафеевіча. Гэта адродзіць яго, адзінокага, пасля такіх трагічных стратаў, да новага жыцця, дапаможа перанесці тыя нягоды, што чакалі наперадзе. Ніна Паўлаўна, верная спадарожніца паэта, была і шчырай прыхільніцай яго таленту. Праз ягоныя вешы ўспрымала свет, прыроду. Выйдзе на вуліцу зімовым вечарам, угледзіцца ў снегавую красу і згадае не Багдановіча, не Купалу, а верш каханага мужа.

Ва ўспамінах бачым, як парознаму ўспрымаліся дэталі асяроддзя. Да прыкладу, у будынку, дзе месцілася рэдакцыя газеты, была лесвіца. Чытаем у Алены Руцкай: «…Адчыніла грунтоўныя, масіўныя дзверы і ступіла на сцёртыя часам і такія ж грунтоўныя драўляныя прыступкі лесвіцы». Уладзімір Ягоўдзік убачыў гэтую лесвіцу іншай: «На другі паверх вяла чыгунная лесвіца, што нібыта стагнала пад нагамі». У аповедзе здзіўляе незвычайна смелы ўчынак Анатоля Іверса: даў маладому пісьменніку, якога сустрэў упершыню, кнігу Наталлі Арсенневай «Пад сінім небам». Ішоў 1973 год... «Вядома, тагачасныя пільныя органы не даравалі б паэту-партызану прапаганду творчасці «заакіянскай нацыяналісткі», але ён чамусьці паверыў цікаўнаму пачаткоўцу», — піша Уладзімір Ягоўдзік. А тады ён, відавочна, і не здагадваўся, якую «крамолу» дазволіў сабе Іван Дарафеевіч. Лісты, што прапанаваў Уладзімір Ягоўдзік, коратка, лаканічна, стрымана апавядаюць пра розныя падзеі. Не любіў скардзіцца, займаць увагу неістотным. Звычайная фраза амаль у кожным лісце: усё добра...

Клопат пра іншых, імкненне хоць неяк дапамагчы, падтрымаць чалавека — гэтыя рысы заўсёды былі характэрныя для Івана Дарафеевіча. Так, ён звяртаецца да Уладзіміра Ягоўдзіка з просьбай напісаць пра былую падпольшчыцу: «Яна страшэнна хворая і не выходзіць з маёй галавы <…>, напішы пра яе ў газету, хай парадуецца, пакуль жывая». З успамінаў Міхася Маліноўскага даведваемся аб просьбе знайсці ў Баранавічах жонку свайго колішняга сябра і перадаць ёй паклон. Бо разумеў, як няпроста жанчыне сталага веку, якая засталася адна. Перададзенае прыязнае слова памяці — гэта прыгожы ўчынак, які здольны падбадзёрыць, унесці светлы матыў у шэрае штодзённае існаванне.

Шмат дадаюць да вобраза паэта змешчаныя ў кнізе фотаздымкі. Прываблівае светлы, далікатны твар, чыстыя састарэлыя вочы зусім яшчэ маладога чалавека. Гэты здымак быў змешчаны яшчэ на вокладцы першай кнігі. З успамінаў даведваемся, што за яго давялося аддаць фатографу цэлы пуд збожжа. Погляд Івана Дарафеевіча звычайна задумлівы, літаратар засяроджаны на нечым сваім. Асабліва кідаецца гэта ў вочы на вельмі настраёвым калектыўным здымку пісьменнікаў Гарадзеншчыны, зробленым у Слоніме ў 1987 годзе. Літаральна ўсе з сонечнымі ўсмешкамі на тварах, а ў яго і тут куточкі вуснаў унізе…

У адным з апошніх лістоў Анатоля Іверса да болю кранулі словы: «Дзякую, што не забываеш. Я таксама цябе помню і не забуду да самай смерці». Тады прагучаў у маёй душы адказ, які жыве і сёння, які, мяркую, можа паўтарыць кожны, хто меў шчасце ведаць гэтага мужнага, прыгожага чалавека, цікавага паэта: «І мы ніколі Вас не забудзем, шаноўны Іван Дарафеевіч».

ВЕРШЫ

# МОВА БЕЛАРУСКАЯ ЗАЎСЁДЫ БУДЗЕ

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК



Фота Джона Кунстадтэра, budzma.org

## Мова Беларуская

*Рыгору Сітніцу*

*Заўсёды будзе белае;*
*Заўсёды будзе чорнае;*
*Багатае і беднае,*
*І хмарнае, і зорнае;*

*Святое і… распуснае,*
*Бо і яно ж нязводнае…*
*А Мова Беларуская*
*Заўсёды будзе роднаю!*

**22 снежня 2011 г.; Менск.**

## Грошай няма, але бульба ёсць

*У беларусаў жыццё такое:*
*Грошай няма, але бульба ёсць,*
*Значыць, жыццё зусім*
*не благое —*
*Хто на парозе, той і госць!*

*У беларусаў дагледжаны грады,*
*Клопат адзін пра дзяцей, каб жылі,*
*А што да гэтай, як кажуць,*
*улады —*
*Небеларускія ёсць каралі!*

**17 верасня 2005 г.**

## Здабылі цару Каўказ

***(Салдацкая песня)***

*Эдуарду Акуліну*

*Два салдаты йшлі з вайны,*
*Хлопцы маладыя,*
*І дамоў няслі яны*
*Раны баявыя.*

*Першы родам з Капыля,*
*А другі з-пад Клецка…*
*Плача родная зямля*
*З іхняга калецтва.*

*Кожны дакульгаў у час*
*Да свайго дамоўя —*
*Здабылі цару Каўказ,*
*Аддалі здароўе…*

*Маці шкадуе сына,*
*Бацька шкадуе дачку,*
*Салдата ніхто не шкадуе —*
*Толькі зямля.*

**23 лістапада 2011 г.; Менск.**

## Мой заклік пачуйце, гарадчукі!

*Гарынскія людзі*
*З Давыд-Гарадка,*
*Гарынь не забудзем,*
*Бо наша рака!*

*Мае дарагія,*
*Ідзіце, сябры,*
*На схілы крутыя*
*Царкоўнай гары.*

*І ў роздуме гожым*
*Успомніце там*
*Пра страчаны Божы —*
*Пра вогненны храм!*

*Хвілінаю горкай*
*Адчуеце вы:*
*Ён — брат Закаморскай,*
*Казанскай царквы!*

*Як хорам палескі*
*У сне-харастве,*
*Той храм Васкрасенскі*
*У сэрцы жыве…*

*Мой заклік пачуйце,*
*Гарадчукі,*
*І храм адбудуйце*
*Ля роднай ракі!*

**12 кастрычніка 2011 г.**

## На Сухой

*Нічога тут не здарыцца такога…*
*Калі не здарыцца —*
*то ўсё яно нічога!*
*А калі здарыцца — пальцаца,*
*нібы з рога,*
*То сэрца зноў жа скажа:*
*«А, нічога…».*

**21 лістапада 2011 г.; Менск.**

## Беларускае шчасце

*Тое раблю, што люблю;*
*Тое люблю, што раблю.*
*І чужынцам кажу з хаты роднае:*
*«Беларускае шчасце кароткае!».*

**19 жніўня 2011 г.; Менск.**

## Ходзячы з Хомкам па вуліцы Леніна

*Сумненні душу аплялі?*
*Каго пахваліць ты не знаеш?!*
*Хто корміць — таго і хвалі,*
*І большую місу прыдбаеш!*

**28 снежня 2011 г.; Менск.**

## Прамінуўшы Раманаўскую Слабаду

*А гамерычны смех заўжды*
*І незаўжды (гады ў рады!) —*
*Найгеніяльнае мастацтва…*

*І самы час ужо прызнацца:*
*Смяяцца трэба і тады,*
*Калі не хочацца смяяцца.*

**29 лютага 2000 г. — 28 лістапада 2011 г.**

## Хохлік

***Хохлік бегаў ля варот…***
***Янка Купала***

*Верш пра Хохліка паэт*
*Склаў — няхай чытае свет!*
*І курганнага паэта*
*Хохлік палюбіў за гэта!*

*І хваліўся як папала:*
*«Пра мяне пісаў Купала!*
*Памятае хай народ:*
*Хохлік бегаў ля варот!*

*Я ж таксама — не сакрэт —*
*У душы крыху паэт.*
*Падабаюся я ўсім*
*Простым вершыкам такім:*

*Будзь начальнікам, тады*
*Грошы будзеш мець заўжды;*
*Кажуць недарма ў народзе —*
*Хто начальнік, той і злодзей!».*

**20 жніўня 2011 г.; Менск.**

## На Ракаўскай

*Трэба, сказаўшы: «Трэба…» —*
*Нешта зрабіць такое,*
*Каб рака абярнулася ў неба,*
*А неба стала ракою.*

**9 лютага 2012 г.; Менск.**

## Прамінуўшы Ратамскую

*Нарэшце навучыўся жыць:*
*Маўчаць, ні з кім не гаварыць…*
*Пачуўшы развітання медзь,*
*Бяседай доўгаю п'янець*
*Хачу з самім сабой адным —*
*Такім разумным і дурным.*

**24 лютага 2012 г.; Менск.**

## Ноч у Мадрыдзе 8 чэрвеня 2000 года

*Каб дыхаць, як дыхаюць зоркі, —*
*Прастору не рві на прасторкі*
*І свет не дзялі на малое…*

*Забудзь пра дурныя разборкі;*
*Ідзі да Купалы, да Лоркі, —*
*Да роднай душы і чужое!*

**27 лютага 2012 г.; Менск.**

## Размова з венгерскім паэтам у Лісабоне

*Вы кажаце:*
*«Памежны з Аўстрыяй*
*Сомбатхей*
*Славуты архітэктурай рымскай*
*даўніны…».*

*А я кажу:*
*«Яшчэ й тым, што ў ім*
*нарадзіўся Рудольф —*
*Бацька Леапольда Блума…».*

*Вы кажаце:*
*«Цэнтр медзье Феер*
*Секешфехервар*
*Знакаміты руінамі раманскай*
*царквы…».*

*А я кажу:*
*«Яшчэ й тым, што ў ім жыў*
*Стэфан —*
*Стрыечны брат Рудольфа…».*

*Вы кажаце:*
*«У Венгрыі надпіс «Віраг» (кветкі)*
*Сустракаецца на шыльдах часцей*
*за іншыя надпісы…».*

*А я нагадваю:*
*«Менавіта Віраг — прозвішча*
*Рудольфа,*
*Бацькі Леапольда Блума…».*

*Уздыхаеце:*
*«Уліс» — мой нелюбімы раман…».*
*Уздыхаю таксама:*
*«І мой…».*

**19 сакавіка 2012 г.; Менск.**

## У 1995 годзе

*Жыццё адно і смерць адна,*
*А вёснаў шмат ужо мінула.*
*Аднак была адна вясна —*
*Пяшчоты поўная прачулай.*

*І я казаў тады, што мне*
*Праз два світанні будзе сорак —*
*Дно крыўды, бо на гэтым дне*
*Я не знайду спрыяльных зорак.*

*А ты павінна іх знайсці,*
*Інакш згубіш век дзіцячы;*
*Ты ўбачыш у маім жыцці*
*Той край, якога мне не ўбачыць…*

*Неверагодная вясна*
*Неверагодней застаецца.*
*Я разумею, што яна*
*Адна прыносіць кроў у сэрца.*

**30 сакавіка 2012 г.; Менск.**

## У кавярні «Вяроза» — 9

*Будзь самотны і галодны,*
*Еш падсушаныя слівы, —*
*Колькі часу ты самотны,*
*Столькі часу ты шчаслівы…*

*Вольга расказала ў горы,*
*Крымскія забыўшы чары,*
*Як Васіль на Чорным моры*
*Тры разы аб смерці марыў…*

**7 сакавіка 2011 г.**

## ЧАТЫРЫ ВЕРШЫ КАНСТАНТЫ ІЛЬДЭФАНС ГАЛЧЫНСКАГА

## Вандроўка ў шчаслівую Аравію

*Пунсовыя стужкі пугі вецер цалуе*
*залётны.*
*Зорак у небе столькі, колькі*
*ў Афрыцы птушак.*
*Цягнуцца ледзьве коні, колы*
*па золку тужаць.*
*Вознік на козлах п'яны і вельмі,*
*вельмі самотны.*

*Як музыка, гэта карэта —*
*вандроўны куфар музычны!*
*Ноч навакол — гэта шчасце, якога*
*набегла задужа!*
*Як толькі ж уздымецца месяц*
*вялікай празрыстай сцюжай,*
*то кожны святляк замілуе*
*мігценнем сваім фасфарычным.*

*Плечы на мяккіх падушках,*
*ладан падушак у горле.*
*Ехаць няблага ж уночы,*
*што застанецца адзінай!*
*Спявае сапфір і дарога,*
*пяе за гадзінай гадзіна...*
*Яны ж анічога не чуюць,*
*не знаюць, таму што памёрлі.*

**1929–1937 гг.**

## Паэзія

*Паэзія мая — начны анёл,*
*спакой маладзіковы,*
*сунічны дол у сэрцы і наўкол,*
*і цені, як замовы.*

*Няма жанчын пры мне,*
*няма дзяўчат,*
*і ўжо заснулі словы,*
*і патанае старасвецкі сад*
*у спеве цвыркуновым.*

*І гэта ў ёй, паэзіі маёй,*
*мой кот стары, ляніві*
*спіць на акне пад фортачкай*
*крывой*
*і сніць, вядома, дзівы.*

**1934–1937 гг.**

## Струны кранаць

*Струны кранаць — маладзік*
*узыходзіць!*
*Чуйная ноч і чароўныя шолахі*
*скрозь...*
*Кветкамі коней аздобіць,*
*мора гайдаць, як жанчыну,*
*ранак вітаць і дзяцей,*
*што ў школу ідуць.*

*Струны кранаць, калі сонца*
*ўзыходзіць,*
*вусны каханкі любіць больш*
*за сонца і месяц,*
*свет, нібы астру, да сэрца*
*прыціснуць, а сэрца*
*зоркай зрабіць і прасіць:*
*«Варажы на спакой!».*

**1935–1937 гг.**

## Караль Шыманоўскі

**(паэтычная версія размовы на Кракаўскім Рынку непадалёк дома «Пад Мурынамі» ўночы з 1 па 2 красавіка 1947 г.)**

***Ганне Івашкевічавай***

*Так. Гэта тут;*
*ля гэтых Мурынаў з Конга;*
*пад зоркай, што смешнай пчалою*
*гудзе.*
*Вецер-заіка не можа спытаццa*
*звонка:*
*«Му-*
*му-*
*му-*
*музыка дзе?..».*
*А ў музыцы флажалеты,*
*нібыта персідскае тканне!*
*Як вам гучанне, пані?*
*Мне з вамі добра тута —*
*толькі б слухаць..*
*(журбою сагрэты),*
*доўга слухаць.. (сагрэты*
*расстаннем)*
*пра тое,*
*што вусны запахнуць*
*райскім грэйпфрутам.*

**1947–1948 гг.**

**АПАВЯДАННІ**

# ПАННА ЦІ ТЫГР?

Фрэнк Рычард СТОКТАН (1834–1902)



У старадаўнія часы жыў-быў адзін кароль-паўварвар, чые ўяўленні, хоць збольшага адшліфаваныя і адточаныя прагрэсіўнымі ідэямі далёкіх лацінскіх суседзяў, яшчэ былі велічнымі, пышнымі і неўтаймоўнымі, як яго варварская палова. Ён меў багатую фантазію і да таго ж уладу, неабмежаваную настолькі, што варта было яму захацець, як разнастайныя прыдумкі пачыналі спраўджвацца. Ён вельмі любіў раіцца сам з сабою, і калі ўжо знаходзіў унутранае паразуменне — справа, лічы, была зробленая. Калі кожны з яго сямейнага ці палітычнага кола роўна рухаўся вызначаным яму курсам, кароль быў ветлівы і добры, але пры найменшым зруху, калі планеты ягонага космасу пачыналі адхіляцца ад сваіх арбітаў, ён рабіўся яшчэ больш ветлівым і добрым, ды толькі нішто не цешыла караля так моцна, як магчымасць выпрастаць крывое ды змяць няроўнае.

Сярод пазычаных ідэяў, дзякуючы якім ён зрабіўся варварам толькі напалову, была пабудова арэны, дзе з праявамі мужнай звярынай адвагі розум яго падначаленых акультурваўся і далікатнеў.

Але нават тут яго багатая варварская фантазія паказала сябе. Каралеўская арэна была збудаваная не для таго, каб людзі пачулі перадсмяротныя рапсоды гладыятараў, не для таго, каб сузіралі немінучае супрацьстаянне рэлігійных поглядаў і галодных зяпаў, а з намерам як мага больш пашырыць і развіць разумовыя здольнасці свайго народа. Велічэзны амфітэатр з галерэямі па перыметры, з таямнічымі склепамі і нябачнымі праходамі быў сродкам, каб чыніць дасканалую справядлівасць, што карала зло і адорвала дабром па законах бесстаронняга і непадкупнага выпадку…

Калі ўсе рассаджваліся па галерэях і кароль у атачэнні світы займаў высокі трон у сваёй частцы арэны, ён падаваў сігнал. Дзверы ўнізе адчыняліся, і абвінавачаны ўваходзіў у амфітэатр. На супрацьлеглай сцяне арэны, замкнутай з усіх бакоў, былі двое дзвярэй, абсалютна аднолькавых. Абавязкам і прывілеем падсуднага было падысці да адных і адчыніць. Ён мог абраць любыя дзверы, якія захоча. Ніхто не падказваў і не ўплываў на яго рашэнне, толькі ўжо згаданы раней бесстаронні і непадкупны выпадак. Калі ён адчыняў адны дзверы, адтуль выскокваў галодны тыгр, самы жорсткі і люты, якога толькі маглі знайсці. Ён накідваўся на чалавека і разрываў на шматкі, караючы за злачынства. Як толькі справа злачынцы вырашалася такім чынам, чуліся жалобныя гукі жалезных званоў, ад краёў арэны падымалася галашэнне нанятых плакальшчыкаў, а шматлікія гледачы з паніклымі галовамі і цяжарам на душы павольна крочылі дахаты, вельмі засмучаныя, што нехта такі малады і прыгожы або такі стары і паважны заслужыў гэты жудасны кон.

Але калі абвінавачаны абіраў іншыя дзверы, адтуль з'яўлялася панна, што як найлепш падыходзіла яму па ўзросце і становішчы, абраная Яго Вялікасцю сярод сваіх верных падданых. З гэтай паннай асуджанага тут жа жанілі, што было дарункам за яго невіннасць. Няважна, была ў яго жонка і сям'я, меў ён прыхільнасць да тае панны ці не, — кароль не даваў такім другасным акалічнасцям парушаць яго вялікі план расплаты і ўзнагароды. Жаніцьба адбывалася тут жа, на арэне, як і ў першым выпадку. Унізе, пад тронам караля, адчыняліся дзверы, адтуль выходзіў святар, аточаны харыстамі і маладымі танцоркамі, што выдзьмувалі ў пазалочаныя горны радасныя мелодыі ды танчылі вясельныя танцы, набліжаўся да маладой пары і вянчаў іх хутка і бадзёра. Потым усчыналіся ўцешныя перазвоны вясёлых медных званочкаў, людзі ўзрушана крычалі «ўра», а невінаваты, чыю дарогу дзеці асыпалі кветкамі, вёў нявесту ў свой дом.

Вось такім напаўварварскім метадам чыніў кароль правасуддзе. Яго надзвычайная справядлівасць — навідавоку. Злачынца не мог ведаць, з якіх дзвярэй з'явіцца панна; ён адчыняў любыя, якія хацеў, нават не здагадваючыся, з'ядуць яго ці ажэняць. Здаралася, тыгр выскокваў з адных дзвярэй, а здаралася — з другіх. Рашэнні гэтага суда былі не толькі справядлівымі — яны былі дакладна акрэсленымі: абвінавачанага тут жа каралі, калі ён прызнаваў сябе вінаватым, а калі быў невінаваты — тут жа атрымліваў сваю ўзнагароду, хацеў ён таго ці не. Пазбегнуць прысудаў каралеўскай арэны было немагчыма.

Такая сістэма была вельмі папулярнай. Калі людзі збіраліся разам у вялікія судныя дні, яны ніколі не ведалі загадзя, стануць яны сведкамі крывавай бойні або шумнага вяселля. Гэтая няпэўнасць дадавала такім падзеям цікаўнасці, якой інакш магло і не быць. Таму масы былі радасныя і задаволеныя, а інтэлігенцыя не магла назваць такі план несправядлівым, бо хіба ж лёс абвінавачанага не быў у яго руках?

У караля-напаўварвара была дачка, што квітнела, як яго самыя пышныя фантазіі, і мела сэрца гэткае ж палкае і ўладнае, як у бацькі. І, як здараецца ў такіх выпадках, была яна зрэнкай яго вока, і кароль любіў яе больш за ўсё чалавецтва. Сярод яго прыдворных быў юнак, чые гарачая кроў і нізкае паходжанне рабілі яго акурат такім героем любоўных раманаў, якія, як правіла, і кахаюць прынцэсаў. Прынцэсу яе каханак цалкам задавальняў, бо быў самым прыгожым і самым смелым ва ўсім каралеўстве, і яна кахала яго з жарсцю, поўнай таго варварства, што рабіла яе пачуцці моцнымі і гарачымі. Іх стасункі шчасліва працягваліся некалькі месяцаў, пакуль аднойчы пра іх не даведаўся кароль. Без сумневаў і ваганняў ён выканаў свой абавязак: юнака кінулі ў вязніцу і прызначылі дзень яго суда на каралеўскай арэне. Натуральна, гэта была надзвычай важная падзея для караля, і Яго Вялікасць разам з усім народам быў моцна зацікаўлены ў падрыхтоўцы і правядзенні рытуалу. Ніколі раней не здаралася нічога падобнага, ніколі раней падданы не наважваўся пакахаць дачку караля. Гэта потым ужо такія выпадкі сустракаліся ледзь не на кожным кроку, але ў той час яны былі з'явай надзвычай новай і ашаламляльнай.

Па ўсім каралеўстве абшукалі тыгравыя клеткі, збіраючы самых дзікіх і лютых звяроў, каб выбраць з іх тыгра для арэны. Па ўсёй краіне дасведчанае журы перагледзела шэрагі маладых і прыгожых дзяўчат, каб юнак займеў вартую яго нявесту, калі лёс не прызначыць яму іншага. Канечне, усе ведалі, што тое, у чым юнака вінавацяць, ён зрабіў. Ён кахаў прынцэсу, і ні ён, ні яна, ні нехта іншы не збіраліся гэты факт аспрэчваць. Але каралю і ў галаву не прыйшло б дазволіць такому выпадку, як гэты, парушыць працу суда, якой ён так цешыўся і насалоджваўся. Няважна, чым скончыцца справа: ад юнака ўсё роўна пазбавяцца, а кароль атрымае эстэтычнае задавальненне, назіраючы за ходам падзеяў, якія і вызначаць, добра ці кепска зрабіў юнак, дазволіўшы сабе пакахаць прынцэсу.

Прызначаны дзень надышоў. Адусюль збіраліся людзі і запаўнялі вялізныя галерэі арэны, а натоўп, няздольны трапіць усярэдзіну, гуртаваўся вакол сценаў. Кароль і світа занялі свае месцы насупраць дзвярэй-блізнюкоў, гэтых лёсавызначальных брамаў, так жудасна падобных.

Усё было гатова. Падалі сігнал. Дзверы пад тронам адчыніліся, і каханак прынцэсы выйшаў на арэну — высокі, прыгожы, ладны. Яго з'яўленне віталі прыглушаным гулам страху і захаплення. Палова прысутных і не здагадвалася, які прыгажун жыў побач з імі. Не дзіва, што прынцэса яго пакахала! Як жахліва, што цяпер ён тут!

Калі юнак прайшоў углыб арэны, ён павярнуўся, як патрабуе таго звычай, і пакланіўся каралю, але ні на секунду не задумаўся ён пра манаршую асобу. Яго вочы неадрыўна глядзелі на прынцэсу, што сядзела па правую руку ад бацькі. Калі б не парасткі варварства ў яе характары, відаць, панны б тут не было, але моцная і палкая душа не дазволіла ёй прапусціць падзею, настолькі ёй цікавую. З часу, як загад пра тое, што яе каханак мусіць сустрэць свой лёс на каралеўскай арэне, уступіў у сілу, удзень і ўначы яна думала толькі пра гэты надзвычайны працэс і ўсё, што з ім было звязана. Надзеленая найвялікшай уладай, уплывам і сілай характару сярод тых, хто калі-небудзь цікавіўся развязкай такіх справаў, яна зрабіла тое, што ніколі нікому не ўдавалася: яна дазналася таямніцу дзвярэй. Яна ведала, у якім з двух пакояў, што хаваліся за дзвярыма-блізнюкамі, стаяла адчыненая клетка з тыграм, а ў якім чакала панна. Праз гэтыя цяжкія дзверы, шчыльна завешаныя скурамі звонку, чалавек, вымушаны падняць засаўку на адных з іх, не мог пачуць ані гуку, ані падказкі. Але золата і сіла жаночай волі здабылі прынцэсе разгадку таямніцы.

Яна не толькі ведала, у якім з пакояў стаяла панна, гатовая з'явіцца, як толькі адчыняцца дзверы, радасная і расчырванелая, але ведала і тое, кім была тая панна — адна з самых прыгожых і мілых дзяўчат пры двары. Яе абралі ўзнагародзіць юнака, калі яго невінаватасць у злачынным імкненні да некага настолькі вышэйшага, чым ён сам, будзе даказаная. Прынцэса яе ненавідзела. Часцяком яна бачыла ці ўяўляла, што бачыць, як гэтая прыўкрасная істота кідае захопленыя позіркі на яе каханага, і часам ёй падавалася, што тыя позіркі прымалі і нават адорвалі ў адказ. Час ад часу прынцэса бачыла, як яны размаўлялі; было тое раз ці два, але так шмат можна сказаць і за імгненне… Магчыма, яны гаварылі пра дробязі, але адкуль ёй ведаць? Дзяўчына была прыгожай, але яна наважылася падняць вочы на каханка прынцэсы, і з усёй сілай дзікай крыві, што перадалася ёй ад доўгіх чародаў варварскіх яе продкаў, прынцэса ненавідзела жанчыну, якая чырванела і трымцела за нямымі дзвярыма.

Калі яе каханак павярнуўся і глянуў на яе, яго вочы сустрэліся з вачыма прынцэсы, што сядзела бялейшая, чым хто-кольвек у гэтым шырачэзным акіяне ўстрывожаных твараў вакол яе, і ён імгненна заўважыў і зразумеў — з дапамогай той сілы, якой надзеленыя каханкі, калі іх душы сплеценыя ў адно, — што яна ведала, за якімі дзвярыма стаіўся тыгр, а за якімі стаяла панна. Ён і чакаў, што яна даведаецца. Ён разумеў яе натуру, у душы быў упэўнены, што яна не супакоіцца, пакуль не вызнае таямніцу, схаваную ад усіх гледачоў, нават ад караля. Адзіная надзея, што абяцала юнаку хоць нейкую пэўнасць, была звязаная з поспехам прынцэсы разгадаць сакрэт дзвярэй. І калі ён глянуў на яе, то пераканаўся: ёй удалося, бо ў душы ён ведаў, што ўдасца.

А пасля хуткім і трывожным паглядам ён запытаўся: «Якія?». Пытанне было для яе такім зразумелым, нібыта ён выгукнуў яго з арэны. Нельга было траціць ні хвіліны. Пытанне прагучала імгненна. І наступнае імгненне вымагала адказу.

Яе правая рука ляжала на мяккім парапеце перад ёю. Яна падняла руку і зрабіла лёгкі і хуткі ўзмах управа. Ніхто, акрамя яе каханка, нічога не заўважыў. Усе пагляды, акрамя ягонага, былі прыкаваныя да чалавека на арэне.

Ён павярнуўся і цвёрдым упэўненым крокам пайшоў праз пустую арэну. Людскія сэрцы спыніліся, дыханне замерла, а пагляды неадрыўна сачылі за юнаком. Ні кроплі не вагаючыся, ён рушыў да правых дзвярэй і адчыніў іх.

Загадка гісторыі ў тым, хто быў за дзвярыма: тыгр ці панна?

Чым больш мы разважаем над гэтым пытаннем, тым цяжэй на яго адказаць. Яно вымагае даследавання чалавечай натуры, што вядзе нас блытанымі лабірынтамі жарсці, з якіх цяжка выбрацца. Падумай пра гэта, дарагі чытач, але не так, як калі б адказ залежаў ад цябе, а з пункту гледжання гэтай напаўварварскай прынцэсы, чыя кроў кіпіць у жылах, а душа распаляецца на вогнішчы з адчаю і рэўнасці. Яна страціла яго, але каму ён дастанецца?

Як часта пры святле дня і ў начных сваіх сненнях яе апаноўвала дзікая вусціш, і, закрыўшы твар рукамі, яна ўяўляла, як каханак адчыняе дзверы, за якімі яго чакаюць лютыя іклы тыгра!

Але ж наколькі часцей яна бачыла яго ля другіх дзвярэй! Як яна скрыгатала зубамі і рвала на галаве валасы ад горкіх сваіх думак, уяўляючы захапленне і экстаз, з якімі адчыніць яе каханак дзверы перад паннай! І калі яна бачыла, што ён ірвецца да сустрэчы з той жанчынай, што яго шчокі гараць і вочы іскрацца трыумфам, што калі ён выводзіць жанчыну на арэну, то ўвесь свеціцца радасцю, адораны наноў жыццём, калі яна чула радасныя крыкі натоўпу і зацятае дзінканне шчаслівых званоў, калі бачыла, як святар і яго ўсцешаныя памагатыя набліжаюцца да маладой пары іператвараюць іх у мужа і жонку проста на яе вачах, калі бачыла, як крочаць яны разам па ўсыпанай кветкамі сцяжыне, гучныя воклічы вясёлага натоўпу нясуцца ім услед, а яе адчайны крык у ім губляецца і тоне, — яе душа палала пакутамі!

Хіба не лепш для яго адразу згінуць і чакаць яе ў благаслаўлёным выраі напаўварварскай будучыні?

Але ж гэты жудасны тыгр, яго рык і пырскі крыві!

Яе рашэнне нарадзілася ўмомант, але яно спела доўгімі днямі і начамі пакутлівых роздумаў. Яна адпачатку ведала, што ў яе папросяць адказу, і, вырашыўшы, якім ён будзе, без кроплі сумневу паказала рукой направа.

Пытанне яе выбару разгадаць няпроста, і я не вазьму на сябе смеласць лічыцца адзіным, хто ведае адказ. Таму я пакідаю яго вам. Дык хто з'явіцца з адчыненых дзвярэй — панна ці тыгр?

Пераклала з англійскай
Юля ЦІМАФЕЕВА




# НА ВАЛАСКУ

**Жан ЖЫРАДУ (1882–1944)**

Пакінуўшы абдымкі місіс Шэрлак Холмс, па дарозе дадому я раптам сутыкнуўся (шанцуе ж мне!) з яе мужам.

— Вось дык сустрэча! — прамовіў знакаміты дэтэктыў. — Павячэраем разам? Я ж вас сто гадоў не бачыў!

Відаць, хваляванне — усё ж мільганула на маім твары, таму што Шэрлак злёгку ўсміхнуўся:

— Бачу я, — сказаў ён, — што містэр ідзе да каханкі.

Скажу «не» — атрымаецца, што нешта хаваю. Скажу «так» — падумае, што пазбягаю яго. Таму я адказаў — мабыць, даволі паспешліва, — што вышэйзгаданая каханка выдатна ўмее чакаць і што я магу завітаць да яе а восьмай, а магу і а дзявятай. Зрэшты, калі ёй гэта не падабаецца, магу і зусім не хадзіць...

Тут Шэрлак абняў мяне за плечы і перабіў:

— Хопіць мармытаць, дружа. Вось вы і трапіліся! Насамрэч вы ідзяце са спаткання!

Дрыжыкі прайшлі па маім целе і дабраліся да валасоў, якія ўсталі дыбарам.

На маё шчасце, ён дадаў:

— Хопіць жартаў, хадзем у рэстаран. На жаль, не магу запрасіць вас да сябе, бо мяне ніхто не чакае: у пакаёўкі выходны.

Здаецца, пранесла. Мой сябра глыбока задумаўся, гледзячы ў сваю талерку, але я вырашыў, што задуменнасць гэтая мае дачыненне да якога кішэннага злодзея альбо сутэнёра... І раптам ён злёгку крануў нагой маю шчыкалатку.

— А вось і доказ, — сказаў ён.

Ягоную задуменнасць як рукой зняло.

— Бясспрэчны і неабвержны доказ таго, — патлумачыў мне Холмс, — што ў вас было спатканне. Вашыя чаравікі зашпіленыя толькі на палову гузікаў, значыць, вас альбо знянацку заспелі на гарачым, што даволі непраўдападобна, бо ваш гальштук няспешна завязаны жаночаю рукой, альбо вы наведвалі дом, дзе не выкарыстоўваюць кручкі для абутку, ангельскі дом, напрыклад[1].

Усмешка ў мяне атрымалася даволі крывая.

— У кожнай жанчыны, — выціснуў я, — ёсць шпількі на валасы, якія выдатна замяняюць кручкі.

— А ў вашае каханкі іх няма, — адмахнуўся Холмс. — Магчыма, вам невядома, што англічанкі даўно заснавалі лігу змагання супраць шпілек. Зрэшты, каб не хадзіць далёка, скажу, што жанчыны, якія носяць парык, шпількамі ўвогуле не карыстаюцца. Каму, як не мне, пра гэта ведаць: мая жонка да іх належыць.

— Хм-м... — мармытнуў я.

Ён відавочна забаўляўся, катуючы мяне. Да таго ж гэты ёлупень пасадзіў мяне спінай да акна, так што скразняк працінаў да касцей. Я чхнуў. Дастаючы насоўку, я выпадкова выпусціў з рук іншую — упрыгожаную карункамі, крышку большую за ліст, крышку меншую за маю далонь. Шэрлак паклаў яе на стол і зноў занурыўся ў сузіранне.

— Гэта жаночая насоўка, — урэшце прамовіў ён.

І ўхмыльнуўся.

— Якое дзяцінства! — сказаў Холмс. — Вы выкрылі сябе насоўкай! З часоў Яга і Атэла насоўкамі не грэбуюць хіба што аперэты. Але не хочацца быць бестактоўным… Можна мне яе агледзець?

— Ды калі ласка, — як дурань, прамармытаў я. — Яна чыстая.

І, каб не страціць твару, пачаў насвістваць нешта ідыёцкае. Праўда, потым, зразумеўшы, што страта аднаўленню не падлягае, змоўк. Зрабілася так ціха, што можна было б пачуць, як пралятае муха. Але гэтая гнюсь, як на злосць, недзе схавалася. Маё сэрца, скачучы на чацвертай хуткасці, гуло ў поўнай цішыні, нібы рухавік. Шэрлак адпіў з бакала бардо на палец, потым яшчэ на палец, а сваім уласным (указальным) тыцнуў у насоўку:

— Магу сказаць, што гэта жонка чалавека падазронага і далёка не дурнога — заявіў ён. — Ініцыялаў няма.

Я з палёгкай кульнуў дзве вялізныя шклянкі вады. Шэрлак панюхаў насоўку, потым падсунуў яе мне пад нос.

— Чым пахне? — спытаў ён.

У нос біла парфумай «Конга», ды так, што бакаса двухтыднёвай вытрымкі, якім нас частавалі, цалкам можна было прыняць за голуба. Дый сезон палявання ў той дзень толькі адкрываўся.

— Ну і чым пахне? — прамямліў я.

На шчасце, Холмс ніколі не слухаў сваіх суразмоўцаў. Ён сам задаваў пытанне і сам на яго адказваў.

— Мне, — паведаміў ён, — нічым не пахне. Значыць, да гэтай парфумы я прывык. Напрыклад, «Конга»: ёй карыстаецца мая жонка.

Той, хто ніколі не апынаўся ўнутры малатарні альбо пад катком, наўрад ці здолее зразумець, у якіх абцугах сціскалася маё сэрца. Я нахіліўся над талеркай, спрабуючы раздражніць апетыт, і адчуў, як у гэтым маўчанні паветраны слуп, што ціснуў на плечы, зрабіўся ўдвая цяжэйшым. А Шэрлак усё працягваў мяне разглядаць.

— Волас, — сказаў ён.

Я паглядзеў у ягоную талерку.

— Гэта не волас, — сказаў я, — гэта, без сумневу, парэй.

Не адказваючы, ён падняўся і двума пальцамі зняў з майго пляча светлую шаўкавістую нітачку, мяккую і кароткую — карацей, волас, з тых, што так добра выглядаюць на плячы мужчыны, калі на яго кладзецца галава каханай.

— Ну, і што гэта? — пацікавіўся Холмс.

— Гэта, — зацягнуў я голасам, які мне б вельмі хацелася палічыць раўнадушным, але які насуперак маёй волі па-здрадніцку задрыжаў, — гэта, як вы самі заўважылі, волас.

Холмс паклаў волас на белы абрус. Я паспрабаваў скарыстаць магчымасць, дадзеную мне парывам ветру і задуменнасцю майго ка́та, і чхнуў у кірунку воласа, які прыпадняўся, калыхнуўся, быццам змяя на хвасце, і тым не менш, гадзюка, са стала не зляцеў.

— Чхніце яшчэ раз, — скамандаваў Шэрлак Холмс, які, несумненна, заўважыў мае выкрунтасы.

Жарт мне ўдалым не падаўся.

— Чхайце самі, — раззлаваўся я, — калі так хочаце.

Ён чхнуў. Волас прыпадняўся, калыхнуўся (і глядзі вышэй).

— Гэта, без сумневу, волас ад парыка, — зрабіў ён выснову. — Аснова клейкая!

Волас зноў апусціўся і застыў паміж намі, нерухомы, як мумія. Мёртвы волас падаўся мне нашмат даўжэйшым, чым жывы.

Шэрлак асушыў свой бакал і паглядзеў скрозь яго, як праз лупу, спыняючы мае спробы падліць яму шаблі — зрэшты, немагчыма агіднага.

— Гэта волас маёй жонкі, — прамовіў ён.

Я паспрабаваў схаваць свой жах за лёгкай гуллівасцю.

— Што вы, што вы, мой дарагі! — заліваўся я салаўём. — Місіс Холмс такая прыгожая, ну куды мне, што вы!..

Ён глядзеў на мяне амаль з жалем.

— Мой бедны сябра, — уздыхнуў ён, — ужо хто-хто, але гэтая ірландка не першай свежасці...

Смерць усё ж лепшая за няпэўнасць. Цярпець не магу, калі мяне падсмажваюць на павольным агні. Тым больш калі вас слухае няздара-афіцыянт, які падае на стол, — яго я адаслаў прэч.

— Ну а цяпер, — пагрозліва сказаў я, падымаючыся і працінаючы Шэрлака позіркам, — давайце, тлумачце!

Я, як кажуць, браў быка за рогі, а можа, і яшчэ горш.

Мой супернік, аднак, не страціў ні кроплі спагадлівай іроніі.

— Калі ў двух словах, — сказаў ён, — то справа такая: вы ідзяце са спаткання і відавочна хвалюецеся, сустрэўшы мяне, — значыць, вы зацікаўлены ў тым, каб я не даведаўся, хто дорыць вам сваю прыхільнасць. Вашыя чаравікі не зашпіленыя, значыць... у вас не было магчымасці гэта зрабіць. Сёння ў маёй пакаёўкі выходны, і мая жонка дома адна. У вас насоўка, якая належыць маёй жонцы. Я знаходжу на вашым плячы волас з яе найлепшага парыка. Значыць...

Мае вочы ўтаропіліся ў адну кропку. Час цягнуўся тым павольней, чым хутчэй білася маё сэрца.

— Значыць, — сказаў Шэрлак, які ўвесь гэты час працінаў мяне позіркам удава, што сабраўся праглынуць трусіка, — значыць... Самі рабіце выснову.

Выснову я зрабіў, таму сядзеў, адкінуўшыся на крэсле і ліхаманкава сціскаючы свой рэвальвер — выдатны дванаццацізарадны браўнінг. Якая дурасць — увесь час цягаць яго незараджаным!

— Значыць, — спакойна вымавіў нарэшце Шэрлак, — і заўважце, сябра, я на вас не злуюся... вы — каханак маёй пакаёўкі!

— Афіцыянт! — загарлаў я. — Дзе вас чэрці носяць? Мне да ночы чакаць?! Цягніце шампанскае!

[1] Ангельцы і англічанкі, як вядома, аддаюць перавагу чаравікам на шнурках, што носяць назву «рышэльё» (заўвага аўтара).

**1908**

**Пераклала з французскай Кацярына МАЦІЕЎСКАЯ**



ВЕРШЫ

# НЯВЫПЛАЎЛЕНЫ ДЗЕНЬ

Віктар СЛІНКА



* * *

*сталёвы трос — па ліку не адзін*
*іх восем альбо дзевяць — утрымаюць*
*сабою берагі; а кожны трос*
*аплецены трывалым тонкім дротам*
*у столак некалькі; там унутры кілім*
*сатканы бражэцца й адыходзяць*
*да берагоў абодвух ніткі; імі*
*напятая аплецена струна —*
*па ліку не адна — між берагамі*
*бо ў нетрывалым сэнс трываласці заўжды*
*калі ж метал прыбраць (засцеражэнне)*
*пакінуўшы слабое за апору*
*даволі будзе подыху вятрыскі*
*адной-адзінай хвалі — берагі*
*разыдуцца; жывое — жыватворыць*
*і мёртвае не пазбягае зла*

*дык значыць — так; вось так — і не інакш;*

*так гаварыў хто кінуў на кавадла*
*чырвонае жалеза для кляйма*

**30.06.2011**

* * *

*Трымаючы ў руцэ кап'ё, патраплю*
*Маланкава кароткім рухам*
*Я мідыі між створак пад вадой.*
*Яна сашчэпіць іх, ды — позна. Падыму,*
*Аддам табе сваю чарговую здабычу.*
*У бела-шэрай місе з парцаляны*
*Пяць прыгаршчаў сухіх пялёсткаў — ты*
*Іх перапрэш павольна між далоняў.*
*У гладышы, надтрэснутым крыху,*
*Мука — і яйкі ў сплеценым з лазы*
*Маленькім зграбным кошыку — яго*
*Расфарбавала ў колер велікодны*
*Таксама ты. А сёння — не Вялікдзень.*
*Агонь гарыць. На дошцы — плітка масла*
*Ў вільготных дробных кропельках расы.*
*У цёмнай бутлі, вузкай і высокай,*
*Чаруе самаробнае віно —*
*Там смакавы букет, не алкаголь.*
*Нібы твае расплеценыя косы, глядзі — снапы:*
*Ад перавясла вольны*
*З іх кожны, так. Яны — ля малатарні.*
*Ды гэта ўсё — на заўтра. Сёння нам*
*Нясцерпна смачна кожны пахне венік.*
*Чакае нас палок, пасля — пасцель.*
*Нам не забыцца смаку дзікай качкі,*
*Няспешна згатаванай на вячэру.*
*Чакае ноч! Шпурляў я гэтак камень*
*Перад люстэркам цемені азёрнай.*
*Чакае ноч, чакаюць нашы дзеці.*
*Не пазычаем — аддаем жыццё.*

**Бароўка, 19.07.2011**

## Дзень, калі ты страціла карону

*Дзень, калі ты страціла карону ў яго вачах, быў амаль неадрозны ад іншых, але нейчым і асаблівы.*

*Гэтаксама віравала ў дварах звонкагалосая малеча, і чародкі мыльных пухіроў весела раставалі ў паветры. Паспела ўсё стаць ясным і зразумелым: малюнкі, якія ўнутры кранаглі невідавочныя пэндзлі, расціраючы фарбы ўсмешак тут, дзе ахрыстае навакольле, перасяліліся з уяўлення на чарцяжы: сцены будынкаў незбудаваных, паверхі ўвасобіцца ў цэглу і камень, — зроблена апалубка, бетонамяшалка працуе, прымаюць раствор, кладуць для ўмацавання падмурку ўскрай траншэі падручнікі, па якіх будуць вучыцца дзеці ў снах, для паўтарэння матэрыялу кожны вечар і кожную ноч прастукванне сцен і даху: дзе мусіць быць выйсце; і ўжо на кожнай шыі муляе яшчэ не адзеты хамут — да пісягоў крывавых, і пратачваецца ў спеў нота: «Еш чарніцы як мага болей — імі сілкуецца зрок».*

*Вакацыі, вы — мара, мара дзяцей, і яшчэ — план уцёкаў у патайнай кішэні, на гузік зашпіленай.*

*І немаўля сказала, не маючы слова: агаінавея, а, што значыла, мабыць: «Дзень, калі ты страціла карону, амаль неадрозны ад іншых, толькі гэта быў дзень, калі ты згубіла карону — у яго вачах, — і ён не дапамог знайсці».*

**2 жніўня 2011**

* * *

*На дрэве мандарынавым галінка грушы*
*Прышчэплена. Хто пад аховай часу —*
*У таго*
*І шчасце лічбамі гадзінніка ачэплена.*
*На кроў — накруткі. Вольны вусень — я*
*Той мурашынаю пакінутаю сцежкай*
*Кіруюся да дрэва, можна скуль*
*Прастору азіраць — на кроў — накруткі —*
*Што матыля я змераю крылом.*
*Навошта ў праўды гланды выразаць,*
*Калі яна не мае што сказаць?*
*Мой донар — дом; нядоены абшар*
*Мычыць і ў загарадку б'е, ледзь не ламае*
*Яе і за каго нас хоча мець — таго не знае.*
*То з рыфмай, то без рыфмы гавару,*
*Да Мухамеда мезенцам падпіхваю гару.*
*Арык, вада! З вярблюдзіцаю шчасце.*
*Я прадзед мой, а мой наступны ўнук*
*Клапоціцца, каб не запэцкаць рук.*

*Мы ўсе — парода для прылад незразумелых,*
*Яшчэ — руда, парода, але ж ніколі — рунь,*
*Нявыплаўлены дзень яшчэ пакуль.*

**17 жніўня 2011**

* * *

*Бачыш, скача ён прама сюды —*
*Селядзец на кульгавым кані.*
*Вочка морквіны ў зяпе адкрытай,*
*Загінаецца хвост дугой*
*І паказвае нам напрамак.*
*Задзіночанне сонца і хмары*
*Наш падпальвае дэльтаплан.*
*Час, патрачаны на жніво,*
*Закладаецца ў караваі*
*Толькі на пяцьдзясят адсоткаў.*
*Дровы, што перад гэтым у прыску*
*Бульбінам грэлі бакі,*
*Тэрмінова адкліканы ў попел.*
*Бачыш, скача ён прама сюды —*
*Гаспадар бесканвойных сэрцаў*
*З кветкай, выразанай з тканіны,*
*Наколатай на плаўніку.*
*Над трупярняю часу — кнот,*
*Разам — воск нерасталай свечкі.*
*Хто*
*ля пуні*
*схаваў гарпун, —*
*Селядцу на кані кульгавым?*
*За мяжою Звонку-Ўнутры —*
*Грушка-дзічка, крамяны нерат.*
*Хто схаваў? Кожны — думае, марыць,*
*Паказалі каб на яго.*

**20 жніўня 2011**

## Для аднавокага кацяняці

*Для аднавокага кацяняці, якое грэю за пазухай, для небяспечнай брытвы ў вузкім футарале ва ўнутранай кішэні скуранкі, для спелага яблыка, які ўмею лавіць на бягу, высока падкідваючы, скачучы цераз прыступкі, — ці ёсць для іх што-небудзь абразлівае ў ніжэйсказаным: «Жанчыны нечым нагадваюць афраамерыканцаў, але афраамерыканцы зусім не нагадваюць жанчын».*

*Ручаінка любові й прыгажосці, нібы загнаная ў бетонную трубу рэчка Няміга; ды гэтыя — найдаражэй: кацяня, брытва, яблык. Бо некаторыя з нас — так, ідуць насустрач, некаторыя — хаваюцца і ўцякаюць, але не ад любові і прыгажосці, — ад таго, што будзе пасля.*

*На велізарных цэпелінах човен*
*Падводны апускаецца з нябёс*
*Да глыбіні марское. Спражкай поўні*
*Мацуецца абсяг. Я знаю лёс*

*І прадказанне ластаўкі, што з сіні*
*Зноў падае ў квадрат свайго двара, —*
*Шчаслівая, бо мае дом. Пустыня!*

*Недавыказаныя, непрамоўленыя радкі; ненаўмысна абарваны верш. І тут з'яўляемся мы: пясок, насыпаны ў топку паравоза сэнсу, бурка і папаха — падарунак манекену.*

*Таму — не спі, жаночая жандармерыя. Дзе ж твае гумовыя дручкі? — паказытай нас, — мы яшчэ здольныя ўвасобіцца ў неабрыганы шыпшынавы куст.*

*Бо кожны з нас — мажная, ледзь не квадратная афраамерыканка, што спявае спірычуэлз.*

**7–8 верасня 2011**

## Элегія

*Навошта днём запальваць ліхтары?*
*Яны ж гараць: па два, па тры,*
*Гуртамі, групкамі ля вузкіх пераходаў*
*Алей у верасні. Мы выйшлі на свабоду.*
*Я палюбіў лістоту мокрую —*
*і змятую траву,*
*І ліхтары, — і раўнадушным іх святло*
*не назаву.*

*Мне соладка з табой, — бо знаю,*
*знаю горыч.*
*І ў прадказаннях тое,*
*Што ты мне падорыш,*
*Хавае дождж — і паварот у двор.*
*Я не прасіў, таму й валодаю! Сабор —*
*Насупраць ён, — які нас пазнаёміў,*
*Мой знае дар жыццём натольваць словы;*
*З малітвай і нажом стаіць дзень новы,*
*мовіць*
*У цэню ад яго калон.*

**2011**

* * *

*Арахна-дзяўчына*
*дастань свой шыдэлак*
*звяжы-спляці*
*ложак*
*логвішча*
*пастку*
*бачыш — ляціць*
*паўзе*
*набліжаецца*
*жужаль*
*майго сэрца.*

*Для чаго мы прыйшлі ў гэты свет*
*дзе паміж тваіх ног — чароўны прасвет*
*усё гэта — наўзбоч ад астатняга*
*ці астатняе — наўзбоч ад гэтага?*
*Шпарка падбягаеш на сваіх васьмі*
*шаўкавістых лапах*
*не — сямі*
*ў восьмай філіжанка гарачай кавы*
*на арабскім падносе*
*шэрбет і халва два*
*тонкія келіхі з амбразіяй.*

*Ловіцца думка*
*сілом тваім:*
*можна глядзець на свет*
*і не страчваць позірк*
*і перастаць быць рэччу*
*не перастаўшы*
*быць*
*але для гэтага трэба*

**9 верасня 2011**

* * *

*Абрынь дары свае — метэарыты*
*На тыя скарбы, што людзьмі здабыты.*

*На жоўты альт — і поўнае карыта.*
*Фанерны планер выкрэсліў арбіту*

*Зямную — з паралельнага жыцця*
*Пілота-хлопчыка. Знайдзі сябе наўсцяж*

*У тым радку, які паверне слова*
*Лязом уверх. Звіняць, пяюць аковы.*

**19 кастрычніка 2011**

* * *

***Сільвіі Плат***

*Для слова непрамоўленай падставай*
*Ёсць вобраз ідэальны, што вышэй за сэнс*
*У бессэнсоўнасці сваёй, бо гэты змест*
*Нам на маўчанне падарue права,*
*Якое ў першы пакладзем замес.*

*Вось так — матыль, аддзелены цэзурай*
*Ад іншых матылёў — і ад травы,*
*Над ланцугом прыладаў, колб, мензурак*
*Мы — Вынік Доследу і Спроба Перабыць.*

**17-18 кастрычніка 2011**

* * *

*Гэта вечная, бачыш, гісторыя:*
*За пачаткам будзе працяг,*
*Ну а потым, пасля — канец.*
*Не пакінуты для мемарыяў*
*Ангеліны, Гражыны, Глорыі, —*
*Дрэва ўспомніць аб каранях.*
*А драўніна?.. Пілуюць яе.*

*Гэта ціхая, чуеш, мелодыя,*
*Больш патрэбная, чым сабе,*
*Новым парасткам, што шыпы*
*Будуць мець, каб сустрэць імі боты.*
*Смерць і Радасць аддзелены плотам*
*Ад адное адна; у дзяльбе*
*Нашых жыццяў яны рабы*

*Мухі кручаная, — тая лётам*
*Крэсліць межы між тут і потым.*

**5 студзеня 2012**

## Анатоль Сыс

*Душа старэе ў слоўнае апратцы*
*І новы верш ужо як рызманы.*
*Як хутка ўсё! Ці трэба пастарацца*
*Мне быць бліжэй да шчаснае маны?*
*Дай веры мне, і я цябе сустрэну, —*
*Сякера размаўляла так з паленам.*
*І спіна гнулася, і клаўся крыж, —*
*Не знаю толькі, звыш альбо паміж.*

*Нічога больш нікому не парадзіць,*
*Ні галізной, ні брудам не здзівіць.*
*Нашто здзіўляць? Адно патрэбна — жыць*
*І кожны струп салёным вадаспадам,*
*Уласным словам, споведдзю абмыць.*
*На кожны струп — і соль?*
*Каб новым болем*
*Уласны крок да цемры запаволіць?*
*Хто адвярнуўся, дык Таго не прагнявіць.*
*А мо не так? Мо на сваіх іконах,*
*Як мы ў жыцці, Ён тамака палонны, —*
*Ні слова мовіць, ні слязы праліць.*
*А што на цёмных дошках выступае, —*
*Няхай манах, святар, любы збірае.*
*Не падмануцца і нічым не прымірыць*
*Мне праўду — і мой грэх, што ў ёй згарыць.*

**10 студзеня 2012**

АПОВЕД

# ПЕЦЬКА

Мікола ДУБОЎСКІ



Лета сорак другога было спякотнае. Гарачыня даймала не толькі на вясковых дарогах, дзе чорны чарназёмны пыл, нагрэты да прысаку, уздымаўся ад босых ног хутаранцаў, — прахалоды не адчувалася і на лузе, дзе жвава тачыўся крынічны ручэй з ледзяною вадою.

Гай — сонечныя паляны разнатраўя, старыя вольхі, ясені, дубы і грабы. Усё гэта — усечаны парк тамтэйшага былога пана. Яго даўно няма, недзе ягоныя парасткі ў Англіі — і не паказваліся ў сваё памесце нават пры Польшчы. Саветы панскую зямлю не паспелі нацыяналізаваць, а пры немцах аб'явіліся гаспадары: спачатку, назваўшыся сястрой панавага эканома, якога Саветы ў трыццаць дзявятым вывезлі ў Сібір, сляпая на адно вока старая дзеўка Ганька і сужыцель яе Капка, нізкарослы, з жывоцікам былы старшына-адступленец, які адразу запісаўся ў створаную немцамі паліцыю.

За два гады Лявон Сымонавіч Капка ў бліжэйшых вёсках — наваколля хутара бацькоў чатырохгадовага Пецькі Алеся і Надзеі Сімоўскіх — стаў паўсядзённым страхам, бядой. Немцаў не так баяліся, як паліцая Капку. Ён не ішоў, а падкрадваўся непрыкметна. Малы, круглы, як мячык, каціўся, заўсёды тулячыся да дарожных прысадаў, да жытаў улетку, узімку ў сваім белым кажушку зліваўся з беллю снежнага покрыва. Капка высочваў, хто з вяскоўцаў пускаў у хату партызан, падслухоўваў, аб чым гаварылі мужыкі на сенажаці, затрымліваў незнаёмых яму, аб'яўляючы сувязнымі партызан — і гнаў у пастарунак на допыт.

Паліцая Капку паважалі акупанты — яго хвалілі, узнагароджвалі. Партызаны палявалі на яго, але ён быў няўлоўным. Сам жа Лявон Сымонавіч пазбягаў нечаканых стрэч з гестапаўцамі, жандарамі — ведаў іх пранізлівую, дапытлівую ўзважанасць.

На хутар, да Сімоўскіх, ён таксама прыходзіў. На двары заглядваў у пуню, хлеў, слухаў, нюхаў, ці не пахне дымам выкуранай цыгаркі. У хаце паліцай распытваў у Пецькавых братоў, хто прыходзіць да іх, пра што гавораць госці. Пасля роспытаў Лявон Сямёнавіч, седзячы на табурэтцы, паварочваўся да Пецькавай маці і загадваў:

— Сабяры гасцінец для вызваліцеляў ад камуніі: яйкі, сала і таго пеўня як бусла, што на мяне кідаўся мінулы раз.

— На, — злосна ставіла кошык з салам і яйкамі Надзя, маці Пецькі, перад Капкам, — а пеўня лаві сам, толькі не страляй — хопіць дзяцей лякаць!

— Злякаеш! Калі з-пад ілба глядзяць на мяне, як ворагі Вялікай Германіі.

— Якія ворагі? Ты ворагаў ужо ўсіх пад кляштар...

Кляштар — старая крэпасць, пад сценамі якой расстрэльвалі немцы ўсіх, каго арыштоўвалі. Паліцай моўчкі з хабарам выпаўзаў з хаты.

Пецька паліцая не баяўся, але стараўся не сустракацца, калі ішоў у гай, між жытаў ці ўздоўж ручая да самай ракі паназіраць, як пакалыхваюцца ў яе прыбярэжжы лісці вадзяных лілеяў і стаўбункоў, і бачна між імі плынь — ціхую, ласкавую.

Пецька заўсёды першым заўважаў Капку. Выдавала яго чорная руля з мушкай вінтоўкі. Яна высілася над яго галавою і нагадвала змяіную галаву, што рухаецца па траве-разаку.

У тую сонечную раніцу сонца паспела нагрэць нават цянькі пад густымі кронамі дрэў, высушыла расу. Наўкола ў гаі пахла фіялкамі, якія пан калісьці прывёз з Францыі — і яны прыжыліся ў ягоным лесе-парку.

Пецька адразу ўбачыў Капку. Паліцай каціўся зігзагам між кустоў, як хаваўся ад каго.

Учора надвячоркам у гай зброшла нямецкая вайсковая часць з гарматамі, укрытымі чахламі з брызенту. Гэта былі франтавікі. Да іх малы і кіраваўся, знікнуўшы непрыкметна з хаты.

Да месца, дзе пад кронамі сталі аўтамабілі, гарматы, палаткі розных памераў, дымілі кухні, Пецька ішоў сваімі сцежкамі, што вілялі па высокай крапіве дзе-нідзе вышэй хлопцавай галавы. Варта яго не бачыла. Хутка дабегчы да палатак яму перашкаджаў толькі мамін няспынны крык: «Пецька-а-а-а!». Ён чуў яго з двара хутара і злаваў на маці:

— Ну чаго ты галёкаеш?

Звычайна ён адзываўся, але цяпер пакутліва маўчаў, бо не хацеў, каб яго прыкмеціў Капка. Паліцай таксама чуў маці — і ўзіраўся, дзе хаваецца малы. Аднак з-пад ценю дрэваў не выходзіў: непадалёку была ахова часці — яе патруль. Капку ёй у рукі трапляць не хацелася. Хто ведае, як да яго паставяцца гэтыя франтавікі. Паліцай на ўласным вопыце, калі адступаў з-пад Кобрына, ведаў, як вайна перарабляе чалавека. Ноччу ідзе група пад кіраўніцтвам баявога капітана, палітрука, а раніцай — камандзіра няма. Байцы-адступленцы — нібы авечкі без пастуха, не ведаюць, куды ісці. Наўкола лес ды на нябачнай дарозе гудуць нямецкія машыны. На адным адпачынку Капка і ўбачыў Ганьку. Яна ішла па лесе адна і ў супрацьлеглы бок. Разгаварыліся, і Капка ў зручны момант адстаў ад сваіх і дагнаў сляпую. Так яны і дабраліся да панавай зямлі — і ўжо ў якасьці мужа і жонкі.

Пецька выйшаў з высокай крапівы і якраз ля невялічкай палаткі ўбачыў скрынку з паперамі рознага колеру, пачкамі цыгарэт з бліскучым начыннем. Ён стаў іх даставаць са скрынкі. Наўкола былі салдаты. Яны ляжалі на надуўных матрацах, гулялі ў шахматы. На яго ніхто не звяртаў увагі.

— Што ішчэш, малчык? — пачуў над сабой Пецька спакойны голас. Падняў галаву і ўбачыў у бліскучых чобатах, галіфэ са срэбнымі вузенькімі, як зсучаная нітка, лампасамі ў шэрай майцы пажылога дзядзьку. Пецька паказаў бліскучыя паперкі, якія дастаў з цыгарэтных пачкаў. Дзядзька лагодна ўсміхаўся.

— Як цябе завуць?

— Пецька, Пецька Сімоўскі.

— Пецька, Пэтэр. Зойдзем да мяне, — дзядзька адгарнуў крысо палаткі і прапусціў малога. У палатцы стаяў шырокі стол, ложак.

— Садзіся, Пецька. Тут я жыву.

У гэты момант нешта запішчэла, пачулася гаворка. Пецька насцярожыўся.

— Не бойся — там радыёстанцыя.

— Радыё! Гэта такое вялікае вуха, якое гаворыць. Бачыў, бачыў. У райцэнтры вісела на стаўбе, калі я з папікам быў у мястэчку. Але было гэта даўно, да вайны, — скрушна ўздыхнуў Пецька.

— Вайна, вайна... — загадкава і тужліва вымавіў немец. — Дзе ты жыв'еш?

— Там, — паказаў малы на кут палаткі. — Блізка адсюль, на хутары.

— З от'ец, маць, брат'я, сястра?

— І тата і мама ёсць, Ванька, Колька — браты старэйшыя за мяне.

— Ц'ябе корошо...

Раптам Пецька запытаў:

— Ты — генерал?

— Маёр.

— А каптан як у генерала, — Пецька паказаў на мундзір немца.

— Не генерал. Я, Пецька, маёр Курт Вагнэр. Камандзір зенітнага палка.

— Па самалётах б'еце?

— По всём, — матнуў рукою маёр, даючы малому зразумець, што яму пра гэта размаўляць не хочацца. — Ты, Пецька, кушат хочэш? — ён глянуў на Пецькаву спінку (пад танюсенькай кашулькай, перашытай з мамінай святочнай кофты, выразна бачыліся рэбры).

— Хачу, у вас тут смачнай юшкай пахне, як у мамы з печы, з гаршка, калі там яшчэ хоць кус мяска. Але я даўно не адчуваў таго паху — у нас мяса няма...

— Кароль! — гукнуў маёр.

У палатцы з'явіўся маладжавы афіцэр і выцягнуўся нібы струна.

— Абед мне і яму, — паказаў на Пецьку маёр.

Не прайшло і хвіліны, як з'явіўся повар і з каструлі ў талеркі наліў супы, паклаў на белы ільняны настольнік лыжкі і хлеб.

— Будзем абедаць, Пецька.

Малы ў імгненне апаражніў глыбокую талерку, вышчер прыгатаванай сурвэткай губы і ад сытасці ледзь вымавіў:

— Дзякуй!

— На здароўе, — адказаў маёр, пасадзіў хлапца на калені і стаў абдымаць. Пецька разгубіўся, бо маёр выняў з кішэні мундзіра фотакартку, пацалаваў і заплакаў як малы, паказваючы пальцам на яе:

— Мая сям'я: сынок, як ты, дачка, жонка.

Пецька глядзеў на здымак: на незнаёмых яму прыгожа апранутых жанчыну і дзяцей. І яму зрабілася вельмі шкада маёра. Ён пацягнуўся да яго нібы да роднага бацькі. Потым не вытрымаў і спытаў:

— А чаго ты тут? Едзь да сваіх дзяцей. Што табе тут, у гаі?!

— Ах, П'ецька, П'ецька. Короша твая душа. Нэлзя мне туда. За гэта генералы меня расстрэляйт, — уздыхнуў Вагнэр. Пецька сядзеў нерухома — чакаў, калі маёр супакоіцца. І, калі той уцёрся насоўкай і ўсміхнуўся, Пецька споўз з каленяў і таксама глыбока ўздыхнуў:

— Мне пара — мама недзе зусім з'енчылася.

— Чакай! — сказаў маёр і загадаў лейтэнанту прынесці з кухні трохлітровы бідончык супы, булку хлеба, насунуў на Пецькаву галаву новую пілотку з бліскучай кукардай, запіхнуў у кішэню парткоў тры шакаладкі, прыціснуў яшчэ хлапца да грудзей, абняў і сказаў:

— Бяжы дадому!

Пецька з падарункамі знік у крапіве. Ён ішоў і радаваўся — столькі ўсяго нёс дамоў.

Малы ўляцеў у хату, калі сям'я збіралася абедаць. Мама расстаўляла на стале міскі, раскладала лыжкі. Тата ад круглага бохана хлеба адразаў акуратныя скібачкі.

— Наце вам! — з размаху паставіў Пецька бідон з супай. Прыемны пах адразу запаланіў хату.

— Дзе ўзяў? — убачыўшы на галаве сына нямецкую камандзірскую пілотку, тата зняў з цвіка свой пасак.

— Немец... маёр даў.

— Я табе пакажу маёра, — замахнуўся паскам на сына бацька. Але ў гэты момант на парозе паказаўся Капка:

— Ён украў пілотку. І суп украў. Здаля бачыў яго, бадзяўся там сярод палатак...

— Мне падарыў маёр, — запярэчыў Пецька.

— Зараз праверу. Пойдзеш — пакажаш таго маёра.

Паліцай схапіў Пецьку за руку і пацягнуў на двор.

— Не дам, не пушчу, — усхапілася следам маці.

— Назад! — піскліва завішчэў паліцай. — Яшчэ крок — кожнага ўлажу, хто будзе мне перашкаджаць выконваць свой абавязак.

Усе Сімоўскія аслупянелі — не ведалі, як быць. А Капка рашуча і даволі хутка цягнуў Пецьку да месца, дзе стаяла нямецкая вайсковая часць. Варта прапусціла паліцая, не бачыла небяспекі. Салдаты ўлюлюкалі, смяяліся: «Глядзіце — паліцай партызана злавіў!».

Пецька каля палатак супакоіўся — ён адчуў, што маёр яго выручыць. Капка прыпыніўся і аддыхваўся ад хуткай хадзьбы.

— Паказвай, дзе твой маёр! — тузаў Капка за руку Пецьку.

— Я маёр! — выйшаў з сваёй палаткі Вагнэр, пачуўшы смех падначаленых і здзівіўся, убачыўшы Пецьку.

— Што здарылася, П'ецька? — запытаў ён.

— Ён, ён... — паказаў на паліцая малы. — Ён кажа, што я ўкраў супу, пілотку ў цябе.

Маёр вырваў з паліцаевых рук пілотку.

— Так, я падарыў яе П'ецьку. А ты... — Вагнэр узяў Капку за грудзі. — Ты не паліцай, ты дурак і звер.

З гэтымі словамі Вагнэр адабраў у Капкі вінтоўку, а потым з усяго размаху нагой ударыў Капку пад зад. Той пад смех і апладысменты салдат паляцеў ніцма ў крапіву.

Дадому Пецьку правялі два салдаты, якім загадаў маёр Вагнэр.

Слых пра гэтую падзею разнёсся па наваколлю. Людзі радаваліся.

Пасля ад'езду немцаў на фронт Капку злавілі партызаны і павесілі ў гаі.



▸ ПРЫТЧА

# IX

**Анатоль БАРОЎСКІ**

*«Ты — сапраўды Сын Божы!».*
*«Пакайцеся, бо наблізілася Валадарства Нябеснае».*
*Мф. (14:33; 3:2)*

## На Беларусі Бог жыве…

Ён стаяў пасярод плошчы, поўнай рознага люду.

Яго абыходзілі людзі ў прыстойным адзенні — чыноўнікі і чыноўнічкі розных узроўняў; абміналі дзядзькі і цёткі, маладыя пары, якія толькі што пабраліся і спяшаліся ўскласці кветкі да падножжа ідала, які, выдаўжыўшы руку, паказваў ім шлях у светлае заўтра (такая была ўжо традыцыя ў гэтым горадзе, як і ў шмат якіх іншых, дарэчы); абміналі і дзеці, нават пальцамі паказвалі на яго, а то і кінуўшы ў яго якім агрызкам ці камянюкай…

Хіба адно святары розных канфесій запавольвалі крок і пільна прыглядаліся да яго, як бы ўспомніўшы пра нешта ці задумваючыся над сэнсам жыцця, падоранага людству Вышнім, — але і яны, думкава наклаўшы крыж на сябе, прашаптаўшы «ўратуй, Гасподзь!», спяшаліся да сваіх штодзённых клопатаў у храме…

А ён глядзеў, не зважаючы ні на што, скрозь усіх і на ўсіх, і ні на кога, адно шаптаў незразумелыя словы на незразумелай мове:

— Па…й…ся… лю…і…

Да яго прывыклі гараджане і жыхары з далёкіх вёсак, што, прыязджаючы ў горад, мерыліся купіць сабе нешта ў крамах. І вартавыя парадку — міліцыянты, даўно прывыклі. Напачатку, даўным-даўно, прыводзілі ў свой пастарунак, намагаючыся даведацца пра яго падрабязней. У выцвярэзнік нават прывозілі, думаючы, што ён нападпітку.

— Зовут тебя как? — дапытваўся міліцыянт, стараючыся запісаць у пратакол.

Ён маўчаў.

— Ты глухой, что ли? — зноў падступаўся да яго сярэдніх гадоў лейтэнант (учарашняя п'янка-пагулянка не прайшла бясследна).

Затрыманы ўзяў паперчыну і напісаў рымскімі лічбамі: IX.

— Что означает девять?

Падышоў малодшы лейтэнант, здзіўлена паглядзеў на напісанае, выказаў меркаванне:

— Можно подумать, что ты — Ісус Хрыстос.

— Ты сказаў, не я, — адказаў ціха.

— Бэнэфовец? — пацікавіўся лейтэнант. — У нас только бэнэфовцы на родном языке разговаривают. Мужицкий язык у нас не в почёте.

— А ў Бібліі гаворыцца, што да Бога ў сваіх малітвах трэба звяртацца толькі на роднай мове, а не на чужынскай, — толькі тады малітва будзе мець Боскую сілу. Лічба дзевяць азначае тое, што ў дзевяць дзяржаваў я пасылаў сваіх апосталаў — і яны прапаведалі, угаварылі народы, каб не будавалі больш на сваіх землях атамныя пачвары…

— А ты кто? — зноў гучыць пытанне.



— Я той, хто даў вам святло. Хто забраў чалавечы боль. Як і твой галаўны боль забяру.

— Ты — энергетик? — дапытчык нешта запісваў у пратакол.

Ён схіліў галаву, бо не меў жадання больш гаварыць з імі.

Лейтэнант адчуў, што ў яго перастала балець галава, стала лёгка. Але ён не надаў таму значэння.

Яго замыкалі ў КПЗ, пакідалі на ноч. А раніцай ён зноў з'яўляўся на сваім месцы, зноў шаптаў праз боль і пакуты:

— Па…й…ся…ю…і…

Як ні стараліся яго замкнуць на вязнічныя замкі-засаўкі, закаваць у кайданкі, нават сваімі дубінкамі прахаджваліся па спіне і твары, загадваючы, каб ён больш не з'яўляўся на плошчы, — нічога не мянялася. Нават калі выйшаў строгі ўказ высокага начальніка пра тое, каб павыкідвалі міліцыянты з плошчаў і рынкаў усіх бамжоў, п'яніцаў і алкаголікаў, каб не псавалі выгляд агульнага і заможнага жыцця ў асобна ўзятай краіне, — ніхто не мог зрушыць яго з месца.

Потым і зусім перасталі прыставаць да яго, бо ведалі, што іх намаганні дарэмныя, — толькі круцілі пальцам каля скроні.

Ніхто не ведаў, дзе ён начаваў, адкуль прыходзіў, дзе яго пастаяннае жытло і ўвогуле, ці ёсць яно ў яго…

— Па…й…ся… — шаптаў ён асмяглымі вуснамі.

Горад быў глухі і невідушчы, чэрствы і няўдзячны, абыякавы і патануў у грахах. Адно хіба невядома — плошча была горада, усёй краіны, ці ўсёй планеты… Ніхто пра тое не ведаў.

З кожнага дома, з расчыненых вокнаў, нават і з зачыненых, праз шкло, вылятала на вуліцу і плошчу пачварная і гучная, што аж ціснула на вушы сваім цяжарам, музыка; акрамя яе даходзілі жудасныя крыкі і воклічы — некага на тэлэкране гвалтавалі, некага забівалі і расстрэльвалі, вешалі, адсякалі галовы; у зазыўных установах на подыюме шпацыравалі голыя (хіба шворачкамі прыкрыўшы бышцам бы напятыя цыцкі, пяродкі і азадкі) дзяўчаткі, прагна жадаючы адразу ж азалаціцца, прыцягнуўшы ўвагу п'янкога позірку алігарха, тройчы разведзенага, ды стаць яго жонкай; у крамах і газетна-часопісных шапіках на відавоку раскладзена чытво з фотамі тых жа зорак шоўбізнесу; а другія выданні дык і зусім, не саромеючыся і не асцерагаючыся амаральнасці, дэманстравалі жывёльныя інстынкты людзей — ляжалі ў тых позах, ад якіх пасля нараджаліся дзеці…

Усё перавярнулася і ўсе, здавалася, з'ехалі зглузду: дваццацігадовыя жаніліся ці выходзілі замуж за сямідзесяцігадовых — і наадварот; людзі навучыліся хлусіць і падманваць, забіваць адзін аднаго без дай прычыны; падлеткі ў школе наладжвалі оргіі… Садома і Гамора.

Бог даў людзям сваю мову, але тыя людзі перарабілі сваё на чужы лад — праз кожнае слова «мать» і «рот», «бля» і «пайшоў на…»; мову адрынуўшы, страцілі ўменне гаварыць прыгожа і адзін з адным, прызнавацца ў каханні, бо не маглі зразумець сэнсу моўленага, быццам размаўлялі глухі са сляпым, быццам галодны з наетым, эфіоп з еўрапейцам ці з лельчыцкім дзедам; мацнейшая дзяржава (маючы сваю плошчу), назваўшыся «старэйшым братам», спаслаўшыся на тое, што яна абараняе праваслаўе, насадзіла сваю, чужынскую, для карэннага насельніцтва, мову, а прыслужнікі, задалізы і здрайцы, аднялі ў дадатак і святыя сымбалі — бел-чырвона-белыя штандары і прасторы, душу Айчыны — вяршніка на баявым кані…

Плошча мела сваю назву. Называлася Плошчай Веры і Пакаяння.

Яна бурліла, жыла сваім жыццём, не зважаючы ні на што… Як і жыла ў пазамінулым, мінулым стагоддзях, — і напачатку гэтага.

Гучаў пападжальны Голас адумацца на сямнаццатым годзе крывавага жнярнага, з крыжамі — XX — стагоддзя, — не адумаліся, і людзей пеpатварылі ў атэістаў — служкаў Сатаны, якія ж самі адрачыліся Бога і ўзарвалі храмы; не прыслухаліся да Голасу таго ж стагоддзя на трыццатым і саракавым гадах, — і той жа Сатана — пад выглядам двух вар'ятаў — сутыкнуў ілбамі шмат якія народы, і загінула ў той бойцы мільёны і мільёны нявінных душаў…

А ён стаяў тады, стаіць і сёння…

І гаварыў адны і тыя ж словы:

— Па…й…ся…лю…і…

Стаяў ён у лютыя маразы, калі трашчалі, набрыняльня яшчэ з восені вільгаццю, дрэвы, стаяў у спякоту, калі пад няшчадным промнямі сонца плавілася зямля, курэў асфальт і вяў бульбоўнік на палетках ускраіны паселішча, дзе пачыналіся вясковыя надзелы; стаяў, калі лілі зацяжныя дажджы, не звяртаючы ўвагі на непагадзь, — стаяў з непакрытай галавой, і доўгія валасы звісалі на лоб, хаваючы вочы…

Ён заўсёды быў у адным і тым жа адзенні — накінуты на плечы некалі чырвонага колеру хітон, выгаралы за доўгія гады і стагоддзі. На нагах нязменныя тэпці з драўлянай падэшвай.

Зімой нехта клаў каля яго ног паношаныя, на выкід, кажушок ці боты. Але ніводнага разу ён не пакарыстаўся імі.

Ён то шаптаў малітвы, умольна гледзячы ў неба, склаўшы на грудзях крыжам рукі, і льга было падумаць, што незнаёмец маліўся не толькі за мясцовых людзей, а і за ўсё чалавецтва…

А аднойчы здарылася…

Нагуляўшыся, наблудзіўшы, нацешыўшыся, спазнаўшы ўсю асалоду грахоўнага жыцця, падышла да яго жанчына. Яна мела яшчэ не шмат гадоў, але згубіла-страціла першапачатковую прыгажосць. Сама ўбачыла тое і зразумела, і аднойчы перад люстэркам жахнулася, заплакала:

— Памажы, Божачка, выбрацца з багны… Уратуй і памілуй! Каюся, Божа, грэшная я!

Марыя-Магдалена і сама не ведала, чаму ногі самі неслі яе на Плошчу. Яна ішла да таго, хто стаяў на ёй і шаптаў патаемныя, не пачутыя нікім, словы… Калі падышла да яго, зірнула на яго, выразна пачула яго гучны шэпт. Нават не шэпт, а ўмольны заклік:

— Пакайцеся людзі!.. Не наклікайце на сябе яшчэ большую бяду.

І яна ўсё зразумела, убачыла, Хто стаяў перад ёю, перад Кім яна стаяла. Падышла да Яго, укленчыла, кранулася хітона, прашаптала:

— Грэшная я, Госпадзе! Даруй мне грахі мае і правіны.

І, можа, упершыню за доўгія гады Ён паглядзеў у вочы той, што прыйшла да Яго, убачыўшы і пазнаўшы Яго, прамовіў ці то з сумам, ці то з радасцю:

— Дарую цабе грахі твае, Марыя-Магдалена. Ідзі з Богам, і болей не грашы.

І яна адчула незвычайную палёгку, душэўную раўнавагу і радасць пазбаўлення нябачнага, але такога важкага, грузу…

— Дзякую Табе, Божа, дзякуй Табе! — прашаптала яна, адыходзячы.

Марыя-Магдалена, не збочваючы, пайшла да Храма, які стаяў на ўскраіне горада, цудам ацалеўшы пры атэістычных завірухах, і які называўся Храмам Хрыста Збаўцы. Наклаўшы на сябе крыж, пераступіла парог. З амвона даносілася малітва: «Госпадзе, памілуй, Госпадзе, памілуй, Госпадзе, памі-ілуй!..»

У храме было няшмат вернікаў, але яна ўбачыла, што сярод іх, збоч, стаяў Той, Які дараваў грахі ёй…

А Гасподзь не сыходзіў са свайго месца.

Ён маліўся за ўсё чалавецтва, забіраючы на сябе людскія грахі.

Ісус Хрыстос стаяў на ўзвышку на амвоне Плошчы Пакаяння і Веры; не зважаючы на Яго, ішлі і ішлі людзі. А Ён умольваў, крычаў:

— Пакайцеся, людзі, адумайцеся! Скіньце грахі з душы сваёй.

А да людзей даляталі незразумелыя словазлучэнні:

— Па…ай…ся…лю…ад…ся…

Хрыстос і яшчэ прасіў людзей:

— Людзі, спыніцеся! Пакіньце на час свае клопаты і неадкладныя абавязкі. Сатварыце агульную малітву — і тады тое не здарыцца, што павінна адбыцца па вашай віне і згодна граху вашага…

Людзі не чулі Яго…

— І малітву прачытайце ў той час, калі Я ўваскрэснуў. Агульная малітва ўсяго народу мае магічную сілу, якой валодае Бацька Мой, Ойча, Які ў Нябёсах…

Не ведалі людзі, якая бяда насоўвалася праз іхнія бязвер'е, глухату і грахі. Не прадчувалі нават. Бо прывыклі жыць у бязбожнай краіне, а той лад, у якім знаходзіліся, прымалі як магутны і непераможны, нават вечны. Шчыра верылі ў тое.

А ў Святым Пісанні было ж напісана:

«І сем анёлаў, што мелі сем трубаў, падрыхтаваліся трубіць. Першы анёл затрубіў, і зрабіўся град і вагонь, зьмяшаныя з крывёю, і апалі на зямлю; і трэціна ўсіх дрэваў згарэла, і ўся трава зялёная выгарала.

Другі анёл затрубіў, і як бы вялікая гара, вагнём распаленая, абвалілася ў мора, і трэціна караблёў загінула.

Трэці анёл затрубіў, і ўпала зь неба вялікая зорка, палаючы, нібы светач, і ўпала на трэціну рэк і крыніцы водаў. Імя гэтай зоркі палын; і трэціна ўсіх водаў зрабілася палыном, і многія людзі памерлі ад водаў, бо яны прагорклі…».

Не ўсе чыталі, а калі б і чыталі, то не надалі б асаблівага значэння прарочым словам, не расшыфравалі б іх сапраўдны сэнс.

І быў год 1986-ы…

І быў красавік, заканчэнне яго — 26-ы дзень...

І сталі горкімі і атрутнымі воды, і смяротныя нябачныя атрутныя промні-стрэлы пранізалі людзей, — і яны загінулі і працягваюць паміраць…

А пасярод Плошчы Пакаяння і Веры і па сёння стаіць Вышні, засцерагае, просіць тых, хто заблудзіўся, хто ідзе не да святла, а да цемры:

— Людзі, пакайцеся!..

А яны чуюць чамусьці іншыя словы, альбо зусім не чуюць Яго.

Не пачулі людзі Яго, маючы вушы, і таму так здарылася, што Сатана паддурыў, падбухторыў зноў іх, паабяцаўшы ім зямныя багацці, без іх агульнай згоды ўзяўся збудаваць атамнага Монстра…

Але верыцца (бо інакш і быць не можа!), што неўзабаве набярэцца народ розуму і знішчыць атамную пачвару, адправіць яе ў апраметную, бо…

...на Беларусі Бог жыве…

**Жнівень, 2011 год, Адэса, Кіеў, Чарнобыль**

*У траўні Анатоль Мікалаевіч БАРОЎСКІ адзначыў сваё 70-годдзе. Шчыра жадаем паважанаму аўтару моцы і радасці!*

ЮБІЛЕЙ

# «СТУПІЎШЫ НА ЗЯМЛЮ, ІМКНЕШСЯ ДА ЎЗБЯРЭЖЖА»

## АНАЛІЗ АДНАГО ВЕРША АЛЕСЯ САЛАЎЯ (ДА 90-ГОДДЗЯ ПАЭТА)

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

**Трагічнасць эміграцкай літаратурнай сітуацыі: застаўшыся па волі лёсу на маргінэсе (прасторавым) нацыянальнага культурнага жыцця і «будаўніцтва», беларуская эміграцыя (і паэты — як складнікі яе духоўнай перспектывы) змушана была ўкараняцца ў новым быцці і, паводле ўласнага перакнання, быць апірышчам, захавальнікам і праваперaемнікам нацыянальна-культурнай традыцыі (усяго несавецкага — «нашаніўства» і «ўзвышэнства», як прыклад).**



Алесь Салавей

У сувязі з гэтым паўстала праблема незамглёнай перадачы гэтай традыцыі, а таксама годнага яе развіцця. Паэзія прагнула абнаўлення, і ў выніку вызначыліся дзве яркія тэндэнцыі — неакласічная (найяскравейшым яе выразнікам быў Алесь Салавей) і мадэрністычная (тут асобай нумар адзін справядліва лічыцца Янка Юхнавец). Мяжа праходзіла вельмі рэзка, гэта пацвярджае ліст Алеся Салаўя да Юркі Віцьбіча ад 20 кастрычніка 1947 года, дзе ярка акрэслены характар спрэчкі: «Вершы Янкі Юхнаўца і пераклад з І. Кастэцкага заслугоўваюць асобнай увагі як найноўшая адзнака бяздарнасці і вар'яцтва. Праўда, яна, гэтая адзнака, не новая, бо яшчэ ад старадаўна-грэцкіх часоў літаратура перажывала пасля кожнай велічыні падобнае вар'яцтва, ад якога і следу «нашчадкам на ўспамін» не засталося. А ў нас велічыні яшчэ не было, а ўжо скачам з адхіну, далей людскога г…, прабачце, не бачачы нічога. І, дзіўная рэч, людзі ўважаюць, што яны імкнуцца да новага, калі яно, гэтае новае, у трыццаць разоў старэйшае за ўсё ўдасканаленае, што прыйшло яму на змену. Для мяне не мае ніякай вартасці і паэзія пра атам, і паэзія пра вераб'я, калі яна не мастацкая. Мастацкая ж паэзія пра вераб'я, які жыў і сотні тысячаў год таму, — паэзія, вар'яцтва пра атам — вар'яцтва і больш нічога. Ад празмернага святла можна аглухнуць, а таму чалавек ніколі не асягне таго, што яму дадзена; разам з узлётам угору яму толькі ўласцівы і гэткі ж самы спад уніз. А таму — яшчэ больш дасканаліць тое, што нам дадзена (у нас яно не было яшчэ ўдасканаленым ніколі), а не знішчаць да навеглайства, замаскаванага «пошукамі новага»». Такім чынам, Алесь Салавей абсалютна не прыняў творчасці Юхнаўца і нават прысвяціў таму верш-пародыю «Тысяча дзевяцьсот…» (напісаную строгім памерам і дакладнай рыфмай). Так ці інакш, кожная з тэндэнцый мела на мэце адшукаць анталагічны субстракт, на якім паўстала б новая беларуская паэзія, бо з метраполіяй былі парушаны ўсякія сувязі і — здавалася тады эмігрантам — назаўсёды.

Відаць, прасцей за ўсё паказаць гэтыя разыходжанні на практыцы. Датычна Янкі Юхнаўца мы сёе-тое здолелі сказаць у папярэднім артыкуле «Пошукі асноведзі ў міжчассі», змешчаным у «Літаратурнай Беларусі». Няхай для Алеся Салаўя прыкладам будзе верш «У акіян». Старонка была адгорнута выпадкова, але пасля стала зразумела: гэты твор сапраўды паказальны.

*Ступіўшы на зямлю, імкнешся*
*да ўзбярэжжа.*
*Ізноў у акіян твой плаў дарогу*
*рэжа,*
*нібы спакон вякоў прапрадзедаў*
*нарог*
*імкнецца супачыць у пушчах,*
*у барох.*
*Ва ўзбуджаным бары,*
*ля шматгалiннай гушчы,*
*пад гоманам вятроў*
*ва ўсхваляванай пушчы*
*табе сам Архітэкт там дом*
*пабудаваў —*
*цудоўны дом з імхоў, з кашлатых*
*дрэў і траў.*
*Пад домам тым бруяць крыніцы*
*надзямныя,*
*з зямлёй злучыўшы высь і сокі*
*наліўныя.*
*Пры гэтым доме — дуб, тапаля,*
*важны клён —*
*Старая Грэцыя, найдаўны*
*Вавілон.*

Згодна з трыядай аналізу «метрыка-стылістыка-тэматыка» пачнем з ніжэйшага ўзроўню. Аднастрофнае дванаццацірадкоўе напісана александрыйскай страфой. Для беларускай паэзіі — вельмі нячастая з'ява: шасцістопны ямб з цэзурай пасля трэцяй стапы. У двувершах з парнай рыфмай — паслядоўнае чаргаванне жаночых/мужчынскіх клаўзул і адкрытых/закрытых рыфмаў адпаведна. Адметна, што ў апошнім радку верша «У акіян» перад цэзурай — пірыхій, безнаціскная стапа, што пакрэслівае асаблівае становішча заключэння, заканчэння твора. Выкшталцоны александрыйскі верш надае твору роўны рытмічны малюнак, жорстка рэгламентаваны і пазбаўлены выпадковасцей. Інтанацыйная мярэжа таксама знаходзіцца ў гэтым вышэйадзначаным рэчышчы.

Паэталагічнае асэнсаванне верша варта пачынаць з характару і каларыту слоўнай структуры твора. Гэта прасцей за ўсё выявіць, размеркаваўшы элементы па часцінах мовы. Вось жа, дзеясловаў з дзеепрыслоўямі — 8, назоўнікаў — 31, прыметнікаў — 13. Разгледзім гэтыя асноўныя лексіка-семантычныя групы, бо характар астатніх часцін мовы на верш істотна не ўплывае, і мы будзем звяртацца да іх толькі пры неабходнасці.

Колькасць дзеясловаў у вершы — невялікая, што азначае перавагу статычнага малюнку над дынамічным. Аднак характар гэтых адзінак паказальны: «ступіўшы», «рэжа», «імкнешся», «імкнецца супачыць», «пабудаваў», «бруяць», «злучыўшы». Працэсуальнасць падкрэсліваецца незакончаным трываннем дзеясловаў, што датычацца лірычнага героя, які выражаны займеннікам «ты»; гэта адасабляе асобу героя ад аўтарскай пазіцыі. Так, заканчэнне працэсу («ступіўшы») адразу перарываецца валюнтарысцкім «імкнешся». Аднак гэты пераход азначае і зваротны стан — «імкнецца супачыць» — надзвычай характэрны і важны для паэтыкі Салаўя. Закончанасць стану («пабудаваў») адносіцца да Архітэкта, г.зн. Бога, што, дарэчы, выдатна лучыцца з уяўленнем пра Ягоную статычнасць. А таксама і падкрэсліваюць нерухомасць збудаванага дома (хоць там і «бруяць» крыніцы, але гэта толькі акцэнтуе спакой і цішу).

Зусім відавочна з падлікаў, што аснову гэтага верша складаюць назоўнікі. Іх можна размеркаваць такім чынам: суб'екты дзеяння («плаў» , «нарог», «гоман вятроў», «Архітэкт», «крыніцы», «сокі»); неканкрэтызаваныя прасторавыя («дом» — 4 разы, «зямля» — 2 разы, «узбярэжжа», «акіян» «дарогу», «высь»); канкрэтызаваныя прасторавыя («у пушчах», «у барох», «бары», «гушчы» «дуб», «тапаля», «клён», «з дрэў», «траў», «пушчы», «з імхоў»); часавыя («вякоў», «Грэцыя», «Вавілон»). Першаснае значэнне набывае намінацыя, называнне прасторы, канкрэтныя рэаліі пераважаюць над абстрактнымі, але праз гэта толькі лепш падкрэсліваюць апошнія.

Прыметнікі — «твой», «прапрадзедаў», «ўзбуджаным», «шматгалiннай», «ўсхваляванай», «цудоўны», «кашлатых», «надзямныя», «наліўныя», «гэтым», «важны»,«старая», «найдаўны» — пераважна апісанні стану, але немалое месца займаюць і часавыя («прапрадзедаў». «старая», «найдаўны»).

З пункту гледжання агульнай тэматыкі навідавоку ў вершы некалькі матыфем (рэалізаваных матываў), галоўныя з якіх — Падарожжа і Дом. Падсумоўваючы вынікі і паступова наноў разгортваючы верш у адваротным кірунку, займеем такую карціну: суб'ект-герой, праяўлены праз адстароненае «ты», знаходзіцца ў сітуацыі «паміж», сітуацыі змены станаў, якія арганізаваны праз два архетыпы — падарожжа і дома. Цэнтральным з іх з'яўляецца дом, матыў падарожжа пачынае балансаваць ужо на трэцім радку шаснаццацірадкоўя: у выглядзе параўнання, праз «нібы» адбываецца змена і матываў, і стыхій — зноў пачынае панаваць зямля. Аднак зямля гэтая цяпер пазбаўлена канкрэтыкі, яна — з «царства эйдасаў», гэта тая новая зямля, над якой распасцерлася новае неба паэта.

Найзначным з'яўляецца характар таго дома, што малюецца ва ўяўленні лірычнага героя як пракаветная Ітака для Адысея. Аўтар пры адсутнасці дынамікі, руху пераключае ўвагу на называнне, менаванне прасторы — таго, што змяшчае «дом». Відавочна, што сам дом тут — не канкрэтнае месца, а сімвал. Небудзённым з'яўляецца і тое, што арганізатарам гэтай новай зямлі з'яўляецца Архітэкт-дэміург: такім чынам, вобраз мы бачым як бы ў двайным люстэрку.

Мы ўзнаўляем, што гаворыць сам твор: герой больш думае пра дом, чым пра ўсё астатняе, ён знаходзіцца ў імкненні да яго. Але які гэта дом? Абраны паэтам лес павінен быў бы сімвалізаваць спакой, трываласць, непарушнасць, гармонію і вечнасць, надзейнасць і поўную статычнасць. Аднак сама тканка твора даводзіць поўную немагчымасць гэтага імкнення. Пра гэта перш за ўсё гавораць ужытыя аўтарам экспрэсіўныя эпітэты, якія супярэчаць ідэі гарманічнасці лесу. Спакой аказваецца ўяўным і маланатхняльным, як у таго булгакаўскага Майстра на апошніх старонках вядомага рамана: «Ва ўзбуджаным бары, ля шматгалiннай гушчы, / пад гоманам вятроў ва ўсхваляванай пушчы» сама ідэя супакою і гармоніі выглядае недарэчнай. Статычнасць лесу абвяргаецца сама сабой яшчэ ў працэсе стварэння верша. Тады ратаванне прыходзіць у восі «верх»/«ніз», такой актуальнай для раздвоенай свядомасці паэта, які сам размяжоўваў жыццё Алеся Салаўя і Альберта Кадняка (сапраўдныя імя і прозвішча аўтара), і нават апісваў у сваіх лістах жыццё кожнага паасобку. «З зямлёй злучыўшы высь і сокі наліўныя» — гэта запаветная мара паэта, важным, хоць і не надта заўважным ёсць тут эпітэт «надзямныя» («Пад домам тым бруяць крыніцы надзямныя»), які ў лірыцы Салаўя мае не толькі значэнне «руху на паверхні», але з'яўляецца сінонімам нябеснага, той святой зямлі, жаданай і недасяжнай менавіта з прычыны сваёй надземнасці. Вось жа, на першы погляд, верш выглядае апалогіяй гармоніі прыроды, але на самой справе ўсё значна цяжэй. Салавей не знаходзіць гармоніі нават у сваіх марах пра новую зямлю і зноў гаворыць аб «надзямным», пра жаданае злучэнне высі з зямлёй, якое, зрэшты, яму непадуладна.

Яшчэ адно апірышча — «старая Грэцыя, найдаўны Вавілон» — па сутнасці, той самы александрыйскі верш, спакойны і велічны, якім паэт хоча прыкрыць унутраную расцятасць, метафізічную недамоўленасць: выказванне завершана і струнка пададзена, але гэта не хавае тых, затоеных у вершы, віхураў.

▸ РЭЦЭНЗІЯ

# «ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ» АЛЕСЯ БАРСКАГА

Сяргей ЧЫГРЫН




Што такое серп — ведаюць усе. З дзяцінства памятаю вершаваны радок: серп і молат — смерць і голад. Пачуў я гэтую рыфмоўку ад старэйшых вяскоўцаў, але чаму яны так казалі — не разумеў, толькі бачыў гэтыя серп і молат на сцягах Савецкага Саюза. А вось як людзі ў вёсцы працавалі цэпам, я ўжо не застаў, але яго бачыў. Ды і цяпер у старой бацькоўскай хаце ў вёсцы захоўваюцца два цапы. Для тых, хто не ведае, што такое цэп, скажу толькі, што гэта ручная прылада для малацьбы збожжа. Яна складаецца з доўгага драўлянага дзяржання — цапільна, да якога гужыкам і прывязкамі прымацоўваецца біч. Ды што гэта я пра цэп і пра серп. У Алеся Барскага «Аб цэпе і сярпе» ёсць цэлы раздзел у новай яго кнізе «Выбраныя творы», што нядаўна пабачыла свет у Мінску ў выдавецтве «Кнігазбор» у вядомай серыі «Беларускі кнігазбор», заснаванай у Беларусі яшчэ ў 1996 годзе: «Напэўна, старэйшыя дасканала памятаюць малацьбу цэпам зімою. Дваццаціградусны мароз, дзьме ў клуню вострым снегам шалёны вецер. Пад дзвярыма кладзеш некалькі кулёў, каб паўстрымаць гэтых шаленцаў, але яны знаходзяць сотні дзірак і шчылін, каб уварвацца на ток і залезці пад тваю мізэрную ватовачку. Адзіны ратунак — варушыцца ды моцна лупіць цэпам. Ну і лупілі ад раніцы да вечара. Лічыш снапы, а іх усё многа і многа, абмалочаных жа мала і мала. Калі, аднак, пасля такой катаржнай работы прыходзіў чалавек дахаты і клаўся спаць, тады, каб заснуць, не трэба было ніякіх параных макавак. Засынаў ён за некалькі дзясяткаў секунд. Цяпер у мяне ў варшаўскай кватэры стаіць мой галоўны вораг і галоўны эксплуататар — бацькоўскі цэп… Вісіць у мяне таксама і матчын серп…».

Так пачынаецца другі раздзел «Выбраных твораў» Алеся Барскага, які мае назоў «З пабачанага і перажытага». А першы раздзел кнігі — паэтычны. Ён амаль цалкам прысвечаны Беластоцкаму краю і землякам. Але гэта не просценькія вершы-рыфмоўкі, лёгкія для чытання і настальгічныя аб тым, што было і што ўсё прайшло. Гэта арыгінальныя і шчырыя знаходкі, якія розняцца паэтычным настроем, рытмікай, мелодыкай, тэматыкай. Галоўны герой гэтых вершаў — асоба, якая вырасла на Беласточчыне, якая ўвабрала ў сваю душу зямлю, неба, лес, пушчу, людзей, іх лёсы. У Польшчы два паэты — гэта Віктар Швед і Алесь Барскі, у якіх тэма Бацькаўшчыны гучыць заўсёды: і ў вершах, і ў прозе, ва ўспамінах, і ў выступленнях, і сустрэчах. Гэта тэма вельмі вострая, пачуццёвая, шчырая да слёз. І творы на гэту тэму чытаюцца, слухаюцца, захапляюць. Алесь Барскі прызнаецца, што толькі на Беласточчыне ён «вольны тут, душой адпачывае». Ён дзякуе Айчыне за ўсё, найперш, за лясы яе, за водар глебы і скібы, за працавітыя далоні, за радасць і смутак, за хлеб і песню, за дарогі і волю:

*За ўсё гэта ў час нараджэння,*
*За ўсё гэта ў час маладосці,*
*За ўсё гэта ў момант канання,*
*Шчыры дзякуй, Айчына!*

Наогул, падзяка Радзіме, вера лёсу, гімн хлебу і песні Айчыны гучаць у паэзіі Алеся Барскага пастаянна. Асабліва гімн хлебу, жыту, полю. Вершы паэта моцныя сімволікай каласоў, жыта, снапа, сярпа, песні. Паэтычны дар Алеся Барскага, на мой погляд, моцны перш за ўсё канкрэтнасцю паказу, ёмістасцю паэтычных дэталяў, у іх — спакойны, разважлівы роздум аб нашым жыцці і аб мінулым, аб родных Бандарах, дзе нарадзіўся, дзе жылі бацькі. Сваю вёску Бандары паэт параўноўвае з Варшавай, ды куды там нейкай Варшаве да Бандараў Барскага, дзе добра прадуцца вершы, дзе светла думаецца:

*Бандары для мяне*
*Аграмаднай Варшавай,*
*А я ў Бандарах*
*Малы і вялікі.*
*Там вецер прыклічу,*
*Здзьмухну пажар сонца,*
*І з хмары зялёнай*
*Пахучага сена*
*Спраду верш.*

Прадуцца вершы ў Алеся Барскага і пра каханне. Памятаю, здаецца, травень 1981 года. Мінск, філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Магчыма, тады на факультэце была юбілейная вечарына прафесара Алега Лойкі. На гэтай вечарыне выступаў і Алесь Барскі. Высокі, у светлым касцюме, выглянцоны і выкштальцоны, ды й нядаўна яму споўнілася толькі пяцьдзясят. Калі госць пачаў выступаць — зала прыціхла. А ў зале былі амаль адны студэнткі-філфакаўкі. А калі Барскі прачытаў вершы пра каханне з трохі такой сэксуальнай афарбоўкай — зала гучна заапладыравала, а нехта з дзяўчат крыкнуў: «Брава!». Адна з маіх аднакурсніц сказала: «Я ў гэтага беларускага паэта з Польшчы проста закахалася». Час тады быў няпросты і далёкі яшчэ да дэмакратыі, час тады быў такі, калі казалі, што ў Савецкім Саюзе сэкса проста няма. Але Алесь Барскі ўнёс у альма матэр беларускай маладой філалогіі нейкі агеньчык свабоды, адкрытасці, кахання. Ды ці можна такому вобразу не парадавацца, не ўсміхнуцца:

*Грудзі твае — урачыстасць,*
*Як сад, што зацвіў у нядзелю…*

Вось такі ён Алесь Барскі ў паэзіі — шматгранны, шматвобразны, шчыры, арыгінальны.

Другая частка «Выбраных твораў» — празаічная. Тут ён згадвае не толькі пра маленства з сярпом і цэпам, але і пра «пісьмо беларускага народа Вялікаму Сталіну», пра калектывізацыю і кулакоў, пра першыя дні акупацыі, пра дзяржаўнасць і нацыянальнасць.

Друкуецца ў кнізе і п’еса аўтара «Гарадскія госці» — гэта камедыя з вясковага жыцця.




Вялікім раздзелам кнігі Алеся Барскага з’яўляецца раздзел «Літаратуразнаўства, крытыка». Распачынаецца ён артыкулам, прысвечаным беларускаму літаратурнаму руху ў Польшчы ў 1958-1998 гадах. Аўтар падкрэслівае, што «беларускі літаратурны рух у пасляваеннай Польшчы — з’ява ўнікальная як у сваёй фармальна-жанравай спецыфіцы, так і ў тэматычных асаблівасцях». Вядома ж, усіх творчых людзей Алесь Барскі не згадаў, ён нават за гэта просіць прабачэння. Тым не менш аўтар лічыць, што найвыдатнейшым здабыткам кожнага творцы з’яўляецца яго індывідуальная, асабістая кніга твораў. А такіх кніжак ужо за 50, больш чым 10 беларускіх літаратараў Польшчы прыняты ў Саюз польскіх пісьменнікаў і ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Асобныя вялікія артыкулы ў кнізе аўтар прысвяціў жыццю і творчасці Георгія Валкавыцкага, Віктара Шведа, Васіля Баршчэўскага, Міколы Гайдука, Віктара Рудчыка, Сакрата Яновіча, Яна Чыквіна. Не абышоў бокам і літаратурную спадчыну Кастуся Каліноўскага, камізм у творчасці Якуба Коласа, сказаў сваё слова і пра абрады беларусаў, звязаныя з нараджэннем і хрышчэннем.

Аналізуючы творчасць вышэй названых літаратараў, Алесь Барскі падкрэсліў і вызначыў у паэзіі Юркі Зубрыцкага касмічныя матывы. Усе вершы Віктара Шведа на думку Барскага, — гэта рыфмаваныя апавяданні альбо мікрааповесці аб чымсьці ці аб кімсьці, гэта лагічны выклад, у якім ёсць уступ, кульмінацыя і заканчэнне. «Усё гэта, — піша крытык, — набліжае творчасць Віктара Шведа да традыцыйных літаратурных узораў».

Алесь Барскі прыгадвае першыя навелы і апавяданні Васіля Баршчэўскага, падкрэсліваючы, што празаік на працягу свайго творчага шляху стаяў на грунце паслядоўнага рэалізму і яго не цікавілі фармалістычныя эксперыменты. Васіль Баршчэўскі лічыў, што традыцыйны рэалізм не вычарпаў усіх сваіх магчымасцяў і што ў іншую эпоху ён можа прыносіць добрыя мастацкія вынікі.

Пра Міколу Гайдука, як паэта, які ў 1988 годзе выдаў сціплы зборнічак «Ціш», Алесь Барскі прызнаўся, што паэтычныя дасягненні яго значна ўступаюць ягонай прозе. Яно, сапраўды, так. Адна толькі кніга «Паратунак» (Мінск, 1993) чаго вартая. Спадар Барскі адзначае: «Гістарычныя апавяданні Міколы Гайдука маюць эстэтычны характар. Яны яскравяцца падзеямі і здарэннямі, у якіх дамінуюць жывыя эмоцыі: прыязнь і нянавісць, каханне і варожасць, прывязанасць да роднага пейзажу і краявіду».

Ілюстратарам беларускага жыцця назваў Алесь Барскі Віктара Рудчыка, які з сярэдзіны 1960-х гадоў у «Ніве», у «Беларускім календары» пачаў друкаваць свае апавяданні, якія адзначаліся добрымі мастацкімі якасцямі. На вялікі жаль, Віктар Рудчык рана пайшоў з жыцця, пражыўшы толькі 55 гадоў. Але без сумнення, без Рудчыкавых, як піша Алесь Барскі, празаічных твораў беларускі літаратурны рух у Польшчы быў бы бяднейшым.

Аўтар «Выбраных твораў» Сакрата Яновіча лічыць найбольш плённым пісьменнікам сярод усёй плеяды «белавежцаў». Аднак вядома, што незалежна ад таго, што ён напіша, гэта будзе праява болю і горкага задумення над беларускім лёсам.

Ян Чыквін, на думку Барскага, паэт лірычнага задумення, паэт, які са значнай паслядоўнасцю, а нават напорыстасцю шукае першакрыніцы свае чалавечай тоеснасці.

Завяршае «Выбраныя творы» Алеся Барскага цыкл нарысаў пра Амерыку, дзе ў кастрычніку 1987 года ён пабываў. Свае разважанні пісьменнік пачынае ўжо з самалёта, а потым іх працягвае ва ўніверсітэце, бібліятэцы, на вуліцах, аўтамашынах, сустрэчай з беларусамі Амерыкі, найперш з беларускім спеваком Данчыкам, з Вітаўтам Кіпелем і іншымі. А калі вярнуўся ў Польшчу, то прыйшоў да высновы, што Амерыка насамрэч вельмі цікавая краіна.

Добрую прамову да кнігі Алеся Барскага напісаў вядомы беларускі літаратуразнавец Міхась Тычына. Усе старонкі выдання я ўважліва прачытаў, але потым зноў вярнуўся на старонку 68 і спыніўся зноў вось на гэтых радках: «Часта падыходжу да цэпа, але не бяру яго ў рукі. Ён мне страшэнна абрыд, і яго зненавідзеў. А серп матчын кранаю, праводжу пальцам па вастрыі і бачу тады далёкае дзяцінства, спелае збожжа, шчодрае сонца, дабраслаўлёную пару жніва, святую і прачыстую постаць — з сярпом і збожжам у руках — сваю МАЦІ». Гэтыя радкі можна смела паставіць эпіграфам да ўсіх «Выбраных твораў» таленавітага, шчырага і мудрага жыццём Алеся Барскага.

▸ ПАЛІЦА

## «СВЯТАЯ ВАДА»

**У «Кнігарні пісьменніка» бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў выйшла новая кніга — «Святая вада» Ларысы Раманавай.**

З апорай на традыцыі ствараць прыгажэйшым і лепшым сённяшняе беларускае духоўнае быццё; усе пакуты, усё нядобрае можна пераадолець пяшчотай і любоўю, — на такую праграму настройваюць многія вершы паэткі.

Аўтар творыць прастору для сваіх вершаў. Гэтым яна найперш цікавая, і ў тым выпадку, калі перакрэслівае і руйнуе звыклыя ўяўленні пра розныя жыццёвыя праявы: «Вучыся сасне ў сасны, бамбуку ў бамбука… уцякай ад самога сябе. Ісціна не асягнецца, калі не адслоніш сябе» (Мацуа Басё).

У «вандроўнай» паэзіі Ларысы Раманавай — імкненне зведаць сутнасць рэчаў, боль існавання, растораны ў светабудове, спакойная радасць самоты.

Пачынаецца зборнік вершам, прысвечаным Хвядоры Хвядосаў-




не Халюковай — спявачцы з вёскі Стаўбун Веткаўскага раёна:

*Вясна.*
*Вяслуе сонца ў дом*
*у чоўне*
*па залатым блакіце.*
*Адчыніць дзверы толькі той,*
*Хто зможа сам раскрыцца.*
*Разгорне крылцы матылёк*
*І ў танцы пройдзе над зямлёю:*
*«Я пагляджу на ўсё здалёк,*
*Я бездань назаву зямлёй сваёю».*

«Святая вада» Ларысы Раманавай — 25-е выданне распачатай у 2009 годзе кніжнай серыі СБП.

АГЛЯД

# «РАЎЧУКІ ЗБЯГАЮЦЦА Ў РУЧАІНУ»

ЛеГАЛ

**Чарговы — 57-ы — нумар «Дзеяслова» вызначаецца аўтарскім самараскрыццём (роўна як і самаадкрыццём). Пераважная бальшыня тэкстаў часопіса ёсць нічым іншым як самавыяўленнем пісьменніка перад чытачом, своеасаблівай творчай і жыццёвай справаздачай, калі хочаце, падсумаваннем вынікаў не зусім задаволеных сваім лёсам і плёнам літаратараў.**




Цяпер так размыты межы рэчаіснасці і творчасці (жыцця і літаратуры), што кожны — хто піша і чытае — можа ў любы момант памяняцца месцамі, і гэтага амаль ніхто не заўважыць. Па той простай прычыне, што ўвага сёння скіраваная чалавекам перш за ўсё на самога сябе. Іншым ты патрэбны толькі падчас вострай неабходнасці, ды і то пераважна ў прагматычным, меркантыльным і матэрыяльным плане. Чалавек, атачаны спадручнымі высокатэхналагічнымі рэчамі, большую частку часу жыве ў сваім унутраным, вымраеным ім, свеце... Выхад для яго ў іншасвет — як у космас, вялікая падзея (свята альбо стрэс). Як і вяртанне назад — не заўжды бясстратнае...

Бальшыня творчых людзей шукае сутнасць рэчаў на глыбіні, намагаецца пранікаць усё глыбей у інтэлектуальныя матэрыі... А вось вялікія паэты выяўляюць існасць жыцця з простых рэчаў, якія ляжаць на паверхні, можна сказаць, у нас перад вачыма... Паэт **Алесь Разанаў** паказвае на іх, разам з тым выстаўляючы глыбіню іх унутранага свету, якая стаецца і яго светам, і разам з тым, — чытацкім адкрыццём.

*Хвалі вагаюцца —*
*намагаюцца*
*узяць са дна*
*глыбіню.*

Падымаючы пласты падсвядомага ў тэкстах Разанава, чытач і сам расце як сутворца. Гэта плёны час паднятае цаліны мастацтва пад аглухлым і анямелым Небам, дзе ўтаемлена ісціна.

Пачынаецца публікацыя рамана ў апавяданнях з прадмовай і пасляслоўямі **Генрыха Далідовіча** «Рурыкавічы і Рагвалодавічы». Думаецца, гэтая рэч доўгачаканая для беларускай гістарычнай літаратуры і нацыянальнай асветы, асабліва для школьнікаў і юнацтва. У рамане шмат як мастацкага літаратурнага матэрыяла, так і і чыста гістарычнай інфармацыі ды спасылак на іх крыніцы, дзе ўстрогай, а дзе ў адвольнай аўтарскай скіраванасці. Тэкст напісаны даходліва і займальна, што робіць твор яшчэ больш прыдатным для мажлівага пазакласнага, а ў будучым (я перакананы) абавязковага школьнага вывучэння. Што праўда, стыль «знойдзенага рукапісу» ў пераважнай большасці выдае аўтарскі пазнавальны стыль (зрэшты, пра яго адаптацыю да сучаснага пісьменнік нагадвае ў «annotatio»).

Дарэчы, у гэтым жа нумары, у «Дзённікавых згадках» Алеся Жука нечакана і ўсцешана адкрыў для сябе Далідовіча савецкага часу, які і тады годна трымаў удары ад самога Алеся Адамовіча за праявы нацыяналізму і групаўшчыны, ды вызначаўся ў прылюднай агрэсіўнай абароне Васіля Быкава ад наскокаў «генеральска-ветэранскай» аглаблёвай крытыкі (і не дома, а ў Маскве!). Аказваецца, мы шмат пра каго шмат чаго не ведаем, а ўжо дачасна, як пісаў Алесь Асташонак, людзей пранумаравалі...

У адрозненне ад Алеся Разанава, у **Васіля Жуковіча** літаратурнымі метадамі выяўлена тая аўтарская прастата і шчырасць, якой якраз дастаткова, каб стацца асновай для дабротных патрыятычных вершаў. Чытаць іх трэба пад настрой, да прыкладу, сугладны вось з гэтым, Васілёвым:

*Шэры асфальт.*
*Шэрыя гмахі.*
*Шэрае неба.*
*А ў небе майго настрою*
*Вясёлка грае.*

Заканчэнне публікацыі рыбных разваг і настрояў «Святлолускі» **Сяргея Рублеўскага** з будучай «кнігі для тых, хто любіць лавіць рыбу ўсім сэрцам», думаю, прыцягне не толькі завабленую аўтарам аматарскую публіку, але і значна шырэйшы гурт тых, хто адлоўлівае адметныя з'явы ў заціненай затоцы сучаснай нацыянальнай літаратуры. Прыцягальных і вартых твораў у нас не так і шмат, калі не сказаць: мала. Распавядальны, разняволены і лёгкачытэльны стыль дае аўтару магчымасць на больш паразумелы дыялог з чытачом. Мова Рублеўскага матчыная, свойская, смачная, шматзначная, а часам і наватворная . Вось, прабачаюся, як бы зацемка:

«Я плыву адзін уніз па Каспле і прывыкаю да поснай думкі: і ў рыбнай лоўлі, як і ў літаратуры, застаюся сам-насам са смерцю — гэта значыць у атуленні сапраўднай, скразной адзіноты. Выцягваю чарговага шчупака з прыбярэжнай яміны, нібы даволі вялікае апавяданне — нечаканае, непаўторнае. Сваё».

Даўно не выстаўляўся перад шырокім чытацкім колам паэт, адраджэнец і патрыёт з Баранавіч, мой даўні знаёмец, **Алесь Бакач.** Ужо даўно ён дзее добрыя беларускія справы, кіруючы «Творчым згуртаваннем «Святліца»», яднаючы там вакол сябе і айчыннай справы нацыянальныя маладыя сілы, здольныя для творчай і карпатлівай грамадскай працы. Вершы ў яго, як і ў кожнага вартага паэта, няроўныя, але жывыя і глыбокія. Пра гэта сведчаць і няпростыя прызнанні на публіку:

*Яшчэ рамантыкі імпэт*
*дзівачыць і гарэць натхняе,*
*яшчэ жыве ўва мне паэт.*
*...Ды гэта больш не наталяе.*
*Сам ад сябе плыву, бягу,*
*бо духу выспеламу цесна...*
*І звыш радзіцца не магу,*
*і ў грамадзе не маю месца...*

Вострасюжэтны, нераўнуючы як сцэнар фільма жахаў, «урывак з ненапісанага рамана» **Валеры Гапеева** «Мы нікому пра гэта не раскажам» (а ў памяці дадаюцца асацыяцыі: і «ніколі не забудзем», «толькі не гавары маёй маме»). Ну нешта так, калі таксама пусцісць лейцы маралі і адпавядаць цынічнасці і святатацтву аўтарскай мастацкай «карціны». Усведамляючы добрыя літаратурныя парыванні раманіста, прыкрасць ад прачытанага ўсё адно застаецца, як ікота пасля непераборлівага балявання. Пагодзімся, што мастацтва ўсё ж павінна ўражваць высокім. Гэта найперш. І толькі ў дыялектычным супрацьборстве (пошуку гармоніі) яно можа прыняжаць жывёльную чалавечую сутнасць на фоне Гасподняй усёдаравальнасці: не зло — над дабром, а дабро — над злом. Хоць сама проза, што тычыцца стылю і мовы, напісана на добрым узроўні... Нават не верыцца, што перад табой вядомы аўтар папулярнай прозы для школьнікаў і падлеткаў.

«Ён нечакана рэзка сеў на жывот манашкі ўсёй сваёй масай, як на мяшок з мукой. Жанчына хакнула і, здаецца, знепрытомнела. Дрон не звярнуў на гэта ўвагу, хапануў вялікія, яшчэ не звялыя грудзі.

— Бач, якія цыцкі, глядзі, Студэнт! Ну, калі сам падысці баішся, — пагрозліва загаварыў ён, памацаў другой рукой у сябе ў халяве бота і выцягнуў вялікі нож. Не звяртаючы ўвагі на кроў і цела, якое забілася пад ім, разануў яшчэ і яшчэ.

— Лаві, Студэнт!

Студэнт інстынктыўна злавіў кінутае яму, і яно тут жа выпала з дрыготкіх рук, а сам ён адыходзіў, спатыкаючыся, і, нарэшце, паваліўся назад, нібы раптоўна ап'янелы, пад дружны рогат.»

Вядома, гэта ўсяго толькі ўрывак. Урывак маёй чытацкай агіды. Але ж ведаю я і разнароднасць сучаснай чытацкай аўдыторыі. «Кожнаму — сваё». Ці не на варотах Асвенцыма тое было напісана?

Цяжка сказаць нешта істотнае пра нізку метафарычна нагрувашчаных вершаў **Зміцера Вішнёва** пад назовам «Скандынаўскі куфар». Падобным чынам выпадкова сабраныя ўзоры ў калейдаскопе глядзяцца, а часам і ўражваюць, значна мацней, бо ўсё ж маюць нейкую, хоць і хаатычную, але цэльную кампазіцыю, а тут усё паасобна — аўтар, словы, страфы, час... Магчыма, каб я быў у адпаведным аўтарскім стане — пад віскі і півам, на якія ў сваіх тэкстах спасылаецца аўтар, то магло б з'явіцца і адпаведнае паразуменне з паэтам.

Напісаныя газетным стылем у жанры добрага савецкага нарыса ўспаміны **Аляксандра Фядуты** пра маму (з будучай кнігі «Мой маленькі Парыж»), дакладныя асучаснення, яны нарэшце паказваюць нам вядомага літаратуразнаўцу і грамадскага дзеяча без белых плямаў... Цёплае, амаль сямейнае чытво. А скажы каму — не паверыць, што ўсё гэта напісана ў СІЗА № 1 КДБ РБ у 2011 годзе.

Паэт **Сяргей Прылуцкі** мне ўсё ж яснейшы за Зміцера Вішнёва, але пакуль яшчэ таксама не ўвесь прымальны. Зрэшты, мажліва, я перабіраю. Мажліва, у цяперашняй беларускай сітуацыі я і сам трошкі прылуцкі, бо таксама

*глядзець тэлевізар ці глядзецца*
*ў люстра —*
*не бачу ніякай розніцы...*

Але я ўсё ж навучыўся абыходзіцца з чытачамі без лаянкі і брутальнай лексікі. Раней, каюся, грашыў. Ды, даў Бог, прайшло. Пройдзе, думаю, і ў Прылуцкага. І не толькі ў яго. Каб не было ў старасці сорамна.

Шмат прыпозненай спавядальнасці (хоць з гэтым лепш позна, чым ніколі) ва ўспамінах **Алеся Усені** «Мой лістапад...», якія працягвае друкаваць часопіс. Часам здаецца: з гэтым бы да святара, перш чым да чытача. Аднак чытэльна і нярэдка павучальна, асабліва для маладзейшых, у якіх наперадзе свае памылкі і грэхападзенні. Праўда, замольваючы старыя правіны, хацелася б, каб аўтар не прыспешваў чарговых непаразуменняў, бо ці ж можна нават аддалена параўноўваць укрыжаванне Хрыста і турэмныя адсідкі Уладзіміра Някляева, на што Усеня, хоць і з дыпламатычнымі агаворкамі, наважыўся... Усё ж: Богу — Богава, а паэту — паэтава.

**Аказваецца, мы шмат пра каго шмат чаго не ведаем, а ўжо дачасна, як пісаў Алесь Асташонак, людзей пранумаравалі...**

Заслугоўвае ўвагі празаічны дэбют **Стаса Ільіна** (апавяданне «Off»), які збегам акалічнасцей апынуўся ў ЗША. Марудлівы, мулкі, задоўжаны літаратурны тэкст, па сутнасці бессюжэтны (чалавек сам у сабе, плынь свядомасці пэўным чынам не адарваная ад рэчаіснасці), нераўнуючы як тлумачэнні ў турыстычным дапаможніку. І ўсё ж нешта ў гэтай блытанай пісаніне ёсць. Нейкая стрэмка ў самай яе сэрцавіне. Найперш — сам задзіночаны чалавек. Ды і стыль для пісьменніка, які жыве за межамі роднай мовы, вельмі прыстойны. Трэба будзе прасачыць за літаратурным развіццём гэтага таленавітага хлопца...

**Лявон Баршчэўскі** пераклаў з арыгінала (старагрэцкай) на беларускую мову «Медэю» **Эўрыпіда.** Знакавая падзея для нацыянальнай літаратуры і асветы. Але ці часопісная гэта публікацыя? Ці не было магчымасці выдаць гэты шэдэўр сусветнай літаратуры асобнай кніжкай? Ды як бы ўжо ні было: віншуем шаноўнага перакладчыка з выхадам у людзі! А наколькі ўдалося захаваць мастацкую і фактурную аснову арыгінала, спадзяюся, неўзабаве скажуць больш дасведчаныя людзі.

Працягваецца публікацыя выбраных старонак дзённіка **Ніла Гілевіча.** Гэтым разам — «Год двухтысячны». Ёсць цікавыя запісы, ужо вядомыя нам падзеі, пададзеныя ў новых ракурсах, а таксама абсалютна суб'ектыўны погляд на іх.

І ўсё ж найбольшае задавальненне ад усяго прачытанага ў часопісе я атрымаў ад ужо ўпомненых вышэй дзённікавых згадак (1974–2000) Алеся Жука «Лісты абляцелыя» (зноў жа вылазіць няпрошаная асацыяцыя, на гэты раз з «Лісткамі календара»). Жыва, душэўна, без напускнога самавыпучэння, з неардынарнымі праявамі і характарыстыкамі творчых людзей і адпаведнага часу. І тут ад лірыкі да фізікі — адзін крок (ледзь не напісаў стрэл). Ад абароны годнасці Васіля Быкава да палявання на безабаронных качак... Адным словам — жыццё, якім яно насамрэч было... ёсць і будзе...

Дзённік 2010 года «Дні мае, падарункі» **Кастуся Цвіркі** — гэта своеасаблівая энцыклапедыя сучаснага вясковага жыцця ці, лепш сказаць, выжывання і даживання... Аўтар піша шчыра, безаглядна, без ашчаднасці да слова, але нярэдка забываецца пра чытача і пакідае апошняга з невядомымі людзьмі ў невядомым месцы...

Да ўсяго ў новым часопісе «Дзеяслоў»: артыкул **Анатоля Трафімчыка** «Раз абсеклі беларуса Маскалі ды Ляхі...» (пра падзел Беларусі 1921 года ў паэтычным асэнсаванні Янкі Купалы), тэкст **Аляксея Каўкі** пра Уладзіслава Сыракомлю (на памежжы ліцвінства-беларускасці), палемічныя запісы з Берліна пра авангарднае і класічнае мастацтва «Галопам па Еўропах» **Алеся Тарановіча** (Эроціка), чарговая гутарка **Андрэя Масквіна** з Ірынай Багдановіч пра нізкае і ўзвышанае ў паэзіі, размова **Кацярыны Безмацерных** з мастакамі-сямейнікамі Віктарам Нямцовым і Раісай Сіплевіч, артыкул **Леаніда Галубовіча** пра паэта Уладзіміра Марука, эсэістычныя развагі **Сяргея Астраўца** вакол кніжкі Аляксандра Лукашука «След матылька. Освальд у Менску».

Закрываецца нумар анатацыйнай рубрыкай «Дзеяпіс».

Як кажуць, дастаткова тэкстаў на розныя густы. Прыемнага вам чытання.

ПРЭМІІ

# ЛАЎРЭАТЫ ПУЛІТЦЭРАЎСКАЙ

**У Нью-Ёрку абвешчаныя лаўрэаты Пулітцэраўскай прэміі за 2012 год.**

Узнагароду ў намінацыі «Найлепшы драматычны твор» атрымала Квіяра Алегрыя Х'юдс за п'есу «Вада поўнай лыжкай», а лаўрэатам у галіне паэзіі стала Трэйсі К. Сміт са зборнікам «Жыццё на Марсе». Уладальнікам узнагароды ў музычнай катэгорыі названы Кевін Патс. Прэмія ў галіне мастацкай літаратуры не прысуджалася, што здарылася 11-ы раз у гісторыі і ўпершыню з 1977 года.

Напярэдадні абвяшчэння лаўрэатаў крытыкі называлі тры кнігі, якія нібыта ўвайшлі ў фінал прэміі ў галіне белетрыстыкі. Згадвалася кніга Дэвіда Фостэра Ўолеса «Бледны кароль» — раман, сабраны з дзённікавых запісаў пісьменніка, які скончыў жыццё самагубствам у 2008 годзе. Таксама прэмію прарочылі раманам «Свампландыя» Карэн Расэл і «Цягніковыя мары» Дэніса Джонсана.

Пераможцам у намінацыі «За служэнне грамадству» стала газета «The Philadelphia Inquirer». Выданне атрымала прэмію за шэраг матэрыялаў пра рост узроўню гвалту ў філадэльфійскіх школах. Адзначаецца, што публікацыі прывялі да рэформаў, закліканых узмацніць бяспеку школ.

Прэмію за найлепшае журналісцкае расследаванне атрымалі карэспандэнты «Accociated Press» і «Seattle Times». Журналісты «АР» былі ўганараваныя за рэпартажы пра нью-ёркскую паліцыю, супрацоўнікі якой у рамках барацьбы з тэрарызмам таемна сачылі за мусульманскай суполкай горада. Журналісты газеты з Сіэтла былі адзначаныя за серыю артыкулаў пра лячэнне цяжкахворых пацыентаў метадонам у штаце Вашынгтон.

У намінацыі «Аператыўны рэпартаж» перамогу атрымала выданне «The Tuscaloosa News» са штата Алабама за асвятленне наступстваў разбуральнага тарнада. Як адзначыў аргкамітэт прэміі, дзеянні рэдакцыі, якая, нароўні з традыцыйнымі крыніцамі, актыўна выкарыстоўвала магчымасці сацыяльных сетак, дапамаглі ў пошуках зніклых пасля тарнада людзей.

Прэмію за найлепшую рэпартажную фатаграфію атрымаў фотакарэспандэнт «Agence France-Presse» Масуд Хасайні, які зрабіў здымак дзяўчынкі, што выжыла пасля тэракту ў Кабуле. Для агенцтва гэтая ўзнагарода сталася першай за ўсю гісторыю ўручэння Пулітцэраўскай прэміі.

Пулітцэраўская прэмія, заснаваная ў 1917 годзе, з'яўляецца самай прэстыжнай прэміяй ЗША ў галіне журналістыкі. Урачыстая цырымонія ўручэння прэміі адбылася ў Нью-Ёрку 7 траўня.



Журналісты The Philadelphia Inquirer радыя прэміі

# «РУСКАЯ ПРЭМІЯ»

**У Маскве адбылося ўзнагароджанне лаўрэатаў міжнароднага літаратурнага конкурса «Руская прэмія» па выніках 2011 года.**

У намінацыі «Буйная проза» перамог «Маленькі турэмны раман» вядомага сучаснага расійскага пісьменніка — Юза Аляшкоўскага.

Другую прэмію ўручылі маладому празаіку з Аўстрыі Дар'і Вілька за раман «Міжсезонне». Трэцяе месца журы конкурса прысудзіла Лене Элтанг з Летувы — за раман «Іншыя барабаны».

Пераможцам у намінацыі «Паэзія» быў названы харкаўскі паэт Ілля Рысенберг за кнігу «Трэці з двух». Другім у паэтычнай намінацыі стаў Аляксей Цвяткоў (ЗША) з кнігай вершаў «Дэтэктар сэнсу». Трэцяе месца — у ізраільскага паэта Фелікса Чэчыка за зборнік вершаў «З жыцця фаўны і флоры».

Найлепшым у намінацыі «малая проза» стаў малады лаўрэат конкурса за 2011 год — пісьменнік з Германіі Дзмітрый Вачэдзін са зборнікам апавяданняў «Пыл». Другое месца журы прысудзіла Марыі Рыбаковай (ЗША) і яе раману ў вершах «Гнедзіч», які выйшаў у выдавецтве «Время». Трэцяе месца заняў Яўгеній Абдулаеў (Узбекістан) за аповесць «Год барана», напісаную пад псеўданімам Сухбат Афлатуні.

Спецыяльны прыз «За ўклад у развіццё і зберажэнне традыцый рускай культуры за межамі Расійскай Федэрацыі» быў уручаны Мікалаю Свяніцкаму — за шматгадовую культурна-асветніцкую дзейнасць, паглыбленне культурных сувязяў паміж Грузіяй і Расіяй, арганізацыю і правядзенне штогадовага Руска-грузінскага паэтычнага фестываля.

КАЛЕЙДАСКОП

# СУАЎТАР ШЭКСПІРА

**Драматург Уільям Шэкспір працаваў над п'есай «Усё добра, што добра заканчваецца», хутчэй за ўсё, у суаўтарстве з паэтам Томасам Мідлтонам.**

Як паведамляе BBC News, да такой высновы прыйшла група вучоных з Оксфарда, якая правяла лінгвістычны аналіз тэксту.

Па іх меркаванні, менавіта наяўнасцю двух аўтараў тлумачацца некаторыя неадпаведнасці ў п'есе, а таксама стылістычныя адрозненні. Па словах даследчыцы Лоры Магуайер, кандыдатура Мідлтона, сучасніка Шэкспіра, найбольш верагодная, паколькі ў п'есе сустракаюцца характэрныя для яго рыфмы, звароты і нават арфаграфія. Акрамя таго, у камедыі скарыстана слова «ruttish» (юрлівы, поўны пажадлівасці), якое на момант напісання п'есы сустракалася толькі ў творах Мідлтона.

Тым не менш, у даследчыкаў ёсць здагадка, што сусветна вядомы аўтар мог працаваць разам з драматургам Джонам Флетчэрам. Магуайер упэўненая, што камедыю пісалі два чалавекі, што было надзвычай распаўсюджанай з'явай напачатку XVI стагоддзя, аднак з-за вядомасці Шэкспіра імёны яго суаўтараў замоўчваліся.

Томас Мідлтон (1580–1627) жыў у Лондане, з 1620 года быў афіцыйным храністам горада. Ён вядомы як аўтар п'ес «Жанчыны, сцеражыцеся жанчын» і «Таемная падмена». З-за таго, што Мідлтон маладзей Шэкспіра, ён выкарыстоўваў больш сучасную арфаграфію, што таксама знайшло адлюстраванне ва «Усё добра, што добра заканчваецца», напісанай паміж 1601 і 1608 гадамі. Упершыню камедыя была выдадзена ў 1623-м.

# ВЯРТАННЕ «МАЛЕНЬКАГА ПРЫНЦА»

**Французскія спецыялісты выявілі арыгінальны рукапіс казкі Антуана дэ Сэнт-Экзюперы «Маленькі прынц». Пра гэта напісала газета «Le Figaro».**

Чарнавік знайшлі ў зборы прыватнага калекцыянера, які і не падазраваў, што з'яўляецца ўладальнікам такой каштоўнасці. Вызначыць рукапіс аўтарства Сэнт-Экзюперы дапамаглі супрацоўнікі аўкцыённага дома «Artcurial». Чарнавік «Маленькага прынца» ацанілі ў 40–50 тысяч еўра. Рукапіс прадалі «з малатка» 16 траўня.

Сэнт-Экзюперы неаднаразова перапісваў «Маленькага прынца». Канчатковы варыянт быў апублікаваны ў 1943 годзе. Знойдзены рукапіс, па ўсім, датуецца 1941-м годам і ўтрымлівае неапублікаваныя ўрыўкі з 17-й і 19-й частак твора.

У чарнавіку гаворка ідзе пра візіт Маленькага прынца на Зямлю — сёмую планету ў яго падарожжах. «Калі мы збяром усіх насельнікаў гэтай планеты побач: белых, жоўтых, чорных, дзяцей, старых, жанчын і мужчын, не мінуўшы нікога, усё чалавецтва змесціцца на Лонг-Айлендзе», — пісаў Сэнт-Экзюперы. Згадка выспы, на якой збольшага размешчаны Нью-Ёрк, па меркаванні экспертаў, даказвае, што менавіта там стваралася казка.

«Маленькі прынц» — самы папулярны твор Антуана дэ Сэнт-Экзюперы. У 1999 годзе французская газета «Le Monde» паставіла яго на чацвёртае месца ў спісе «100 кніг стагоддзя».

# ПАЛІЦЫЯ І АРХІЎ КАФКІ

**Ізраільская паліцыя звярнулася да Нацыянальнай бібліятэкі Ізраіля з просьбай аб дапамозе ў расследаванні справы па скрадзеных рукапісах Франца Кафкі. Як стала вядома газеце «Гаарэц», праваахоўныя органы спрабуюць высветліць, адкуль былі выкрадзены рукапісы, выяўленыя ў сакавіку 2012 года, і ці сапраўды яны належаць пяру Кафкі.**

Паліцыя мяркуе, што знойдзеныя дакументы маглі быць выкрадзены з дома Евы Хоффэ, адной з дачок Эстэр Хоффэ — сакратаркі Макса Брода, які, у сваю чаргу, быў сябрам і душапрыказчыкам Кафкі. Пасля смерці літаратара архіў Кафкі, які Брод адмовіўся знішчыць, перайшоў Эстэр. Яна часткова яго прадала ў Нямеччыну. Акрамя таго, Эстэр Хоффэ, як і яе дочкі, адмаўлялася ад публікацыі архіва, так што дакладна невядома, што менавіта там захоўвалася.

Частку архіва, змешчаную ў банках Цюрыха і Тэль-Авіва, «раздрукавалі» па рашэнні суда толькі ў 2010 годзе. Вядома, што некаторыя дакументы захоўваюцца і ў доме Евы — яна некалькі разоў заяўляла, што з-за размоў вакол архіва да яе спрабавалі пракрасціся рабаўнікі. У 2010 годзе Ева Хоффэ сказала, што сякія-такія дакументы (праўда, па словах яе адваката, не вельмі важныя) з яе кватэры ўсё-такі выкралі. Паводле заявы Хоффэ, злодзеі вынеслі кнігі, лісты і іншыя паперы. Тады ж паліцыя завяла крымінальную справу, пра ход якой нічога не было вядома.

Два гады назад Нацыянальная бібліятэка Ізраіля, якая выступае за захаванне культурных каштоўнасцяў на тэрыторыі краіны, запатрабавала перадаць ёй усе рукапісы, якія захоўваюцца ў Евы, каб пазбегнуць чарговага рабавання.

Паводле запавету Макса Брода, архіў павінен быць перададзены ў Нацыянальную бібліятэку, аднак сітуацыя ўскладняецца тым, што месца знаходжання запавета таксама невядомае. Мяркуецца, што дакумент таксама захоўваецца ў архіве ў сясцёр Хоффэ.

Цяпер супрацоўнікі бібліятэкі параўноўваюць выяўленыя рукапісы Кафкі з тымі, што захоўваюцца ў іх. Каментары паліцыі і адвакатаў Хоффэ атрымаць не ўдалося. Што менавіта знайшла паліцыя ў сакавіку 2012 года, таксама не паведамляецца…

# МУЗЕЙ ПАМУКА

**Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Архан Памук адкрыў у Стамбуле Музей нявіннасці.**

У музеі сабраныя рэчы, якія пісьменнік збіраў на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, вялікую частку з іх ён набыў у антыкварных крамах Стамбула.

Адкрыць музей старадаўніх рэчаў, якія б распавядалі пра рэальнасць мінулага, пісьменнік задумаў больш 15 гадоў назад. Пасля гэтага ў Памука нарадзілася ідэя стварыць раман «Музей нявіннасці», на старонках якога б апісваліся гісторыі, навеяныя набытымі на барахолках і блышыных рынках рэчах.

Памук распавёў, што яго музей не велічны — экспазіцыя прысвечана паўсядзённаму жыццю звычайных людзей з 1950 па 2000 гады. Раней пісьменнік прызнаваўся, што плануе ў музеі таксама выставіць свае карціны: у маладосці Памук хацеў стаць мастаком.

Музей планавалася адкрыць яшчэ ў 2008 годзе, аднак яго стварэнне ўвесь час адкладвалася. Апошнія гады Архан Памук, якога летась прызналі вінаватым у абразе турэцкага народа (пісьменнік у адным з інтэрв'ю заявіў, што ў Турцыі быў забіты мільён армян), жыве ў Гоа.

Над праектам музея Памук працаваў сумесна з групай архітэктараў, мастакоў і дызайнераў. Колькі сродкаў выдаткавана на рэалізацыю музея, невядома, але пісьменнік прызнаўся, што грошай, якія прысуджаюцца за Нобелеўскую прэмію (каля мільёна еўра), на музей не хапіла.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў «BBC News», «Le Figaro», «Гаарэц», lenta.ru, «Reuters», novostiliteratury.ru, «Associated Press», prajdzisvet.org і openspace.ru**

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 3 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**06.30** Існасць.
**07.00** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**07.10** Камедыя «Сем старых і адна дзяўчына» (СССР).
**08.30** Ранішняя хваля.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Відэафільм «Чэрыкаў: ціхая плынь над Сожам» цыклу «Зямля беларуская».
**09.50** Камедыйны серыял «Участак».
**10.55** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**11.25** Да цешчы на бліны.
**12.10** Медычныя таямніцы.
**12.40** Культурныя людзі.
**13.10** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**14.00** Час Саюза.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Мультфільм «Дзядзька Сцёпа - міліцыянер».
**15.50** Камедыя «Сем старых і адна дзяўчына» (СССР).
**17.30** Каробка перадач.
**18.05** Суперлато.
**18.55** Рамантычная камедыя «Як пазбавіцца хлопца за 10 дзён» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне. «Імперыя зману».
**22.20** Баявік «Моцны арэшак» (ЗША).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** «Фазэнда».
**11.45** АНТ прадстаўляе: «Брэйн рынг».
**12.45** «Смешарыкі. ПІН-код».
**13.15** Камедыя «Спортлато-82».
**15.00** Музычны фэст «КіВіН».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Музычны фэст «КіВіН». Працяг.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Дыханне планеты».
**21.40** Фільм «Законы прывабнасці».
**23.20** «Пражэктарпэрысхілтан».
**00.00** Фільм «На мяжы стаю».

### СТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-13». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.20** «Вялікі сняданак».
**11.00** Фільм «P.S. Я кахаю цябе». ЗША, 2007г.
**13.15** «Добры дзень, доктар».
**13.45** Фільм «Таямніца каралевы Ганны, або мушкецёры праз 30 гадоў». Расія 1993г. 2-я серыя.
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда».
**17.30** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Кобб». ЗША, 1994г.
**23.00** «Пякельная кухня».
**00.20** Фільм «Аднойчы». Ірландыя, 2006г.
**01.45** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

### Беларусь 2

**08.00** Размова са святаром.
**08.10** Прыступкі Веры.
**08.30** Таямніца душы.
**08.55** «Айцец Сергій». Дакументальны фільм («Беларусьфільм»).
**09.15** «Бі Муві. Мядовая змова». Анімацыйны фільм (ЗША).
**10.50** Тэлебарометр.
**11.00** Школа рамонту.
**12.05** Вышэй за дах.
**12.40** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.45** Бухта капітанаў.
**14.20** Чарадзейная казка «Руслан і Людміла» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**16.55** Кінаспробы.
**17.40** Драма «Дарагі Джон» (ЗША).
**19.40** «Смех з дастаўкай на дом». Канцэртная праграма (Расія).
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.45** Спорт-кадр.
**22.25** Камедыя «Кіруючы палётамі» (ЗША - Германія).
**00.30** Шоў «Суперінтуіцыя».

### Мир

**05.00, 04.10** Д/ф «Увесь гэты спорт».
**05.35** «Смачны свет».
**06.05** М/ф «Надзвычайнае даручэнне».
**08.15** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** «Эксперыментатары».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Ведаем рускую».
**10.10** «Даведнік».
**10.40, 00.40** М/ф «Народжаная Рэвалюцыяй».
**14.00** «Правілы жыцця».
**15.10** Ток –шоу «Яшчэ не разам».
**15.50, 21.00** Т/с «Херувім».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**00.10** «Паўночнікі».

### Discovery Channel

**05.00** Вокамгненныя катастрофы. Серыя 25.
**05.25** Вокамгненныя катастрофы. Серыя 26.
**05.55** Лабараторыя выбухных ідэй.
**06.50** Ланцужная рэакцыя.
**07.45** Як гэта ўладкавана?
**08.10** Як гэта зроблена?
**08.40** Экстрэмальная рыбалка. Серыя 2.
**09.35** Калі рыба атакуе. Серыя 2.
**10.30** Буянства тарнада.
**11.25** Лабараторыя для мужчын Джэймса Мэя. Серыя 4.
**12.20** Ланцужная рэакцыя.
**13.15** Круцей не прыдумаеш. Серыя 72.
**13.40** Круцей не прыдумаеш. Серыя 73.
**14.10** Горш быць не магло.
**14.35** Горш быць не магло.
**15.05** Discovery Channel выратаваў мне жыццё.
**16.00** Круцей не прыдумаеш. Серыя 66.
**16.30** Круцей не прыдумаеш. Серыя 67.
**17.00** Круцей не прыдумаеш. Серыя 68.
**17.30** Круцей не прыдумаеш. Серыя 69.
**18.00** Круцей не прыдумаеш. Серыя 70.
**18.30** Круцей не прыдумаеш. Серыя 71.
**19.00** Сапраўдныя аферысты. Вялікія стаўкі. Серыя 7.
**19.30** Сапраўдныя аферысты. Вялікія стаўкі. Серыя 8.
**20.00** Лабараторыя для мужчын Джэймса Мэя. Серыя 5.
**21.00** Ланцужная рэакцыя. Серыя 4.
**22.00** Круцей не прыдумаеш. Серыя 74–75.
**23.00** Экстрэмальная рыбалка. Серыя 4.
**00.00** Лесапавал на балотах. Серыя 9.
**00.55** Ланцужная рэакцыя. Серыя 4.
**01.50** Лабараторыя выбухных ідэй.
**02.45** Як гэта ўладкавана?
**03.10** Ствараючы будучыню.
**04.05** Спартовыя арэны чэмпіянату 2012. Серыя 1.

### Eurosport

**00.00** Аўтагонкі_: Сусветная серыя Рэно Бельгія - Гонка 1.
**00.30** Футбол: Эўра-2012. Агляд.
**01.30** Тэніс.
**02.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**09.30** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Кваліфікацыйны раўнд.
**10.15** Тэніс.
**11.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**12.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты чэмпіянат Францыі - Дзень 8.
**21.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**22.00** Веласпорт.

### Белсат tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 28 серыя.
**08.30** Калыханка для самых маленькіх.
**09.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.30** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.45** Два на два (тэледыскусія).
**10.15** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**10.30** Форум (ток-шоу).
**11.15** Маю правы (юрыдычная праграма).
**11.35** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.05** Калыханка для самых маленькіх.
**12.35** «Тэра постсаветыка. Габрэі ў Адэсе», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.20** «Таямніца Нарыльскага паўстання», дак. фільм, 2005 г., Украіна: ч. 1.
**14.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**15.00** «Блюз па-гаванску», маст. фільм, 2005 г., Іспанія–Францыя–Куба.
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «На поўных абаротах», серыял: 5 і 6 серыі.
**18.05** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**18.30** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**18.40** Два на два (тэледыскусія).
**19.05** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**19.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.55** «Піянеры зменаў. Іспанія», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**20.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.10** Фільматэка майстроў: «Русалка», маст. фільм, 2007 г., Расія.
**23.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**00.05** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.45** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 044) 755 66 48, Марына

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ___
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ___

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 _____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Кассир Всего ________

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ЗША: ГАМАФОБЫ МАБІЛІЗАВАЛІСЯ

**Словы Барака Абамы пра права сэксуальных меншасцяў на аднаполыя шлюбы мабілізавалі амерыканскіх экстрэмістаў-гамафобаў.**



Праваабаронцы і спецслужбы, якія займаюцца маніторынгам экстрэмізму ўнутры ЗША, налічваюць каля 20 радыкальных груповак, якія паслядоўна змагаюцца з так званай «гомасэксуальнай павесткай дня». Гэта не палітычныя ініцыятывы ў чыстым выглядзе, хаця ў 1996 годзе мела месца спроба стварыць нешта накшталт асобнай антыгееўскай партыі — «Амерыканцы за праўду пра гомасэксуалізм» (AFTAH). Аднак партыя так і не ўзнікла. Галоўныя фарматы дзейнасці антыгеяў, або, як іх яшчэ называюць, anti-LGBT (LGBT — лесбіянкі, геі, бісэксуалы, трансвестыты), — грамадзянскія асацыяцыі, фонды, даследчыя цэнтры, секты.

Сваім нараджэннем антыгеі, безумоўна, абавязаныя геям. Апошнія з пачатку 1970-х гадоў пайшлі ў наступ за свае правы па ўсяму фронту і сапраўды шмат чаго дабіліся ў галіне як мінімум фармальнага прызнання роўнасці правоў усіх грамадзян. Кансерватыўная Амерыка перайшла ў контратаку ў 1977 годзе ў Фларыдзе. Тут Аніта Браянт, папулярная амерыканская спявачка, а на той час прэс-сакратар фірмы па вытворчасці апельсінавага соку, пачала кампанію супраць адмены закона, які дазваляў дыскрымінацыю геяў. Кампанія, якая называлася Save Our Children, прагрымела на ўсе Злучаныя Штаты. Усе амерыканцы падзяліліся ў той час на дзве катэгорыі: на тых, хто п'е апельсінавы сок, — прыхільнікі Браянт, і на тых, хто яго байкатуе (ненавіснікі Save Our Children). Сваю варожасць да геяў Аніта тлумачыла тым, што нетрадыцыяналы не здольныя нарадзіць дзяцей і таму прадстаўляюць пагрозу.

Нягледзячы на шалёную папулярнасць руху Save Our Children, у пачатку 1980-х гадоў зорка Браянт закацілася. Яна развялася з мужам, пачала думаць пра самагубства і сышла з палітыкі. Аднак двух гадоў актыўнасці Save Our Children хапіла, каб запусціць канвеер рэпрадукцыі ваяўнічых антыгеяў. Эстафету ў Аніты перахапіла фундаменталісцкая хрысціянская групоўка Focus on the Family, у рамках якой быў сфармуляваны асноўны пастулат антыгееўскай філасофіі: «Геямі не нараджаюцца. Геямі робяцца».

На цяперашні момант антыгееўскі рух у Злучаных Штатах — комплексная з'ява, якая ўключае самыя розныя фракцыі, у тым ліку прадстаўнікоў палітычнага істэблішменту і царквы. Гэтая фракцыя змагаецца з гомасэксуалізмам у рамках прынятых прававых працэдур, не ставячы пад сумнеў факт, што LGBT — гэта частка амерыканскай нацыі, якая мае права на існаванне.

Паралельна існуе іншы сегмент руху anti-LGBT, які выступае за татальную фізічную ліквідацыю тых, хто не жадае быць гетэра.

У пошуках апраўдання генацыду антыгеі аперуюць самымі незвычайнымі тэорыямі. Так, заснавальнікі групоўкі Abiding Truth Ministries кажуць, што вайна з геямі — гэта працяг вайны з фашызмам. Менавіта гомасэксуалісты, па іх словах, кіравалі нацысцкай партыяй у Германіі.

Логіка забаўная, прынамсі таму, што адна з самых старых антыгееўскіх арганізацый у ЗША Concerned Women for America (CWA) у 1970-я гады развівала тэорыю пра тое, што ўсе геі — латэнтныя камуністы і агенты Масквы, таму барацьба з імі — фрагмент «халоднай вайны». Пасля калапсу СССР CWA апынулася ў стане крызісу жанру.

Таксама, як American Family Association (AFA), якая заўжды бачыла ў руху LGBT замах на запаветы хрысціянства, за якім, быццам, хаваюцца сіяністы. Пасля 9/11 вядучай ксенафобскай тэорыяй у ЗША замест антысемітызму стала ісламафобія. Адпаведна, галоўнымі спонсарамі амерыканскіх геяў, на думку гамафобаў, адразу сталі мусульмане. Гэта версія гучыць дзіўна з улікам жорсткасці заканадаўства супраць гомасэксуалістаў у краінах Усходу.

Затое ад палітычнай кан'юнктуры ніколі не залежалі антыгеі з Chriatian Rights — фундаменталісцкага флангу хрысціянскай грамады ЗША. Тут на геяў коса глядзелі па простай і старой, як свет, прычыне: яны не пасуюць біблейскім прынцыпам. Святар О'Ніл Дазі выдаў у 2008 годзе кнігу пра тое, што нетрадыцыйны сэкс блакіруе чалавечыя органы, якія адказныя за кантакт з Богам. Яшчэ далей зайшоў Дэ Мар, адзін з правадыроў асацыяцыі American Vision. Ён растлумачыў некалькі цытат з Бібліі як інструкцыю Бога — забіваць геяў.

Актыўна развіваецца тэорыя пра тое, што гомасэксуалізм — гэта псіхічная хвароба, якую можна вылечыць праз спецыяльны курс тэрапіі. Праўда, канчатковы дыягназ гэтай «хваробе» так і не паставілі. Так, ідэолагі групы Christian Anti-Defamation Commission мяркуюць, што гомасэксуалісты маюць нейкі нездаровы культ сэксу, што робіць іх паводзіны сацыяльна неадэкватнымі. Таму, калі не забараніць прапаганду LGBT, манія сэксуальнага геданізму ахопіць значную частку грамадства, якое стане нефункцыянальным. Больш за ўсё актывісты Christian Anti-Defamation Commission хвалююцца за войска, дзе з нядаўніх часоў могуць служыць «нетрадыцыяналы». Па іх словах, Амерыка не здольная больш перамагаць у войнах.

А вось нехта Ла Барбера — лідар згаданай вышэй AFTAH — з гэтым кардынальна не згодны. Ён лічыць, што гомасэксуалізм — гэта форма кепскай звычкі, кшталту курэння або алкаголю. У 2006 годзе AFTAH прафінансаваў нейкага медычнага прафесара Поля Кэмерана, адпаведна даследаванням якога ў Даніі мясцовыя гомасэксуалісты абодвух палоў жывуць у сярэднім на 24 гады менш за гетэрасэксуалаў. «Адкрыццё» ўзняла ўсю дацкую медычную супольнасць, якая сцвярджала, што даследаванні не маюць навуковай базы.

Пры ўсёй камічнасці дыскусіі антыгеёўскага андэграўнду ў Штатах эксперты заклікаюць ставіцца да яго ўсур'ёз. Па-сутнасці, гэта маргінальныя палітычныя супольнасці, адкуль можна чакаць чаго заўгодна. Так, у 2009 годзе сябра кангрэгацыі Faithful Word Baptist Church, якая вядомая сваімі антыгеёўскімі выхадкамі, быў арыштаваны ў горадзе Фенікс (Арызона) за спробу прабрацца ўзброеным на мітынг Абамы.

Фраза Абамы пра права гомасэксуалістаў на аднаполыя шлюбы дае групоўкам, падобным да Faithful Word Baptist Church, шанец пашырыць свой уплыў на грамадства. Відавочна, што тэма аднаполых шлюбаў стане адной з галоўных тэмаў выбарчай кампаніі. Рэспубліканцы будуць мабілізаваць электарат супраць Абамы менавіта па гэтаму пытанню, і радыкальныя ксенафобскія тэорыі могуць атрымаць выхад на вялікую аўдыторыю.

Антыгеі падчас кампаніі могуць прасунуцца ў структуры рэспубліканцаў. Варта ўзгадаць, што ў 1980 годзе шмат сябраў на той час распушчанай Save Our Children падтрымалі кандыдатуру Рональда Рэйгана і, спекулюючы на геёўскай тэматыцы, зрабілі вялікі ўнёсак у яго перамогу. Такім быў Гары Баўэр, які пасля перамогі Рэйгана стаў адным з самых высокіх чыноўнікаў у адміністрацыі прэзідэнта. Цяпер Баўэр кіруе цэнтрам Heterosexuals Organized for a Moral Environment, які штурхае ідэю пра тое, што кожны гомасэксуаліст у душы марыць забіць хаця б аднаго гетэрасэксуала.

Яшчэ больш эксперты баяцца гіпербалізацыі пытання, калі перамога Абамы будзе трактавацца ангы-геямі як фатальная катастрофа, пралог наступлення ледзь не канца свету. Пакуль, здаецца, лагер anti-LGBT на такі сцэнар фінальнай бітвы і арыентуюцца. На першым сумесным пасяджэнні лідары заявілі, што перамога Абамы з яго аднаполымі шлюбамі — гэта «Тарнада, што разбурыць Амерыку».

**Фраза Абамы пра права гомасэксуалістаў на аднаполыя шлюбы дае групоўкам, падобным да Faithful Word Baptist Church, шанец пашырыць свой уплыў на грамадства**



## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Паказальна, што самі беларускія бізнэсмэны ўсё часцей аддаюць перавагу таму, каб інвеставаць за мяжой. Беларускія бізнэсмэны ведаюць: іх улады часта мяняюць заканадаўства, у тым ліку падатковае, «кошмарят» бізнэс пазапланавымі праверкамі, навязваюць планы па вытворчасці і экспарту прадукцыі (не выканаеш — можаш пазбавіцца абяцаных падатковых ільготаў), не даюць без дазволу кантралюючых органаў праводзіць скарачэнні працоўных месцаў і г. д. Плюс да ўсяго бізнэс павінен быць гатовы да палітычных рызыкаў: нядаўнія санкцыі ЕС у дачыненні да «кашалькоў» Лукашэнкі паказалі, што папакутаваць могуць і лаяльныя яму бізнэсмэны.

**«Независимая газета», (Расія)**

Замест Вашынгтона месцам першага афіцыйнага візіту Уладзіміра Пуціна стане Мінск. Такое рашэнне мае вялікае сімвалічнае значэнне. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які апынуўся ў дыпламатычнай ізаляцыі і атрымаў тытул «апошняга дыктатара Еўропы», рады прыняць свайго расійскага калегу. У Масквы няма сапраўдных сяброў, а толькі дзяржавы-кліенты, якіх прыцягвае яе танны газ. Крэмль не здолеў аднавіць свой уплыў у Кіеве, у выніку чаго цяпер ён робіць стаўку на Беларусь і Казахстан для стварэння эканамічнага і палітычнага блока. Тым не менш, яны не могуць даць яму ні новых тэхналогій, ні перспектыў эканамічнага росту.

**«La Tribune» (Францыя)**

Новы «лепшы сябар» Лукашэнкі — Кітай. Калі нейкі час таму Расія была галоўным і асноўным спонсарам і філантропам, то зараз Бацька адчуў сябе больш вольна — Кітай не стамляецца ўкладаць у Беларусь мільярды. Крэмль у выніку патрапіў у складанае становішча. З аднаго боку, не жадае, каб непрадказальная рэспубліка ў плане эканомікі стала пракітайскай. З іншага — колькі было канфліктаў якраз у гэтай сферы паміж Мінскам і Масквой, аж да «малочных» і іншых гандлёвых войнаў.

**«Свободная пресса» (Украіна)**

Эксперты мяркуюць, што Лукашэнка можа ўсё ж выканаць сваё абяцанне і вызваліць палітвязняў па амністыі да Дня рэспублікі, які адзначаецца 3 ліпеня. Інакш навошта пачынаць гаворку пра новыя праграмы з ЕБРР і МВФ. Да таго ж, улады, верагодна, усведамляюць, якія пагрозы ў сярэднетэрміновай перспектыве чакаюць нацыянальную эканоміку.

**«Газета.Ру» (Расія)**

Ацэнка беларускіх актываў падпадае пад сумнеў большасці аўтарытэтных экспертаў, паколькі лічбы ўжо балюча моцна завышаныя, у той час як уласна прадпрыемствы, як правіла, нічога асаблівага сабой не ўяўляюць. Некаторую каштоўнасць з пункту гледжання інвестараў уяўляюць добрасумленныя і кваліфікаваныя кадры, якія працуюць на гэтых прадпрыемствах, і толькі. Тым не менш, у Беларусі сур'ёзна спадзяюцца, што «новы» расійскі прэзідэнт мае намер актывізаваць перамовы пра прыватызацыю. На тых жа «бязмежных» умовах — без кантрольнага пакета акцый і іншых гарантый. Усё ж, наша братэрская рэспубліка — дзіўная краіна! У тым ліку, дзіўная і беспрэцэдэнтным нахабствам свайго кіраўніка.

**«Хорошие новости» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ШВЕЙЦАРЫЯ. ТРАСЯНКА ЛЕГАЛІЗАВАНАЯ

Швейцарскі парламент даў згоду на афіцыйнае выкарыстанне мясцовага варыянта нямецкай мовы. Швейцарская нямецкая мова — гэта нешта накшталт нашай трасянкі, калі нямецкія словы гучаць з мясцовай афарбоўкай. Напрыклад, вядомы нямецкі «грус» (прывітанне) вымаўляецца як «грузі» і г.д. Першымі права размаўляць на дыялекце атрымалі дэпутаты. Цяпер, выступаючы на трыбуне, ім не трэба гвалціць сябе, размаўляючы на літаратурнай нямецкай мове. Аднак гэтым справа не абмяжуецца. Партыя «Дэмакратычны саюз цэнтра» (UDC) у кантонах, дзе яна фармуе мясцовы ўрад, ужо пачала ўводзіць «трасянку» ў дашкольныя ўстановы. Валоданне гэтым дыялектам стала абавязковым для настаўнікаў. Дарэчы, у тым ліку гэты праект накіраваны супраць эміграцыі з Германіі. Шматлікія немцы ў пошуках лепшай працы і заробку ахвотна едуць жыць ў Швейцарыю.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. СТАНЦЫЯ МЕТРО ІМЯ НАЦЫЯНАЛІСТА

Татарскія нацыяналісты пачалі кампанію за тое, каб адна са станцый казанскага метро насіла імя Батырша. Батырша (сапраўднае імя Абдула Аліеў) — адзін з лідараў паўстання ўральскіх народаў супраць Масквы ў 18-м стагоддзі, якое праходзіла пад лозунгамі джыхаду. Пасля здушэння паўстання, Батырша даставілі ў Санкт-Пецярбург, дзе ён уступіў у інтэлектуальнае ліставанне з імператрыцай Елізаветай, вынікам чаго было рашэнне ўладаў вырваць паўстанцу ноздры і адправіць у Шлісельбургскую крэпасць на пажыццёвае зняволенне. Там Батырша пачаў спрэчку з праваслаўнымі святарамі, і нават даў згоду на пераход у хрысціянства, калі тыя здолеюць даказаць перавагу хрысціянскай рэлігіі над ісламам. Спрэчка скончылася тым, што турэмшчыкі вырвалі Батыршу язык. Ён пяць гадоў пакутаваў у зняволенні, але скончыць сваё жыццё ў рабстве не захацеў. У ліпені 1762 годзе ён схапіў сякеру, якую забылі ў яго камеры, і кінуўся на ахоўнікаў. У сутычцы Батырша забіў чатырох ахоўнікаў і загінуў сам. Для цяперашніх татарскіх нацыяналістаў Батырша — гэта культавая фігура. Заўважная кампанія за назву станцыі ў гонар Батырша сведчыць, на думку шмат каго, пра правал тактыкі працы ўладаў з нацыяналістамі. Раней былі зачыненыя нацыянальныя татарскія цэнтры, якія арыентаваліся на турэцкую мадэль незалежнага Татарстану. З-за знішчэння рэфармісцкай апазіцыі татарскі нацыяналізм стаў больш схіляцца да ісламскіх лозунгаў.

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. ГРАМАДСКАСЦЬ СУПРАЦЬ ПАСКЕВІЧА



Украінская грамадскасць пратэстуе супраць рашэння палтаўскай абласной адміністрацыі адсвяткаваць 230-ю гадавіну нараджэння земляка — Івана Паскевіча. Паскевіч, які нарадзіўся ў маі 1782 года ў Палтаве, увайшоў у гісторыю як набліжаная да імператара Мікалая I асоба. Паскевіч праводзіў у жыццё агрэсіўную каланіяльную і паліцэйскую палітыку. Так, ён «праславіўся» здушэннем паўстання 1830–1831 гадоў і арыштам сяброў Кірала-Мефодыеўскага таварыства ў 1847 годзе. Сітуацыя яшчэ больш абсурдная, паколькі святкаванне юбілею нараджэння фельдмаршала пройдуць на фоне сумеснага польска-ўкраінскага чэмпіянату Еўра–2012. Між тым, мясцовыя рэгіяналы, якія з'яўляюцца ініцыятарамі ўшанавання, кажуць, што апісаны вышэй партрэт Паскевіча не верны. Быццам, ён быў тайным украінафілам, а штурм Варшавы разглядаў як працяг святой справы сваіх дзедаў, казакоў Багдана Хмяльніцкага.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІРАН. ЗБІТЫ БЕСПІЛОТНІК СТАЎ ЦАЦКАЙ

У іранскія крамы дзіцячых тавараў паступіла новая цацка. Гэта зменшаная мадэль беспілотнага амерыканскага самалёта RQ–170 Sentinel, або, як яго яшчэ часта называюць, «дрона», які быў збіты ў мінулым снежні, калі самалёт шпіёніў у іранскім небе. Гэта навіна выклікала выбух нацыяналізму і патрыятызму, які, як бачым, дакаціўся да вытворчасці цацак. Цікава, што ў «дроны» прапануецца гуляць не толькі хлопчыкам, якім гэта тэма больш блізкая. Асобная партыя патрыятычных цацак распрацаваная для дзяўчынак. Гэтыя «дроны» больш элегантныя і пафарбаваныя ў гламурны ружовы колер.

**Паводле французскай прэсы**



ЦІКАВА




# КОМІКА Ў ПРЭМ'ЕРЫ!

**Алег НОВІКАЎ**

**Эканамічны крызіс даў шанец несістэмным палітыкам, якія на вачах мяняюць палітычны пейзаж у Еўропе. Апошняй сталася Італія, дзе ва ўладныя інстытуты ўпершыню прыйшлі прыхільнікі коміка Бепе Грыла.**

У маі ў два этапы на Апенінах прайшлі муніцыпальныя выбары. Усяго абіралася мясцовае самакіраванне ў 118 камунах, дзе пражывае прыкладна 4,5 мільёна чалавек. У тым ліку мэраў абіралі такія буйныя метраполіі, як Генуя, Парма, Палерма і іншыя.

Фонам для выбарчай кампаніі была нядаўняя адстаўка Берлусконі, за якім цягнецца цэлы шлейф скандалаў і афер, што значна падарвалі аўтарытэт яго партыі «Народ свабоды». Крызіс перажывае і другая найбольш моцная правая партыя ў Італіі — «Ліга Поўначы». Яе правадыр Умберта Босі таксама пайшоў на палітычную пенсію, калі высветлілася, што ён крадзе грошы з партыйнай касы.

Нядзіўна, што згаданыя партыі аказаліся галоўнымі лузерамі майскага галасавання. Найбольш пацярпела «Ліга Поўначы», якая, як вядома, выступае за федэралізацыю краіны. Ліга страціла ў першым туры 67 працэнтаў сваіх выбарцаў у параўнанні з выбарамі 2010 года. Ва ўсіх муніцыпалітэтах, дзе праходзілі выбары і пасады мэра займалі «легісты», змяніўся бургамістр. Моцна прасела і партыя «Народ свабоды».

У выніку купоны стрыгла левацэнтрысцкая апазіцыя з Партыі дэмакратаў і блізкая да хрысціян партыя «Італія за каштоўнасці». Аднак галоўнымі пераможцамі сталі не яны, а так званыя бепісты. Так у Італіі называюць актывістаў партыі «Рух пяці зорак», створанай вядомым комікам і блогерам Бепе Грыла. Рух выйшаў на палітычную сцэну некалькі гадоў таму падчас крызісу левай апазіцыі і разглядаўся шмат кім як нейкая артыстычная правакацыя. Мала хто верыў, што нехта можа ўсур'ёз галасаваць за фармацыю, якая заклікае да ўвядзення сістэмы электроннай дэмакратыі.

Праграма «Руху пяці зорак» базуецца на пяці тэмах — супраць прыватызацыі воднай сістэмы і каналізацыі, за публічны транспарт, развіццё інтэрнэту, экалогію.

Сёння да ініцыятывы Бепе ставяцца больш чым сур'ёзна. У цэлым кандыдаты ад «Руху пяці зорак» атрымалі салідныя 9 працэнтаў. Акрамя таго, «Рух пяці зорак» здолеў перамагчы ў шэрагу муніцыпалітэтах. Відавочна, самы вялікі поспех бепістаў меў месца ў Парме — буйным індустрыяльным цэнтры. Тут кіраўніком мэрыі абраны Федэрыка Піцароці. Ён атрымаў 60 працэнтаў галасоў і лёгка абышоў свайго галоўнага канкурэнта-дэмакрата, які набраў 39 працэнтаў. Бепісты таксам прыйшлі да ўлады яшчэ ў двух гарадах. глабальным сэнсе «Рух пяці зорак» стаў трэцяй па папулярнасці партыяй у краіне.

Калі б Бепе і яго паплечнікі атрымалі такую перамогу яшчэ год таму, гэта было б успрынята адназначна як прагрэсіўная з'ява. Перш за ўсё, яе б трактавалі як правал папулісцкай палітыкі Берлусконі, чыім крытыкам быў Бепе. Даставалася ад сатырыка і Уладзіміру Пуціну, блізкаму сябру Сільвіа. Аднак цяпер прагрэсіўны друк больш асцярожна ўспрымае ўздым «Руху пяці зорак».

Дастаткова самага павярховага аналізу электаральнай статыстыкі, каб зразумець, што касцяк тых, хто галасаваў за Бепе, склалі былыя выбарцы «Лігі Поўначы» і «Народу свабоды» — багаты сярэдні клас. Яшчэ адна катэгорыя электарату «Руху пяці зорак» — людзі, якія шукалі сродак паказаць дулю ўладзе. Раней бы яны папросту не пайшлі на выбарчыя ўчасткі. Дарэчы, на гэтых выбарах быў зафіксаваны рэкордны пасля вайны ўзровень абсентэізму — 36 працэнтаў. Аднак цяпер аматары лозунгу «супраць усіх» знайшлі больш правакацыйную форму пратэсту — аддаць голас за прыкольшчыка Бепе і яго кампанію.

Жарты ў сеньёра Грыла сапраўды па той бок палітычнай карэктнасці. Так, падчас мітынгу ў Сіцыліі ён заклікаў дзяржаву да таго, каб браць прыклад з мафіі, якая, як вядома, вельмі паважліва ставілася да сям'яў, прадстаўнікоў якіх забівала, і абавязкова дасылала ім піцу на свята.

Ёсць, праўда, і сур'ёзныя сацыялагічныя тэорыі. Яны тлумачаць феномен Грыла з'яўленнем новага падвіду выбарцаў — «электарат спажываючы». Гэтыя людзі перанеслі на палітыку забабоны масавай культуры і інстынктыўна жадаюць, каб яна будавалася па канонах серыялу або драмы. Інакш кажучы, выклікала элемент інтрыгі і эмацыйнага задавальнення.

У выніку партыя Бепе чымсьці нагадвае палітычных шарлатанаў, якім палітычную філасофію замяняе голы папулізм.

Напрыклад новы мэр Пармы, па прафесіі банкаўскі служачы, так характарызуе сваё палітычнае крэда: «Я просты нармальны чалавек, як і ўсе. Таму ў мяне ёсць магчымасць весці дыялог з усімі грамадзянамі».

З іншага боку, шмат хто верыць, што пачатковы левы складнік руху не дасць яму ператварыцца ў тусоўку папулістаў. Так, адзначаюць, што Бепе добра пазіцыянуе сябе як эколаг. Як піша адна з газет, яго экалагічная платформа добра пасуе каштоўнасцям і запытам сярэдняга класа, што трымае дыстанцыю ад традыцыйнага экалагічнага руху, які марыць зачыніць усе АЭС і забараніць змываць ваду ва ўнітазе для выратавання прыроды. Вядома, што Бепе мае добрыя кантакты з рухам M15 у Іспаніі, які пратэстуе супраць палітычнай карупцыі. M15 — або, як іх яшчэ называюць, «незадаволеныя» (indignados), — прытрымліваецца левых радыкальных поглядаў. Нарэшце, Бепе застаецца бясспрэчным спікерам руху, і пакуль яму належыць апошняе слова.

Праўда, кожны можа пачуць у прамовах Бепе тое, што хоча. Некаторым падабаецца, як Грыла на сваіх мітынгах, якія больш нагадваюць эстрадныя выступы актораў размоўнага жанру, высмейвае Берлусконі і яго клан. Іншым — тое, як сатырык атакуе еўрапейскіх тэхнакратаў і сістэму адзінай еўрапейскай валюты. А магчыма, камусьці будуць даспадобы словы, якія Бепе сказаў пасля апошніх выбараў: «Уся ваша палітыка ў мяне ў дупе».

Цяпер усе чакаюць, чым закончацца выбары ў парламент, прызначаныя на вясну 2013 года. Між тым, калегі Бепе па сатырычнаму цэху ўжо зараз жартуюць, што краіна імкліва рушыць ад «Бунга-бунга» (так празвалі Берлусконі за яго скандалы з удзелам чарнаскурых прастытутак, якіх у Італіі называюць «бунга-бунга»), да мадэлі «Бепе-Бепе».

МЕРКАВАННЕ

# ГУЛЬНІ З ПРАЛЕТАРЫЯТАМ

**18 мая Уладзімір Пуцін прапанаваў заняць пасаду паўнамоцнага прадстаўніка прэзідэнта ва Уральскай Федэральнай Акрузе начальніку цэха Уралвагоназаводу Ігару Халманскіх. Апошні праславіўся на ўсю краіну, калі падчас «прамой лініі» з Пуціным прапанаваў пад'ехаць «з мужыкамі» ў Маскву і разагнаць мітынгі апазіцыі. Пра тое, нашто Пуціну фліртз рабочымі, журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з расійскім палітолагам Дзмітрыем Касценкам.**



***— Навіна пра прызначэнне Халманскіх стала сенсацыйнай, хаця яшчэ падчас выбараў адзначалі левы дрэйф у прапагандзе Пуціна.***

— У левых нават быў такі тэрмін — «левы паварот Пуціна». З пункту гледжання палітычнай тактыкі ўсё выглядала вельмі лагічна, паколькі ў апазіцыі тон задавалі лібералы, прычым лібералы правыя. У правінцыі, дзе моцныя стыхійныя левыя настроі, сталічныя пратэсты падтрымалі не актыўна. А ўлічваючы, што па ўсіх апытаннях грамадскай думкі грамадзяне Расіі схільныя падтрымліваць левы папулізм, такі манеўр стаў для ўлады проста выратавальным.

Аднак пры гэтым ніхто з левых аналітыкаў не прагназаваў, што Пуцін працягне выкарыстоўваць гэтую тэму. Лічылася, што ў доўгатэрміновай перспектыве такі нумар не спрацуе, паколькі сацыяльная палітыка Крамля вельмі супярэчлівая. Пуцін абяцае, што сацыяльныя выдаткі не будуць скарачацца, але не прапануе змяняць агульны трэнд, накіраваны на скарачэнне сацыяльнай сферы. Ён прызнае адказнасць дзяржавы за развіццё сістэмы адукацыі, але прапануе рабіць гэта пераважна за кошт прыватнага сектару. Тагачасны прэм'ер-міністр крытыкаваў алігархаў, але ніколі не казаў пра прагрэсіўны падаходны падатак. І ўжо абсалютна супярэчыла вучэнню Маркса ідэя Пуціна пра неабходнасць стварэння лаяльнай да ўлады рабочай арыстакратыі.

***— Аднак у выніку, як сведчыць справа Халманскіх, Пуцін, здаецца, не збіраецца адмаўляцца ад іміджу палітыка, які абапіраецца менавіта на рабочы клас. Як правіла, расійскія СМІ тлумачаць класавую лінію Пуціна тым, што ён канчаткова страціў давер у абедзвюх сталіцах, і ўвогуле сярод сярэдняга класу і моладзі.***

— Такая ідэя належыць былому міністру фінансаў Кудрыну, які адным з першых пракаментаваў навіну пра прызначэнне Халманскіх. Гэта думка карыстаецца падтрымкай у ліберальных колах. Некаторыя нават пішуць, што Пуцін вырашыў звярнуцца да метадаў бальшавізму. Аднак «кар'ерны ліфт» для аднаго чалавека — не значыць сістэмнай змены іміджу і філасофіі рэжыму. У гэтым можна лёгка пераканацца, калі паглядзець на ўральскія інфармацыйныя рэсурсы. Нават на радзіме Халманскіх не ўспрымаюць як рабочага: ён кіраўнік цэху. Прызначэнне разглядаюць як выказванне цэнтрам асабістай падзякі рэгіёну за актыўную падтрымку на выбарах. Не дарма раней той жа завод атрымаў вялікі дзяржаўны заказ. Нават тагільскія фанаты Халманскіх не бачаць тут перамогі рабочага класу. Яны пішуць патрыятычныя каментары накшталт: «Тагіл, наперад!». Блізкія да ўлады СМІ таксама заклікаюць не рабіць акцэнт на класавым паходжанні Халманскіх, які, дарэчы, пачынаў як грузчык. Яны нагадваюць пра тое, што большасць цяперашніх лібералаў прыйшлі ва ўладу ў 1990-я гады з лабараторый і кафедраў ВНУ, напрыклад, той жа Чубайс.

***— Якая тады матрыца кадравай рэформы на Урале?***

— Гэта, хутчэй, пасланне прэзідэнта да эліты, а дакладней, да той яе фракцыі, якая не вельмі задаволеная вяртаннем Пуціна ў Крэмль. Быццам, прадстаўнікі гэтай фракцыі нават негалосна падтрымлівалі апошнія апазіцыйныя маніфестацыі ў сталіцы. Сапраўды, шмат хто не верыў, што Пуцін вернецца на трэці тэрмін. Перавод правінцыяла Халманскіх на пасаду прадстаўніка прэзідэнта — гэта ясны знак таго, што Пуцін, у выпадку далейшай фронды, можа лёгка абнавіць цэнтральны апарат новымі людзьмі, якія будуць цалкам адданыя яму. І гэта было б лагічным працягам сённяшняй тэндэнцыі, калі вертыкаль проста ператвараецца ў паслухмяных выканаўцаў волі прэзідэнта. Пра што сведчыць дастаткова шэры склад новага ўраду? Пра тое, што здзейсніцца плаўны пераход ад тэхнічнага прэм'ера да ніякага. Па фігурах міністраў зусім відавочна, што кадравая палітыка ў Расіі становіцца ўсё больш прымітыўнай. А нашто ва ўрадзе яскравыя фігуры, калі краінай 5 гадоў рулiў ніякі Дзмітрый Анатольевіч! Руліў — і быццам нічога не здарылася. Досвед з пасадкай у Крэмль муляжа паказаў, што краінай цалкам можна кіраваць пры любых чыноўніках.

***— Як паставілася да прызначэння Халманскіх Кампартыя, якая пазіцыянуе сябе ў якасці галоўнага абаронца інтарэсаў працоўных мас?***

— Камуністы правялі круглы стол, на якім пастанавілі, што кар'ерны рост Халманскіх не звязаны з тым, што ён вядомы рабочы. Яго прозвішча асацыюецца з цалкам зразумелымі, вельмі агрэсіўнымі заявамі ўлады ў дачыненні да любых людзей, якія маюць іншы пункт гледжання. Гэта значыць, такім чынам, на іх погляд, супрацоўнікам адміністрацыі пасланы відавочны сігнал, хто сёння ў фаворы. Прызначэнне Халманскіх, на думку камуністаў, звязана з апошнімі ініцыятывамі з нагоды закона пра мітынгі, дзе прадугледжваюцца фантастычныя штрафы для людзей, якія парушаюць і так не вельмі ліберальныя правілы правядзення масавых мерапрыемстваў.

***— Як увогуле ставіцца расійскі рабочы клас да Пуціна?***

— Вельмі супярэчліва. З аднаго боку, вялікая частка рабочых удзячная Пуціну за нейкую стабільнасць. Асабліва тыя, хто памятае пачатак 1990-х гадоў, калі вытворчасць амаль перастала працаваць і рабочыя перабіваліся спекуляцыяй, падпрацоўвалі ў камерцыі, ішлі ў крымінал. З іншага боку, рабацягі традыцыйна ненавідзяць службоўцаў усіх узроўняў, падазраючы іх у карупцыі. Адсюль невысокі рэйтынг папулярнасці партыі «Адзіная Расія» практычна ва ўсіх буйных індустрыяльных цэнтрах, уключаючы, дарэчы, і Ніжні Тагіл. У дадатак улада сама баіцца росту класавай свядомасці на прадпрыемствах, што прывядзе да радыкалізацыі прафсаюзаў і затармозіць камерцыялізацыю сацыяльнай сферы, сектару ЖКГ. Таму стаўка Пуціна на гегемона можа мець толькі візуальны і кароткатэрміновы эфект у выглядзе штучных мітынгаў для тэлебачання. Але ў будучыні нават такая «актыўнасць» рабочых пагражае палярызацыяй грамадства, што і самому Пуціну як гаранту стабільнасці наўрад ці патрэбна.

***— Калі гегемон не дапаможа, што можа яшчэ зрабіць Пуцін, каб атрымаць у вачах грамадства статус усенароднага прэзідэнта?***

— Мяркую, Пуцін паспрабуе замяць канфрантацыю са сталічнай публікай і інтэлігенцыяй, нeяк пашырыць свой сегмент падтрымкі. Для гэтага дастаткова адправіць у адстаўку Мядзведзева, які пры ўсіх мінусах і камічнасці сваёй фігуры лічыцца нефармальным сімвалам крамлёўскай ліберальнай групы. А на вольную вакансію прэм'ера можна запрасіць нейкага палітыка — прадстаўніка так званай «крывавай гэбні» кшталту Сяргея Іванова. У такім выпадку ліберальная публіка будзе з менш аўтарытарнага Пуціна парушынкі здзімаць.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### КАРАЛЕВА САФІЯ

Сафія адпомсціла за іспанцаў, чый гонар зняважаны брытанцамі. Размова пра намер брытанскага прынца Эдварда і яго жонкі наведаць Гібралтар у ліпені ў рамках урачыстасцяў з прычыны 50-й гадавіны каранацыі Елізаветы Другой. Іспанскі МЗС у спецыяльнай заяве назваў будучы візіт Эдварда «несяброўскім і незразумелым» крокам. Фактычна, Мадрыд даў зразумець, што не адмаўляецца ад намеру вярнуць сабе Гібралтар, які з пачатку XVIII стагоддзя належыць Вялікабрытаніі. Цяпер лінію на канфрантацыю працягнула іспанская каралева. Сафія адмовілася ўдзельнічаць у ланчы, які Елізавета Другая арганізавала 22 мая. Па словах манарха, «удзел у мерапрыемстве (ланч у Лондане) немагчымы з улікам цяперашняй сітуацыі». Жэст Сафіі нарабіў скандалу, хаця англічанам не прызвычайвацца. У 1981 годзе іспанская каралеўская сям'я з-за Гібралтара байкатавала вяселле Дыяны і Чарльза. Цяпер усе гадаюць, што яшчэ прыдумае Іспанія ў ліпені, калі Эдвард паедзе на Гібралтар. Варта ўзгадаць, што ў выбарчай праграме кансерватараў, якія прыйшлі да ўлады ўвосень, прысутнічае абяцанне вярнуць Гібралтар Іспаніі.

### СЕСІЛЬ ДЗЮФЛО



Сакратар французскай партыі «Еўропа—Экалогія—Зялёныя» (EELV) абараняе права насіць любімае адзенне. Усё пачалося 15 мая, калі Франсуа Аланд, прэзідэнт Францыі ад партыі сацыялістаў, прызначыў новы ўрад пад кіраўніцтвам Жан-Марка Эро. У яго склад таксама ўвайшлі прадстаўнікі Зялёных у асобе Сесіль. Яна будзе адказаць за міністэрства тэрыторый і жылля. З'яўленне Сесіль Дзюфло на першым пасяджэнні кабіміну стала прычынай скандалу. Сесіль прыйшла на сход калег-міністраў у джынсавым адзенні. Гэта выклікала абурэнне ў асяроддзі кансерватараў. Так, Надзін Марано, былы міністр папярэдняга правага ўраду, абвінавaціла Сесіль у тым, што апрануты ў джынсы міністр не мае права прадстаўляць Французскую Рэспубліку, і ўвогуле гэта праява кепскага густу. Са свайго боку Сесіль кажа, што джынсавы стыль найбольш пасуе праграме новага ўраду, які намагаецца абараняць прынцыпы сацыяльнай справядлівасці. Між тым, некаторыя СМІ пішуць, што Сесіль апранаецца яшчэ дастаткова сціпла. Вось, напрыклад, сацыялістычны міністр культуры Жак Ланг хадзіў на працу ў гавайскай кашулі.

### ГАННА ГЕРМАН



Дарадчыку прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча, як і ўсім алігархам, якія складаюць касцяк Партыі рэгіёнаў, хочацца неяк выявіць сябе. Ганна не стала набываць шыкоўнае аўто ці футбольны клуб. Яна паставіла ў галоўным драматычным тэатры Украіны п'есу, якая напісаная па матывах яе аповесці «Повертай до свого звідтіля». У аснове аповесці гісторыі пра заходніх украінцаў, якія на напаўзламаным аўтобусе вяртаюцца на радзіму пасля працы за мяжой. На сцэне паказваюць карціны-ўспаміны з іх жыцця ў галіцкай вёсцы. Мерапрыемства ніяк не нагадвала дэбют малавядомага пісьменніка. Партэр занялі дэпутаты, міністр культуры, пісьменнікі. Адным словам, поўны аншлаг. Прэм'ера прайшла на ўра. І гэта толькі пачатак. Ганна Герман ужо паабяцала змясціць п'есу ў сталы рэпертуар тэатра імя Франко. Па яе словах, яго тэатральны дырэктар Богдан Ступка ўжо разглядае такую ідэю. А вось простая публіка, калі меркаваць па нататках на форумах, не ў захапленні. «Калі справа пойдзе так і далей, то замест Шэкспіра ў школах будзем вучыць Герман», — сумна прагназуе адзін з блогераў.

▸ РАЗВАЖАННІ

# ШТЫК СУПРАЦЬ ПЕСНІ

Юрка КОПЦІК

**Канфлікт творцы з соцыумам заўжды быў непазбежнай, а часам нават і неабходнай умовай творчасці. Але калі творца патрапляе ў канфлікт з дэспатычнай уладай, то ў сілу ўступаюць ужо іншыя законы. Паспрабуем паназіраць, як гэта адбывалася ў музычнай сферы.**

Калі пачынаць ад самага пачатку, дык трэба сказаць пра непрыязнасць савецкага таталітарызму да любой мастацкай з'явы, якая выходзіла за межы ім жа ўсталяваных ўзораў і нормаў. І ў гэтым ён не быў арыгінальны: нешта падобнае назіралася і ў нацысцкай Германіі, і ў фашысцкай Італіі, і ў франкісцкай Іспаніі.

Не будзем забываць, што бальшавікі самі прыйшлі да ўлады пад акампанемент добрага тузіна рэвалюцыйных песень, адна з якіх нават нейкі час была гімнам савецкай імперыі. Таму ўжо хто-хто, а яны цудоўна ведалі і разумелі сілу палымянага песеннага слова.

## Пад таталітарным каўпаком

Але першымі сур'ёзнымі ахвярамі крамлёўскага музыказнаўцы тады сталі не выканаўцы заакіянскага джазу, асацыяльнага адэскага фальклору ці артысты кабарэ, а якраз савецкія кампазітары-сімфаністы паваеннага часу — узгадаем артыкул «Сумбур вместо музыки» ў галоўнай газеце краіны ды ўсе яго наступствы. Да такіх сур'ёзных прэтэнзій да сур'ёзнай музыкі ніводны дыктатар ні да гэтага, ні, здаецца, пасля яшчэ не ўздымаўся! Але навальніца над савецкімі класікамі тады скончылася практычна нічым, музыказнаўцы неўзабаве не стала. Шастаковіч, Пракоф'еў і Шнітке засталіся жывыя.

Калі мінуць барацьбу з выключна перайманьнай музыкай плыні стылягаў 1950-х гадоў (арыгінальныя творы гэтага руху з'явіліся значна пазней) і звязаных з гэтым новых ганенняў на джаз, то наступным пунктам супрацьстаяння стала аўтарская песня 1960–1970-х гадоў. Не магла не стаць. Яна не была з чужога пляча, не абмяжоўвалася лірыкай, звярталася да слухача наўпрост, сам-насам, і гаварыла пра тое і той мовай, пра што думалася і гаварылася на кухнях, у аўдыторыях і рабочых курылках.

Яе слухала студэнцтва і інтэлігенцыя. Ёй не існавала межаў і бар'ераў. Для яе не было забароненых тэмаў. Асаблівасцю таго перыяду аўтарскай песні ў СССР стаў нечаканы выбух папулярнасці блатной песні («Блатные песни поет интеллигенция». Сёння б сказалі — «рускі шансон», хаця першасны тэрмін, здаецца, больш дакладны). Аўтарская песня стала нават уплываць на савецкую эстраду — яна тады раптам зрабілася больш спакойнай, лірычнай, уцямнай і душэўнай. Многія песні прафесійных кампазітараў былі напісаныя абсалютна ў стылі аўтарскай песні, і тэксты паэтаў-песеннікаў таго часу былі вартыя тых мелодый.



Булат Акуджава



Уладзімір Высоцкі

Цікава, што «за бугром» у гэты ж час было практычна тое ж самае: думкамі пратэстуючай супраць в'етнамскай вайны моладзі валодалі не Элвіс Прэслі і «Біч бойз», але Боб Дылан, Джоан Баэз, Піт Сігер ды іншыя выканаўцы амерыканскага варыянту аўтарскай песні. У Брытаніі былі Донаван, Мелані. І ўсе яны таксама не былі сваімі ў машыне шоў-бізнэсу. Гэта была сапраўдная контркультура. Менавіта пад іх уплывам амерыканскі і брытанскі рок-н-рол сталі тым, чым яны тады сталі, — музыкай пратэстнага пакалення.

У СССР гэты працэс зацягнуўся на дзесяцігоддзі. Таму перакананы: магільшчыкамі савецкай імперыі сталі не Салжаніцын і не тыя 7 чалавек, што выйшлі ў жніўні 1968-га на Красную плошчу ў знак пратэсту супраць уварвання войскаў савецкага блоку ў Чэхаславакію. Дысідэнты, «Хроника текущих событий» ды падобная перыёдыка не мелі тады шырокай вядомасці і ўплыву на масавую свядомасць.

## Аўтарская песня супраць імперыі

Разбурыла СССР тое пакаленне, якое вырасла, пасталела і ўсвядоміла сябе грамадзянамі краіны пад песні Візбара, Высоцкага, Акуджавы ды іншых менш вядомых і цяпер ужо забытых аўтараў. Элітарнае мастацтва — сур'ёзная проза, выяўленчае мастацтва, тэатр — у сілу сваёй элітарнасці не было здольнае ўздзейнічаць на масы так інтэнсіўна, як музыка, як песня. Кіно было здольнае. Але ў СССР тое кіно, якое несла зарад таленавітасці, шчырасці, тым больш нейкага нонканфармізму, непазбежна рабілася або элітарным, або надоўга клалася на паліцу. Хаця цяпер, з-за смугі гадоў, камедыі Леаніда Гайдая падаюцца больш значнымі, больш уплывовымі на свядомасць гледача, чым здаваліся тады.

Праўда, быў кароткі перыяд, калі новая генерацыя савецкіх паэтаў (найперш Еўтушэнка, Вазнясенскі) пачалі збіраць цэлыя стадыёны. Але запал 1960-х гадоў у іх творчасці хутка выветрыўся, і стадыёны апусцелі. Рускі рок усё ніяк не мог вырасці з кароткіх штонікаў: апрача Градскага, які ўжо з пачатку 1970-х пачаў больш-менш прыстойна запісвацца, гучаць у фільмах («Раманс аб закаханых») і нават сёе-тое афіцыйна выдаваць на пласцінках, не было на чым вока спыніць. Здаецца, гэта дзякуючы яму тады нарэшце спыніліся дыскутаванне: ці можна быць рок-н-рол на рускай мове.

У задушлівай атмасферы брэжнеўскага праўлення аўтарская песня дамінавала сярод неафіцыйнай песеннай, ды і не толькі песеннай творчасці. Прычым нельга сказаць, што гэтаму асабліва спрыяў унікальны для СССР рух КСП ці Грушынскі фестываль аўтарскай песні. Нават не беручы ў разлік вострага, але маладаступнага тады Галіча, здавалася б, нават бяскрыўдныя песні пад гітару «пра жыццё» настолькі адрозніваліся ад панаваўшай бадзёранькай лірыкі савецкай эстрады, што непазбежна пазначаліся ў падсвядомасці слухача як нешта сапраўднае, нефальшывае, шчырае. Галоўнае адрозненне іх ад эстрады было ў тым, што яны цвяроза глядзелі на рэчы, прымушалі думаць, давалі для гэтага глебу. Аднак парадокс: «прасаванне» органаў тады было скіраванае якраз не столькі на іх, колькі на афіцыйную эстраду. І тычылася не зместу песень, а зместу «левых» ганарараў ідалаў савецкай папсы кшталту Магамаева ці Абадзінскага... Але саджалі чамусьці выключна канцэртных адміністратараў.

## Музыка дамініёна

Беларусі гэта доўга не датычыла. У той ступені, у якой можа не датычыць дамініёна культура метраполіі. Прыклад таму — джазавы аркестр Эдзі Рознэра і затым аркестр Мінскага цырка. Самымі вострымі пытаннямі музычнага жыцця БССР 30–40-х гадоў была крытыка опер «Міхась Падгорны» і «Кветка шчасця» за недастатковую сувязь з цудоўнай сталінскай сучаснасцю ды падрыхтоўка грандыёзнай дэкады дзён культуры БССР у Маскве ў 1939–1940 гадах.

Тут існавала афіцыйная абойма сваіх сур'ёзных ды эстрадных кампазітараў і артыстаў, а пазней выключна перайманьная рок-музыка, якая далей выканання вядомых стандартаў англа-амерыканскага рок-н-ролу не сягала. №1 беларускай эстрады 70-х гадоў Віктар Вуячыч хаця і гастраляваў па свету, але ніяк не цягнуў на «зорку», параўнальную з Ільвом Лешчанкам ці Марыяй Пахомавай.

Але быў феномен «Песняроў». Песенны фальклор у новым прачытанні поруч з высокай культурай выканання нечакана зрабіў іх кумірамі, прыцягнуў увагу моладзі да першароднай прыгажосці народнай песні. Упершыню за многія гады беларуская моладзь пачала слухаць беларускія песні. І гэта стала першым сігналам трывогі для каманды Машэрава. Здаецца, не ў апошнюю чаргу, каб зняць прывідныя падазрэнні ў нацыяналізме, Мулявін тады зрабіў кампрамісны ход канём: былі запісаныя некалькі даволі бясколерных і эклектычных праграм, сярод якіх «Через всю войну» сталася бадай самай няўдалай у песняроўскай творчасці.

Былі дзе-ндзе і КСП, і аўтарская песня, якая практычна нічым не вылучалася ад аўтарскай песні Свярдлоўска ці Петразаводска.

## Беларускія барды

Беларуская аўтарская песня шырока загучала практычна поруч з беларускай рок-музыкай. І гэта ўжо былі 80-я гады. Калі «Мроя», створаная ў 1981-м, пазней яшчэ неяк магла быць даступная шырокаму колу слухачоў праз адну вячаровую перадачу на радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» (называлася «Хіт-парад»), то нацыянальная аўтарская песня ішла практычна самастойна. Праўда, была яшчэ камсамольская газета «Чырвоная змена» і дзіцячы (!) часопіс «Бярозка», якія пазней больш-менш перыядычна пачалі пісаць пра гэта. Не забуду добрым словам згадаць і часопіс «Крыніца».

Здаецца, першым беларускім бардам у класічным разуменні гэтага слова стаў Эдуард Акулін, і адбылося гэта значна раней за хіт-парады Віталя Сямашкі і «Чырвоную змену» з «Бярозкай» з опусамі Вітаўта Мартыненкі. Але гэта быў самы пачатак, таму ні нацыянальнай рок-музыцы, ні аўтарскай песні не давялося перажыць нічога падобнага ціхаму прасаванню Высоцкага і разгону з вайсковымі верталётамі Грушаўскага фестывалю ў 1970-х гадах, ні чарненкаўскага пагрому рускага рок-н-ролу пачатку 80-х (калі ўпершыню пачалі саджаць не за ганарары, а за музыку), ні спісаў забароненых савецкіх і «забугорных» выканаўцаў, што гулялі па камітэтах камсамолу, аддзелах культуры і рэпертуарных камісіях.

Нашых у тых спісах не было. «Мрою», «Магістрат» і «Бонду» папросту ніхто не пускаў у канцэртныя залы і без спісаў, Акулін, Цярэшчанка, Камоцкі, Сокалаў-Воюш ды іншыя барды выступалі раз-пораз перад вузкім колам слухачоў. У нас гэтага нібыта не было. Таму ў «ружовым доме» ідэолагі спакойна спалі, і гэтым карысталіся тыя калякамсамольскія дзеячы, што яўна пачалі адбіваць ад рук і ўзяліся за арганізацыю рок-канцэртаў і нават фестываляў.

Праўда, «ружовы дом» у студзені 1984 года са старонак «Советской Белоруссии» наехаў на маладзевы часопіс «Рабочая змена», што даў сабе занадта вольніцы, і не ў апошнюю чаргу адносна рок-музыкі. Але пры ўсіх тых вольнасцях там практычна ніколі не пісалі пра нацыянальных выканаўцаў рок-музыкі ці пра аўтарскую песню, калі не адносіць да такіх «Сузор'е» ці дуэт Вайханскіх.

Ва ўсялякім выпадку наехалі тады на «Рабочую змену» зусім не за гэта. «Гэта» да часу не патрапляла ў поле зроку ўлады. Павевы ішлі з метраполіі, ні бы з Пецера і Масквы. ЦК КПБ даволі вяла зрэагаваў на пастанову ЦК КПСС ад 19 чэрвеня 1984 года па пытанні ўпарадкавання дзейнасці вакальна-інструментальных ансамбляў, і тут у цэлым даволі фармальна правялі рэгістрацыю, пашпартызацыю і атэстацыю ВІА.

Ідэалагічнае суправаджэнне гэтай кампаніі было гэткім жа вялым: напрыклад, і сёння без смеху нельга чытаць пагромны артыкул нейкага Н. Пазднякова «Куміры з перакошанымі ратамі» ў газеце «Знамя юности» (май 1984 года), прысвечаны заходняй рок-музыцы, дзе пераблытана літаральна ўсё — імёны, назвы, стылі...

Аўтарская песня ў сілу сваёй спецыфікі ўвогуле даволі доўга не трапляла пад нейкія пастановы. Аднак праз 3 гады тут сітуацыя ўжо была іншая: запісы, выступы, кружкі, фестывалі — «На доўгім бродзе», «Тры колеры»... Рэакцыя




Гурт «Ulis»

была адпаведная: артыкулы «пра рок», цяпер ужо свой, у прэсе рознага калібру і рознай кампетэнцыі. І як вынік — пастанова ЦК КПБ у чэрвені 1988 года «Аб дадатковых мерах па паляпшэнні эстэтычнага выхавання моладзі... і мерапрыемстваў па пытанні ўпарадкавання дзейнасці ВІА, павышэнні ідэйна-мастацкага ўзроўню іх рэпертуару». Як бачна, тон і стыль пастаноў тых часоў практычна ідэнтычныя сённяшнім, што выходзяць з таго ж самага дому ці ягоных структур. Хаця пішуць іх ужо іншыя людзі, але школа адчуваецца. Здаецца, за рок-музыкаў тады хацелі ўзяцца ўсур'ёз.

## Вясна беларускага року

Але тут ужо не паспявалі за часам. Час падганяў, і падзеі хутка завіравалі так, што ўладзе стала не да музыкі. Залаты час быў для музыкаў, скажу я вам. Не было асаблівай апаратуры ды інструментаў, але які быў росквіт творчасці! Усё, што трымалася ў душы за сямю пячаткамі доўгі час, пачало выплёсквацца ў песнях. «Гаспадары краіны, / Навошта вы мне, навошта я вам? / Сум свой я адчуваю сам, / Толькі я сам!» («Іржавыя дні», рок-гурт «Уліс»). Наогул, творчы альянс «Улісу» з паэтам Феліксам Аксёнцавым даў тады вынік такога ўзроўню, да вышынь якога «Улісу» пасля ўжо ўзняцца так і не ўдалося: «Тады Прага была, / Ды спытаў мяне нейкі карчмар: / Адкуль ехаў мой танк, / Ды чаму я хаваю свой твар?/ Чаму хакі мой джут, / Ды чаму мая зброя зноў тут?/ Прабач, пражскі карчмар, / Прабач, што ты бачыш мой твар» («Будапешт—Прага—Кабул», рок-гурт «Уліс»). «Колькі год марылі, / Каб прыйшлі маскалі / З мовай, праўдай, сваім урадам. / Колькі год марылі, / Урэшце рэшт даждалі — / Дзякуй вам, дарагія браткі!» («На полі Аршанскае бітвы», Андрэй Мельнікаў). «Такое жыццё даў пан Бог нам ласкавы, / Без добрых сяброў, без кахання, без славы. / Жыццё, але ж хіба зграшу, будзь і можна, / Такое паскудства жыццём называць?!» («Добрай раніцы, жлобская нацыя!» Віктар Шалкевіч).

Сёння можна бясконца цытаваць песні таго часу, часу вясны народаў савецкай імперыі. Новыя палітыкі напоўніцу карысталіся той творчай вольніцай: не было такога мітынгу, дзе б ні выступалі Сокалаў-Воюш ці Мельнікаў. Як з-пад зямлі ўзнік недзяржаўны фестывальны рух: у 1990 годзе прайшло першае «Басовішча» на Беласточчыне, якое з таго года рэгулярна праходзіць там кожнае лета. У першыя гады там гучала і аўтарская песня, але хутка рок выцесніў бардаў адтуль цалкам. І яны перапаўзлі на іншы фестываль — «Бардаўская восень», які праходзіць з 1991 года ў Бельску-Падляскім.

## Спецназам па музыцы

Іншы лёс чакаў падобныя фестывалі ў РБ. Амаль ніводны з іх не дажыў да сённяшняга дня. Напрыклад, полацкае «Рок-кола» таксама нарадзілася ў 1990-м. Сімпатычнай рысай гэтага папулярнага фэсту было тое, што ў конкурснай праграме абавязковай умовай была наяўнасць беларускага твора. І вось у 2007 годзе без тлумачэння прычын, як сказаў яго нязменны арганізатар і дырэктар Сяргей Аніщанка, фестываль быў уладамі скасаваны.

Першы разгон адкрыты фестываль беларускай аўтарскай песні «Аршанская бітва» (год нараджэння 1991) спазнаў у тым жа 2007-м: тады прыдумалі байку, што ў Дняпры блізу традыцыйнага месца фэсту ляжаць снарады. Снарадаў там не знайшлі, але па размаху сіл і сродкаў, прыцягнутых тады для разгону, міліцэйскую аперацыю можна смела параўнаць з экспедыцыямі супраць партызан 1943–1944 гадоў. З таго часу «Аршанская бітва» праходзіць фактычна ў напаўпадпольных умовах — выявілася, што з бардамі справіцца не так проста, як з рокам. Строга кажучы, спецыфіка жанру не патрабуе ў прынцыпе нічога, апрача акустычнай гітары ды вогнішча. Улада нават заканадаўства пасля першага разгону падагнала адмыслова пад «Аршанскую бітву». Каб не давялося зноў шукаць міфічныя «снарады»...

## Папса «за», рок і барды — «супраць»

Аднак першай ахвярай улады сталася тады не песня, а тагачасны самы эфектыўны яе праваднік: урад Кебіча скасаваў напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 1994 года радыёстанцыю «Беларуская маладзёжная»


Піт Сігер


Боб Дзілан


Гурт «Мроя»

панія «Голосуй за Беларусь!». Хаця рэальна яны былі задзейнічаныя, канешне, яшчэ раней. Цікава, як тады ўсё расклалася: «За Беларусь» пайшла агітаваць выключна адна прыкормленая беларуская папса, а, паводле логікі, супраць Беларусі — рок ды месцамі і мамантамі аўтарская песня.

Яшчэ больш цікава, што ва Украіне адбылося практычна тое ж самае — у час аранжавай рэвалюцыі ўкраінскі рок павальна стаў на бок аранжавых, а пераважна рускамоўная папса — за белаблакітных. У нас гэты падзел стаў яшчэ больш яскравым. Адзін наш сябра вялікай сцэны і тэлеэкрана, які некалі з таго ж экрана прынародна абвяшчаў, што будзе цяпер гаварыць толькі на мове, раптам радасна зашчабятаў на «великом и могучем», а ягоная каманда заспявала вернападданую песеньку «Слушай батьку!». А тая папсовая «зорка», што ў прынцыпе не адмаўлялася, але па маладосці і глупству не зразумела, што за ўдзел у «голосе» нельга патрабаваць яшчэ і грошы, вокамгненна павылятала і са сцэны, і з радыёэфіру, і з тэлеэкрану. І мала хто тады на ягоную «адсутнасць прысутнасці» звярнуў асаблівую ўвагу. Так што калі наступным разам «зорак» паклікалі «За Беларусь!», то недаходлівых ужо не назіралася. Тэндэнцыі, як той казаў, наводзяць на роздумы.


Грушынскі фестываль аўтарскай песні

## У падполлі

Але ў адрозненні ад манапалізаваных вялікай сцэны, FM і «скрынкі», жыццёва неабходных для папсы, рок-музыка і аўтарская песня могуць існаваць і ў малым фармаце, на якім яны і выраслі. Найперш «Беларуская музычная альтэрнатыва» ды шэраг іншых, часам і не камерцыйных структур, наладзілі выпуск альтэрнатыўнай дзяржпапсе музыкі самых розных кірункаў і стыляў на CD. А сетка музычных клубаў сталася той праваднай сістэмай, што забяспечыла жывую сувязь паміж выканаўцам і слухачом. Асабліва гэта стала відавочным у час Плошчы–2006, з небывалым поспехам складанак «Песні Свабоды».

З таго часу рознага кшталту складнікі ды альбомы перыядычна выходзяць у Беларусі, мінуючы цэнзурна-ідэалагічнае сіта. Плошча–2006 і чорныя спісы ледзь не сталі нагодай своеасаблівай рок-эміграцыі: у адказ на зачыненыя дзверы канцэртных залаў, радыёстанцый і TV на радзіме, ва Украіне, у Луцку, у 2007 годзе быў арганізаваны фестываль «Be free» («Будзь вольны»), дзе беларускія выканаўцы склалі аснову ўдзельнікаў. Сярод усяго іншага гэты фэст паставіў за мэту прыцягнуць увагу шырокай грамадскасці да парушэння правоў чалавека ў Беларусі, наяўнасці ў нас палітзняволеных і чорных спісаў забароненых выканаўцаў.

Рэзананс таго фэсту прымусіў уладу на наступны год, калі «Be free» мусіў паўтарыцца, арганізаваць на ўкраінскай мяжы сапраўдны мытны тэрор, каб не выпусціць непаслухмяных рокераў на мяцежны фестываль. Аднак наверсе зразумелі, што супрацьстаянне набывае непажаданыя нюансы і розгалас, і неўзабаве самі прапанавалі рокерам мір. Той мір на паверку стаўся даволі хітрым ходам і датычыўся далёка не ўсіх: напрыклад, пасля апоўначы на тэлеэкране калі-нікалі можна было ўбачыць «Краму» ці зрэдку пачуць на FM «Partyzone» далёка не ў самы зручны час. Аднак выручалі да часу фестывалі самага рознага кшталту, якіх распладзілася з-за недагляду «вертыкалі» багата і пералічыць якія даволі складана. Але цяпер, здаецца, і да іх нарэшце дабраліся.

## Эстрадны базар

У гэтай сувязі давайце звернем увагу на самыя афіцыйныя эстрадныя фэсты РБ нашага часу. Можа, яны квітнеюць у практычнай адзіноце з-за мінімальнай канкурэнцыі з боку недзяржаўных? Асабліва, калі паглядзець на тыя грошы, якія штогод дзяржава выдаткоўвае ў падтрымку існавання буйнейшага з іх — «Славянскага базару» ў Віцебску.

Калі апусціць тыя мыльныя піяр-бурбалкі, якімі пастаянна стараюцца засланіць сапраўднае становішча спраў, то выяўляецца няўхільнае зніжэнне цікавасці гледача да яго і, як вынік, зніжэнне і без таго не дужа высокага прэстыжу гэтага міжнароднага эстраднага форуму з немалой гісторыяй. Калі квіткі на канцэрты «Базару» распіхваюцца ў добраахвотна-прымусовым парадку праз прафкамы розных прадпрыемстваў гарадоў Віцебскай вобласці з арганізаваным імі ж завозам такіх гледачоў аўтобусамі, а радасны ажыятаж у зале віцебскага амфітэатра прафесійна ствараюць пераапранутыя ў цывільнае курсанты ВНУ сілавых структур, дык куды ўжо далей!

Не нашмат лепш і з маладзечанскім фестывалем беларускай песні. Кожны год амаль адзін і той жа набор артыстаў і песень, а многія выканаўцы, адспяваўшы належнае, пастаянна «спасібкаюць» зале ды пытаюцца: «Где ваши ручки?»

Выяўляецца цікавая рэч: нацыянальная мова становіцца адным з устойлівых фактараў творчага нонканфармізму, у першую чаргу ў музычнай сферы.

А пакуль што на тле з кожным новым абломам усё больш навязлівага імкнення беларускай улады засвяціцца на «Еўрабачанні» абвешчанае замірэнне з нацыянальным рокам становіцца ўсё больш фальшывым. Гэта асабліва заўважна, калі напаўслове ў эфіры спыняецца трансляванне песень апальных выканаўцаў, а галоўнага «Ляпіса» беларуская пракуратура гатовая тузануць да адказу «за базар» і з-за мяжы.

З аўтарскай песняй жа гэтага замірэння практычна і не было. На памяць прыходзіць толькі адна спроба «зверху» арганізаваць фестываль-конкурс беларускай аўтарскай песні; гэта «Залатая Горка–94». Спроба была прызнаная няўдалай, і пасля былі толькі рэпрэсіі. Пры гэтым традыцыйны летні фестываль рускай аўтарскай песні на Бярэзіне пад Бабруйскам ніколі падобных наездаў не спазнаў.

▸ АГЛЯД

# КАЛІ МУЗЫКА — АЛЬТЭРНАТЫВА СПЯКОЦЕ

*Анатоль МЯЛЬГУЙ*










**Лета — традыцыйна час адпачынку і падарожжаў. Музычная ж сцэна ў гэты час вызначаецца маўклівасцю: канцэртная дзейнасць згортваецца, а выданне і прэзентацыя новых музычных рэлізаў скарачаецца да мінімуму. Але ў гэтай тэндэнцыі бываюць і выключэнні. Не так даўно беларуская фанаграфічная калекцыя займела некалькі цікавых музычных выданняў, пра якія сёння пойдзе размова ў аглядзе новых беларускіх альбомаў.**

## Рэха вялікай традыцыі

Некамерцыйны праект удзельнікаў «Дударскага клуба» — дыск «Дударская музыка Беларусі» — мае значны адукацыйны кантэкст. На ім упершыню сабраны пад адной вокладкай узоры беларускай дудовай музыкі, якраз таго перыяду нашай гісторыі, калі гэты інструмент меў вялікую значнасць для народнай культуры, лічыўся ледзь не галоўным у нацыянальным фальклорным пантэоне, а таксама, больш пазнейшага перыяду бытавання дуды. З другога боку, з'яўленне на дыску архіўных трэкаў з запісамі дударскай музыкі можна лічыць вялікай удачай тых даследчыкаў, якія ў Беларусі шчыльна займаюцца вывучэннем гісторыі беларускай дуды і аднаўленнем школы ігры на ёй.

Тое, што ёсць адчувальныя вынікі росшукаў, сведчаць запісы народных мелодый у выкананні беларускіх дудароў 30-х гадоў мінулага стагоддзя Сцяпана Шыкоўскага і Хведара Стэся, прадстаўленыя на дыску. Першы трэк «Лявоніха» адразу рыхтуе нам яскравы сюрпрыз. Толькі добра ўслухаўшыся ў мелодыю твора, можна пазнаць славуты беларускі танец. І гэта не выпадкова: у часы, калі рабіўся гэты запіс, былі вядомы дзясяткі варыяцый «Лявонiхі». І дударскі варыянт — адзін з найбольш пераканаўчых. Да таго ж, час змяніў акустычную атмасферу запісу, і цяпер знакамітая мелодыя ахутана касмічнымі гукамі і тэмбрамі. Але для спрактыкаванага ў дударстве вуха гэтыя гукі і ёсць крыніцай спазнання гісторыі інструмента і фундаментам нацыянальнай выканаўчай школы. Як і наступныя найгрышы названых напаўзабытых беларускіх дудароў, творы якіх адшукалі маладыя энтузіясты. Сярод такіх каштоўных знаходак і «Дудар» у выкананні Хведара Стэся. У гэтых старажытных напевах, якія калісьці гучалі на сямейных святах ці пахаваннях, абрадах, ці проста ў корчмах, адчуваецца велічная прастата мелодый, магутны духоўны патэнцыял беларускай дуды як сакральнага інструмента.

Што тычыцца іншых трэкаў гэтай фанаграфічнай навінкі, то яны дэманструюць напрамкі, па якіх сёння ідзе развіццё айчыннай дударскай школы. Тут ёсць аднаўленыя па нотных запісах узоры фальклорных найгрышаў, творы, якія рэканструяваныя паводле запісаў беларускіх фалькларыстаў і этнографаў мінулага. Яны на дыску гучаць у апрацоўцы гурта «Testamentum Terrae» пад кіраўніцтвам Юрася Панкевіча — «Слаўны Паніч» і «А я люблю піва», якія былі адшуканыя выканаўцамі ў запісах Міхала Федароўскага.

Для маладых слухачоў пададуцца цікавымі джазавыя імправізацыі з выкарыстаннем дуды міжнароднага трыа Кашкурэвіч—Ковера—Вішняўскас, ды-джэйскія эксперыменты з мелодыямі «Старога Ольсы» DJ Anton'а. Таксама, як і фолк-рок ад крэатыўных «Litvintroll», і Тодара Кашкурэвіча, якіаднойчы запісаў разам з гуртом «Vicious Crusade» класічную цяпер «Тодараву песню».

Дыск «Беларуская дударская музыка» стаў яшчэ адным крокам да ўмацавання беларускай дударскай школы, метадычным дапаможнікам для пачынаючых выканаўцаў. Да таго ж выдатным гукавым дапаўненнем да матэрыялаў альманаха «Dudar» — асаблівага гонару беларускіх выканаўцаў на дудзе.

## З правінцыі з любоўю

Бярозаўскі гурт «Кальмары» можна лічыць своеасаблівым сайд-праектам іншых знакамітасцяў горада Бяроза — гурта «:B:N:». У «Кальмарах» граюць шмат удзельнікаў «:B:N:», у тым ліку гітарыст Максім Літвінец, а таксама вакаліст і фронтмэн Алесь Лютыч. А вось лідар і стваральнік «Кальмараў» Сяржук Машковіч піша тэксты для абедзвюх каманд. У гэтым сэнсе «:B:N:» і «Кальмары» — таварыскія музычныя фармацыі. Але на гэтым усе паралелі заканчваюцца: занадта розныя творчыя і гукавыя канцэпцыі гэтых гутоў з Бярозы, што і засведчыў дэбютны дыск «Кальмараў» «Пад піва».

Відавочна, што рок-каманды з вострымі сацыяльнымі тэкстамі, якой і з'яўляецца «:B:N:», для аднаго невялікага горада будзе занадта шмат. Таму, стваральнікі «Кальмараў» вырашылі, не змяняючы накірунку ў бок нечага супермоднага, напоўніць сваю музыку сатырычнымі і гумарыстычнымі вершамі і стыльным гучаннем, характэрным для пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Гэты кактэйль нагадвае і савецкую эстраду «застойнага» перыяду, і амбіцыйных сельскіх рокераў, што імкнуліся граць на ўсіх навакольных вяселлях, ператвараючы іх у нешта падобнае на рок-канцэрты.

Дыск пачынаецца праграмнай кампазіцыяй «Кальмары пад піва». Стварыць кампазіцыю, па гучанню якой бы вызначалі гурт, вельмі складана. Асабліва калі шукаць тэму, блізкую ўсім прыхільнікам. У «Кальмараў» гэткай «фішкай» з'яўляецца піва пад кальмары. Што ж, арыгінальнай ідэяй гэту песеньку не назавеш, але яна б магла стаць добрым дадаткам для культавага «Піўнога альбома», калі б той пабачыў свет.

А сапраўднай візітоўкай, як па ідэі, так і музычнаму ўвасабленню, стала наступная кампазіцыя дыска «Хлопчыкі з Бярозы». Наіўна? Але задорна і па-фальклорнаму хітова! Мелодыя песні адразу западае ў душу, сведчыць, што моладзь не перастае любіць сваю зямлю, сваю малую радзіму.

Частка кампазіцый гурта — сатырычныя замалёўкі з жыцця правінцыйнага горада Х. У іх і цяжкае жыццё бяздомных («Бамжы»), алкагалізм мясцовых жыхароў («Калдыры») і вузкасць кругагляду некаторай часткі моладзі («Пакаленне пепсі-кола»). Але «Кальмары» падыходзяць да балючай тэматыкі не з негатыўных пазіцый, а па-добраму, з гумарыстычнага пункту гледжання. Гэта робіць гурт і іх творчасць чаканым стылістычным дапаўненнем знаным гуртам сатырычнага напрамку ў Беларусі — «Крамбамбуля» і «Разбітае сэрца пацана».

## На піку музычных трэндаў

Сярод лідараў айчыннай рок-музыкі апошнім часам вылучаецца творчасць магілёўскага гурта «Akute». Як адзначалася слухачамі і рэцэнзентамі, каманда імкнецца граць модную і адначасова інтэлектуальную музыку, падмацаваную беларускамоўнымі тэкстамі сімвалічна-філасофскай накіраванасці. Гэтая асаблівасць кампазіцый «Akute» была заўважана на дэбютным альбоме «Дзевачкі і космас», які адлюстраваў пачатковы этап развіцця рок-трыа. Але асаблівасць маладых музыкантаў — у пастаянным імкненні да навізны ў аранжыроўках і тэмах выконваемых музычных твораў. Гэтую тэндэнцыю можна заўважыць пры праслухоўванні новай кружэлкі «Akute», якую музыканты назвалі ў накірунку філасофскіх катэгорый В. Акудовіча — «Не існуе».

Відавочна, што музыканты натхніліся поспехам сваёй дэбютнай працы (якая спачатку была прадстаўлена ў інтэрнэце, а пасля прэзентавалася «жыўцом») і працягнулі свае інтуітыўныя музычныя эксперыменты на больш дасканалым тэхнічным узроўні. Гэтым музыканты забяспечылі новую якасць твораў альбома, якія цяпер успрымаюцца слухачамі як беларускія хіты новага часу. Такімі песнямі ў моднай стылістычнай «абгортцы» багаты новы альбом «Akute». Маю на ўвазе такія кампазіцыі, як «Кроў бы вада», «Ціха, як мая смерць», «Ліпкае», «Шпіталь». У гэтых кампазіцыях — і гэта агульная тэндэнцыя ў трансфармацыі гучання гурта — стаўка была зроблена на гітарны гук, набліжаны да мінімалізму, незвычайныя сугуччы акордаў і гітарных эфектаў Стася Мытніка. Да таго ж, гэтыя песні маюць яшчэ і выразную рытмічную структуру, якую забяспечваюць басіст Раман Жыхараў і бубнач Павел Філатаў. Такія спалучэнні робяць музыку «Akute» ідэальнай для канцэртных залаў і клубаў, дзе апошнім часам граюць магілёўцы.

Да гонару ўдзельнікаў «Akute» трэба адзначыць і яшчэ адну акалічнасць іх новага альбома: музыканты не замыкаюцца ў адноўчы абраным музычным напрамку. Яны імкнуцца да большай разнастайнасці ў аранжыроўках і да стварэння адрознай атмасферы кампазіцый. Таму такімі свежымі і незвычайнымі падаюцца песні, якія непадобныя да агульнага напрамку альбома: калыханка для дарослых «Спі», акустычныя «Зоркі», калючыя «Іголкі».

Стыльнасць і глыбіня лірыкі гурта, думаю, будуць дамінаваць у прыхільнасцях беларускіх слухачоў увесь год і зробяць вялікі ўплыў на рашэнне журы сёлетняй «Рок-каранцыі» адносна вызначэння лепшага альбома бягучага года. Сваім новым дыскам «Не існуе» «Akute» стварыў для гэта трывалы падмурак.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.
ЗАСНАВАЛЬНІК: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.
ВЫДАВЕЦ: Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 651 21 12, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.org
НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет».
г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
Замова №481

Падпісана да друку 25.05.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.